26 кастрычніка 2018 | № 39 (602)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

Такую дзяржаву разбурылі!

стар. 21

ISSN 2218-2144

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ





# Як беларусу ў рай патрапіць?

## Беларусь можа апынуцца адной з першых ахвяраў ядзернага Апакаліпсісу



Сяргей ПУЛЬША

«Мы як пакутнікі трапім у рай, а яны проста здохнуць, таму што нават пакаяцца не паспеюць», — гэтыя словы Уладзіміра Пуціна імгненна разляцеліся па свеце. Менавіта так кіраўнік Расіі ўспрымае ваенную дактрыну сваёй дзяржавы.

Пра ваенную дактрыну Пуцін разважаў на пасяджэнні дыскусійнага клуба «Валдай» — штогадовай канферэнцыі, дзе збіраюцца эксперты па Расіі з усяго свету. Паводле яго слоў, ваенная дактрына Расіі не дае права нанесці першы ядзерны ўдар. «Наша канцэпцыя — гэта зваротна-сустрэчны ўдар», — сказаў ён. Калі вораг выпусціць ракету, то на працягу некалькіх секунд будзе высветлена, што адбываецца, і Расія наносіць удар у адказ. «Вядома, гэта сусветная катастрофа, але я паўтараю, мы не можам быць ініцыятарамі катастрофы... Агрэсар усё роўна павінен ведаць, што адплата непазбежная, што ён будзе знішчаны. А мы — ахвяры агрэсіі», — сказаў Пуцін і працягнуў вышэйзгаданай цытатай пра «рай» і «здохнуць».

Інтэрнэт вокамгненна напоўніўся жартачкамі, дзе расіянін трапляе ў рай, а там таксама кіруе Пуцін. Лідару РФ узгадалі нават Земфіру: «Ты, конечно, сразу в рай, а я не думаю, что тоже»... Але беларусы з гэтай нагоды не вельмі жартуюць.

Няма падставаў для жартаў. Амаль адразу пасля цікавай заявы Уладзіміра Уладзіміравіча расійскі пасол Міхаіл Бабіч у інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь 1» заявіў, што «любы напад на Беларусь, любы, у вайсковым плане, будзе разглядацца як напад на Расію з усімі выцякаючымі з гэтага наступствамі». Пасол Расіі лічыць, што Беларусь «абсалютна абароненая, можа быць абсалютна спакойная», а ў аб'яднанай групоўкі войск «ёсць усе кампаненты як для абароны, так і для ўдару ў адказ».

Калі Бабіч пад «ударам у адказ» мае на ўвазе тое ж самае, што і Пуцін, не дзіўна, што нашы суайчыннікі не могуць быць абсалютна спакойнымі.

Не ўспрымаем мы гэтыя жарты з яшчэ адной важнай нагоды. Любы, хто адважыцца на ракетна-ядзерную агрэсію, у першую чаргу будзе клапаціцца пра тое, каб «некалькі секундаў», пакуль Расія будзе высвятляць, што адбываецца, цягнуліся як мага даўжэй. І, адпаведна, у першую чаргу паспрабуе «выбіць» сістэмы далёкага выяўлення ракетных запускаў.

Менавіта такая сістэма размешчана ў Беларусі пад Баранавічамі — РЛС «Волга». «Волга» здольная выяўляць балістычныя ракеты ў палёце, касмічныя аб'екты, ідэнтыфікаваць іх і адсочваць траекторыю, размічаючы кропкі старту і фінішу. Далёкасць — ад 2000 да 4800 кіламетраў, у азімутальным сектары 120 градусаў. Акрамя тэрыторыі Заходняй Еўропы станцыя кантралюе раёны патрулявання падлодак NATO у Паўночнай Атлантыцы і Нарвежскім моры.

Адпаведна, першы «ядзерны грыбок», калі ён здарыцца, будзе на тэрыторыі Беларусі. І, падаецца, нам такая перспектыва слаба пасуе. Для беларусаў рай ніхто не абяцаў — толькі для расіян.

Трэба ўзгадаць, што ў 1995 годзе ў абмен на спісанне мільярднага доўгу Расіі за газ і нафту мы пагадзіліся прыняць і дабудаваць гэтую станцыю на ўмове 25-гадовай арэнды. Такім чынам, тэрмін арэнды заканчваецца ў 2020-м — ужо даволі хутка. На фоне словаў Пуціна нам варта было б задумацца, ці працягваць утрымліваць на сваёй тэрыторыі падобны, як высвятляецца, вельмі небяспечны аб'ект.




Варта задумацца і пра тое, якім чынам кіраўнік Расіі можа аддаць загад пра «ўдар у адказ». Думаю, што не апошняй па важнасці кропкай у ланцужку загадаў з'яўляецца 43-і вузел сувязі ВМФ Расіі «Вілейка», які забяспечвае сувязь на звышдоўгіх хвалях Галоўнага штаба ВМФ Расіі з атамнымі падводнымі лодкамі, якія нясуць баявое дзяжурства ў раёнах Атлантычнага, Індыйскага і часткова Ціхага акіянаў. Ён таксама на нашай тэрыторыі, таксама ў арэндзе на 25 гадоў, тэрмін якой таксама хутка заканчваецца. І таксама можа падлягаць першаму — прэвентыўнаму — удару ў час Апакаліпсісу.

**Першы «ядзерны грыбок», калі ён здарыцца, будзе на тэрыторыі Беларусі. А для беларусаў рай ніхто не абяцаў — толькі для расіян**

Журналісты, якія больш сур'ёзна падышлі да «жартачкаў» кіраўніка Расіі, высветлілі, што на самай справе Пуцін крыху схлусіў. Тэкст ваеннай дактрыны нашай усходняй суседкі кажа, што «Расійская Федэрацыя пакідае за сабой права ўжыць ядзерную зброю ў адказ на прымяненне супраць яе і (або) яе саюзнікаў ядзернай і іншых відаў зброі масавага паражэння, а таксама ў выпадку агрэсіі супраць Расійскай Федэрацыі з ужываннем звычайнай зброі, калі пад пагрозу пастаўлена само існаванне дзяржавы». То бок, РФ мае на ўвазе і не «сустрэчны ўдар у адказ», і цалкам можа ўжыць ядзерную зброю пры канфлікце са зброяй звычайнай. Прынамсі, яе ваенная дактрына дазваляе ёй стаць «ініцыятарам катастрофы».

«Рашэнне пра прымяненне ядзернай зброі прымае прэзідэнт Расійскай Федэрацыі», — зазначаецца ў ваеннай дактрыне РФ. Ці можам мы быць упэўненыя ў чалавеку, які мае доступ да ядзернай кнопкі і пры гэтым здольны палохаць свет яе ўжываннем?

Пры такіх раскладах нам варта было б моцна задумацца, ці працягваць мець справу з усходняй суседкай наконт ваенных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі. Дый ваеннага супрацоўніцтва з ёй увогуле.



## КХП-БНФ атрымала дазвол на шэсце і мітынг на Дзяды

**КХП БНФ атрымала дазвол Мінгарвыканкама і аблвыканкама на правядзенне 28 кастрычніка мемарыяльнага шэсця і мітынгу, прысвечаных Дню памяці продкаў Дзяды.**

Збор удзельнікаў у 11.30 каля Гадзіннікавага завода (ст. метро «Парк Чалюскінцаў»). Пачатак шэсця а 12.00. Шэсце пройдзе па пр. Незалежнасці — вул. Каліноўскага — вул. Гамарніка — вул. Мірашнічэнкі.

З 15.00 да 17.00 адбудзецца мемарыяльны мітынг на тэрыторыі Народнага мемарыялу ў Курапатах.

Арганізатары заклікаюць усіх далучыцца да мемарыяльных мерапрыемстваў: «Чаму мы ўшаноўваем нашых Дзядоў? І чаму трэба памятаць нашых Дзядоў? Таму што нашы Дзяды мудрыя. Наша цела і наш розум ад нашых Дзядоў. Яны нам кажуць: трымайцеся свайго, яно для нас лепшае. Беражыце нашу зямлю, нашу мову, нашу культуру — тут наш розум і наша моц. Бараніце нашы каштоўнасці ад прышэльцаў як з Усходу, так і з Захаду. Нашы нацыянальныя каштоўнасці належаць і нашым будучым пакаленням. Слава нашым Дзядам! Жыве Беларусь!»

# Чаму бібліятэкі не могуць прыняць кнігі Алексіевіч?

Тацццяна ГУСЕВА

**Некалькі месяцаў таму «Белгазпрамбанк» замовіў 15 000 асобнікаў кніг Святланы Алексіевіч на беларускай мове для бязвыплатнай перадачы ў абласныя і раённыя бібліятэкі па ўсёй краіне. Думаеце, бібліятэкі расхапалі падарункі як гарачыя піражкі?**

Пяцітомнік Нобелеўскай лаўрэаткі выйшаў на беларускай мове ўпершыню. Аўтар праекта — выдавецкі дом «Логвінаў». Перакладам серыі «Галасы ўтопіі» займаліся лепшыя сучасныя беларускія аўтары: Валянцін Акудовіч, Уладзімер Арлоў, Барыс Пятровіч, Андрэй Хадановіч, Сяргей Дубавец. На платформе Ulej на выданне кніг была сабрана рэкордная сума — больш за 219 тысяч рублёў.

«Белгазпрамбанк», які далучыўся да акцыі, арганізаваў кампанію #NobelNaMove і планаваў перадаць кнігі Алексіевіч у бібліятэкі. «Салідарнасць» звярнулася ў прэс-цэнтр банка і высветліла, як успрынялі ініцыятыву ў бібліятэках. Аказалася, вынікі праекта падводзіць пакуль рана.

Як паведаміў прэс-сакратар ААТ «Белгазпрамбанк» Сяргей Скляраў, кнігі Алексіевіч былі перададзеныя ў бібліятэкі Віцебска і Віцебскай вобласці, а таксама Мінска і Мінскай вобласці. Афіцыйныя адказы пра тое, што ў кнігах Алексіевіч не маюць патрэбы, далі Гродна і Брэст.

«Ад астатніх абласцей афіцыйных адказаў мы не атрымлівалі, — распавёў суразмоўца «Салідарнасці». — Вынікі праекта падводзіць рана, ён працягваецца, і мы ўпэўненыя, што ўсе кнігі знойдуць свайго атрымальніка».

Віцебская абласная бібліятэка атрымала кнігі яшчэ ў чэрвені адной з першых. Па словах дырэктара Таццяны Адамян, 450 камплектаў пяцітомніка размеркавалі па бібліятэках вобласці. «Алексіевіч чытаюць заўсёды, — кажа яна. — Пасля таго, як яна атрымала Нобелеўскую прэмію, цікавасць да яе твораў моцна ўзрасла — іх бяруць пастаянна. На паліцах яны не залежваюцца».

У электронным каталогу Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Горкага няма ніводнай кнігі Алексіевіч на беларускай мове, затое ёсць на англійскай, польскай, іспанскай, французскай, нямецкай і рускай. Пытаем дырэктарку Алену Стрыжэвіч, чаму яны не маюць патрэбы ў кнігах Алексіевіч на беларускай мове. «Гэта не я давала адказ, усе пытанні ва ўпраўленне», — адказвае яна.

Начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Сяргей Панасюк адмаўляецца каментаваць, чаму бібліятэкам вобласці не патрэбныя кнігі Алексіевіч. «Па-першае, інтэрв'ю я па тэлефоне не даю, а па-другое, паглядзіце подпіс, хто адмовіў», — кажа чыноўнік і кладзе трубку.

Тэлефануем яму яшчэ раз, каб нагадаць, што кіраўнік дзяржавы казаў: дзяржслужачага, які не кантактуе з прэсай, трэба замяніць. Але Сяргей Панасюк паўтарае: «Я не адказваю на пытанні па тэлефоне».

У фондах Гомельскай абласной бібліятэкі ёсць некалькі асобнікаў кніг Алексіевіч на беларускай мове: «Зачараваныя смерцю» і «Чарнобыльскі Малітва», выдадзеныя ў 1993 і 1999 гадах. Чаму кіраўніцтва бібліятэкі не прыняло ў дар пяцітомнік? Намеснік дырэктара па абслугоўванні карыстальнікаў Таццяна Барабаншчыкава пра акцыю «Белгазпрамбанка» ведае, але... «Не буду каментаваць, таму што я гэтыя рашэнні не прымаю дакладна», — кажа яна.

Начальнік аддзела культурна-асветніцкай работы Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама Наталля Сафрановіч не змагла даць выразны адказ, ці прымуць бібліятэкі вобласці кнігі Алексіевіч. Паводле яе слоў, гэтым пытаннем займаецца спецыяліст, які цяпер на бальнічным.

Пяць месяцаў кнігі Алексіевіч не могуць дайсці да чытачоў бібліятэк, таму што чыноўнікі, якія курыруюць бібліятэкі, не могуць прыняць рашэнне або лічаць, што чытачам не патрэбны пяцітомнік Нобелеўскай лаўрэаткі.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# «Альтэрнатыва» прапануе ладзіць у Курапатах экскурсіі для школьнікаў

**Грамадскае аб'яднанне «Альтэрнатыва» (зарэгістравана ў Латвіі) рыхтуе зварот у Мінадукацыі з прапановай уключыць у школьную праграму па гісторыі Беларусі экскурсію ў Курапаты.**

У падтрымку прапановы актывісты пачынаюць збор подпісаў сярод мінчукоў. «Мы лічым, што экскурсіі ў Курапатах будуць спрыяць павышэнню інфармаванасці маладога пакалення малавядомымі трагічнымі эпізодамі сталінскай эпохі, а таксама пазітыўна ўплываць на грамадзянска-патрыятычнае выхаванне, маральнасць, прывучаць да памяці і шанавання сваіх продкаў. У той час, калі навучальныя ўстановы ладзяць так званыя «добраахвотна-прымусовыя» экскурсіі па «Лініі Сталіна», Курган Славы, будзе справядліва паказваць школьнікам і адваротны бок тагачаснага рэжыму», — гаворыцца ў петыцыі.

«Няма сумневу, што без ведання і асэнсавання тых трагічных падзей, гісторыя можа паўтарыцца. Таму сёння наша прапанова мае вялікі сэнс! Спадзяемся, што беларускія ўлады, можа паступова, але і ўключаць адпаведныя экскурсіі ў школьную праграму. Курапацкі лес цяпер гэтаму спрыяе — добраўпарадкавана тэрыторыя, зроблена бяспечная дарога, вось-вось адкрыецца мемарыяльны знак ад дзяржавы», — каментуе ідэю лідар «Альтэрнатывы» Алег Корбан.

Нагадаем, з 1993 года ўрочышча Курапаты занесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь як месца пахавання ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў. Курапаты маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі, што па законе «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» адпавядае катэгорыі «найбольш унікальных каштоўнасцяў, духоўныя, эстэтычныя і дакументальныя вартасці якіх уяўляюць міжнародную цікавасць».

**НЧ**

# З дарэвалюцыйным домам улады разабраліся. На чарзе — актывісты?

Зінаіда ЦІМОШАК

**Прыгожага дарэвалюцыйнага дамка ў цэнтры Слуцка больш няма. Ён быў разбураны раніцай 22 кастрычніка. Разбурэнне адбывалася так хутка, што актывісты і неабыякавыя случчане да гэтага часу ў шоку.**

Яшчэ да 70-х гадоў савецкіх часоў тут стаяў цэлы квартал будынкаў канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, якія сведчылі пра тое, што Слуцк існаваў задоўга да савецкай улады. Камуністы думалі інакш, ім хацелася, каб горад меў толькі савецкае аблічча. І яны дамагліся гэтага. Што не зламалі ў савецкі час — даломваюць зараз. Засталося разбурыць яшчэ каля дзясятка будынкаў, каб Слуцк канчаткова ператварыўся ў горад-манкурт, які не ведае, не цэніць і не памятае сваёй гісторыі.

І гэта не маё асабістае меркаванне: такія думкі выказалі людзі, якія купкамі сабраліся каля шматпавярховіку па адрасе вул. Леніна, д.138А і з сумам назіралі разбуральны працэс.

— Баліць душа, — гаворыць мужчына, які за 42 гады са свайго балкона прывык штодзённа бачыць своеасаблівы цаглявы дамок. — Улады марнуюць столькі грошай на абы-што, чаму б ім было не паклапаціцца пра захаванне памяці пра іншыя стагоддзі? Што фашысты не разбурылі ў вайну, тое даруйнуюць свае ўлады.

— Вось гэтыя клубы пылу над разбураным дамком і ёсць сімвал «Года малой Радзімы», — коратка даў ацэнку падзеі іншы мужчына, які не назваў свайго імя.

Хуткасць разбурэння незразумелая і чытачам мясцовай газеты «Інфа-кур'ер», якія пакінулі свае каментары пад артыкуламі аб зносе будынка на сайце выдання.

Такі сумны канец нядоўгага змагання, нягледзячы на безліч розных скаргаў, прашэнняў, заяваў і просьбаў нешматлікіх актывістаў аб прыпыненні разбурэння да атрымання адказаў з розных інстанцый: пракуратуры, райвыканкама, Міністэрства культуры, Адміністрацыі кіраўніка краіны, аблвыканкама і многіх іншых.

У той час, як бульдозер руйнаваў будынак, грамадскі актывіст Віталь Амяльковіч вёў размову па гэтай праблеме з дэпутаткай парламента Валянцінай Ражанец. Пра будучы знос будынка яна ведала яшчэ 18 кастрычніка — пры запісе грамадзян на прыём заўсёды агучваецца тэма. Паводле інфармацыі Віталя, яна дала зразумець, што «райвыканкам не абмяркоўваў з ёю знішчэнне дома».

Сама ж дэпутатка ініцыятыву па выратаванні будынка не праявіла і таксама ўвойдзе ў спіс людзей, датычных да гэтага акту вандалізму. А першымі ў гэтым спісе будуць стаяць старшыня райвыканкама Андрэй Янчэўскі і яго намеснік па ідэалогіі Ларыса Дабравольская.

Паводле інфармацыі Ігара Случака, які разам са слуцкімі грамадскімі актывістамі «несанкцыянавана» наведаў райвыканкам у пятніцу, 19 кастрычніка, прыкладна пяцёра грамадскіх актывістаў будуць даваць тлумачэнні згодна з адміністрацыйным пратаколамі. Сам Случак ужо даў такія тлумачэнні, калі выпадкова ў якасці сведкі патрапіў у Слуцкі РАУС (Аліна Нагорная выклікала міліцыянтаў, каб яны спынілі гвалтоўнае руйнаванне дома).

Пасля разбурэння дома ўлады пачнуць разбірацца з актывістамі? З прычыны таго, што тыя спрабавалі атрымаць інфармацыю ў галоўнага начальніка горада? У працоўны, але непрыёмны дзень! Гэта ж такое злачынства!

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Шчасце ўсім! Але не нам

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Апошнім часам афіцыйны Мінск дэманструе незвычайную адкрытасць для ўсяго свету. Узнікае ўражанне, што, «разрулiўшы» пытанні з Расіяй, мы рэзка скокнем на Захад. Але гэта, хутчэй, усё ж уражанне.**

Колькасць дыпламатычных сустрэчаў на розных узроўнях апошнім часам проста зашкальвае. Не паспелі мы адысці ад магілёўскага візіту Пуціна, як папаўзлі чуткі, што Аляксандра Лукашэнку чакаюць у Парыжы. Не ведаю, наколькі гэта спраўдзіцца, але днямі міністр замежных спраў Уладзімір Макей браў удзел у дзявятай штогадовай сустрэчы кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў краін-удзельніц Усходняга партнёрства (УП) і краін-сябраў Еўрапейскага саюза ў Люксембургу.

Пішуць, што «ўдзельнікі разгледзелі прагрэс у рэалізацыі ключавых прыярытэтаў УП на перыяд да 2020 года і абмяняліся думкамі па найбольш праблемных пытаннях міжнародных адносін, уключаючы сітуацыю ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне». Аднак больш важнае для шараговых беларусаў тое, што ў чарговы раз Макей абмеркаваў з еўрапейскімі калегамі пагадненне аб спрашчэнні візавых працэдур і аб рэадмісіі.

Менавіта ад гэтых пагадненняў залежыць калі не спрашчэнне візавага рэжыму з Еўропай, то зніжэнне кошту «шэнгену» з 60 да 35 еўра. Пра гэта кажуць ужо даўно, падрыхтоўка пагаднення — увесь час «на фінальнай стадыі». Але калі настане гэтая «фінальная стадыя» — дасюль не вядома.

Вось і зараз Макей сказаў, што «нашы партнёры» ў апошні час уключылі ў тэкст пагаднення «некаторыя пасажы», якія патрабуюць далейшага абмеркавання. Мяркуючы па ўсім, маецца на ўвазе Літва і яе дадатковыя патрабаванні адносна будаўніцтва БелАЭС.

Між тым, еўрапейцы настроеныя аптымістычна. Прадстаўніца ЕС у РБ Андрэа Віктарын спадзяецца, што пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму можа быць падпісана да канца 2018 года. А можа быць і не падпісана. З яе слоў вынікае, што замінка — на беларускім баку.

І гэта тым больш важна, што сёлета Еўрасаюз заявіў пра запланаванае павышэнне кошту шэнгенскіх віз — з 60 да 80 еўра. Калі беларускі бок зноў будзе «тармазіць», беларусы, для якіх 20 еўра з'яўляюцца істотнымі грашыма, кепска падумаюць не пра Мінск, а пра Еўропу. Хаця вінаваты будзе ўсё ж Мінск.

У час, калі гэты нумар будзе выходзіць з друку, Беларусь паспрабуе ў чарговы раз запэўніць у братэрскіх адносінах Украіну. Яна вельмі важная для нас — хаця б таму, што з ёй у нас выдатныя эканамічныя адносіны. Гэта трэцяя краіна пасля Расіі і разам узятага ЕС па гандлі з намі. Больш за тое, у адрозненне ад Расіі і ЕС, мы з ёй гандлюем «у плюс» — то бок прадаём туды больш, чым там набываем. А значыць, зарабляем валюту.

Падаецца, да такога партнёра трэба ставіцца з увагай. Аднак нашага кіраўніка ўвесь час «заносіць». Да такой ступені, што шараговыя ўкраінцы ўсур'ёз задумваюцца: а ці браты ім беларусы?

Можна ўзгадаць некалькі праблемных момантаў, якія хацелася б, каб мы разабралі. Найперш, гэта не стрыманы на язык Аляксандр Рыгоравіч. Ён ужо некалькі разоў казаў, што праз мяжу ў Беларусь ідзе зброя з Украіны. Аднак памежная статыстыка сведчыць, што зброя (як ні дзіўна) ідзе не да нас, а ад нас. Больш за тое, 23 кастрычніка прайшла рабочая сустрэча галоўных памежных упаўнаважаных Беларусі і Украіны. Афіцыйна паведамляецца, што «бакі канстатавалі адсутнасць арганізаваных каналаў кантрабанды зброі, боепрыпасаў, выбуховых і іншых небяспечных рэчываў на сумесна ахоўным участку мяжы».

**Ва Украіне вельмі шмат пытанняў да беларусаў. Застаецца толькі спадзявацца, што Лукашэнка ў чарговы раз здолее «забаўбатаць» Парашэнку і хаця б зрабіць упэўнены выгляд, што Сінявокая вельмі важлівая ставіцца да Украіны. У гэтым сапраўды ўзнікаюць вялікія сумневы**

Але ёсць і іншыя пытанні, якія Пётр Парашэнка на форуме ў Гомелі можа паставіць перад беларускім калегам. Гэта не толькі занадта цеснае супрацоўніцтва з Расіяй — ворагам Украіны. Гэта, напрыклад, справа «ўкраінскага шпіёна» Паўла Шаройкі, які таямнічым чынам атрымаў у Сінявокай 8 гадоў зняволення. Гэта выкраданне на тэрыторыі Беларусі грамадзяніна Украіны Паўла Грыба, які прыехаў у той жа Гомель, а апынуўся чамусьці ў СІЗА Краснадара. Гэта запуск у Беларусі ўкраінскага тэлеканала, пра які прынцыпова дамовіліся тры гады таму, але Мінінфарм кажа, што ім трэба «пачакаць і падумаць». Хаця «Беларусь 24» ідзе ва Украіне без праблем.

Не дадасць аптымізму і нядаўні Сінод РПЦ, праведзены ў Мінску. Хоць царква і аддзеленая ад дзяржавы, але ўсё ж: у Беларусі далі пляцоўку для апанентаў Кіева. Больш за тое, прэса пісала, што «Беларуская праваслаўная царква падтрымала рашэнне Сіноду РПЦ». Хаця на самай справе такога ўтварэння, як «Беларуская праваслаўная царква» дэ-юрэ не існуе. Так мы папросту называем тое, што афіцыйна завецца «Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату».

Карацей, ва Украіне вельмі шмат пытанняў да беларусаў. Застаецца толькі спадзявацца, што Лукашэнка ў чарговы раз здолее «забаўбатаць» Парашэнку і хаця б зрабіць упэўнены выгляд, што Сінявокая вельмі паважліва ставіцца да Украіны. Хаця, калі паглядзець на справы, а не на рыторыку, то ў гэтым сапраўды ўзнікаюць вялікія сумневы — на вялікі жаль.

Маштабны прарыў на дыпламатычным фронце выявіў яшчэ адну — спецыфічна прагмацкую — праблему нашага ўраду. Гэта праблема са шматзадачнасцю. Калі ў адным месцы наш урад дзейнічае даволі паспяхова, у яго не застаецца сіл на нешта іншае. І пакуль мы прарываліся на фронце дыпламатычным — правалілі задачы па паляпшэнні дабрабыту.

Раней прэм'ер Беларусі Сяргей Румас казаў, што ў верасні краіна выйдзе на сярэдні заробак «па пяцьсот», і больш ён зніжацца не будзе. Не атрымалася. Па выніках верасня заробак знізіўся і склаў 963,6 рубля, паведаміў Нацыянальны статыстычны камітэт. Гэта на 24 рублі ніжэй жнівеньскага паказчыка і «значна ніжэй ацэнкі ўрада».

«Падзенне выручкі з прычыны ваганняў курсу расійскага рубля не дазволіла многім прадпрыемствам падтрымаць існуючы ўзровень аплаты працы. Сярэдні заробак у рэальным сектары эканомікі склаў 1032 рубля, хоць і знізіўся да ўзроўню жніўня», — апраўдваецца кіраўнік урада.

Падаецца, разбудзі сярод ночы любога беларуса і запытайся ў яго, якім чынам Беларусь залежыць ад Расіі — і ён адкажа спічам на 15 хвілінаў без праблем. Але для ўрада ваганні курсу расійскага рубля ўвесь час з'яўляюцца сюрпрызам. У такіх варунках увогуле трэба было б адысці ад «планавага мыслення» і не рабіць (а тым больш не агучваць) прагнозы. Каб потым не трэба было апраўдвацца за іх невыкананне.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Палітвязень раніцай 24 кастрычніка выйшаў на волю з бабруйскай калоніі №2. На мінскім вакзале яго сабраліся сустракаць сябры і паплечнікі.**

24-гадовага актывіста анархісцкага руху затрымалі падчас велапрабегу «Крытычная маса» 29 красавіка 2016 года ў Мінску. Хлопца прызналі вінаватым у гвалце ў дачыненні да супрацоўніка праваахоўных органаў — нібыта ён пры затрыманні парваў куртку міліцыянту. Ён быў асуджаны на два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на такі ж тэрмін.

Пасля суда Паліенку некалькі разоў прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці. У красавіку 2017 года яго пазбавілі адтэрміноўкі прысуду і адправілі ў калонію.

Беларускія праваабаронцы і міжнародная арганізацыя «Amnesty International» прызналі Паліенку вязнем сумлення.

## Ігар Яўсееў



**Кіраўнік МУС Ігар Шуневіч сышоў «на бальнічны». Але ў кулуарах ведамства кажуць, што аматар формы НКУС на сваю пасаду больш не вернецца.**

У МУС актыўна абмяркоўваюць кандыдатуру новага міністра. Прычым пра прызначэнне генерал-маёра Ігара Яўсеева міністрам унутраных спраў кажуць так, быццам пытанне ўжо ўзгоднена ў вярхах.

Зараз Ігар Яўсееў займае пасаду памочніка Лукашэнкі — інспектара па Мінскай вобласці. Ён быў прызначаны крыху больш за год таму. Каментуючы яго прызначэнне, Лукашэнка казаў, што гэта свайго роду эксперымент: «Паглядзім, як складзецца лёс генерала на гэтай грамадзянскай пасадзе, хаця цяжка сказаць, што яна грамадзянская — яна часам яшчэ больш ваенная, чым у некаторых людзей з пагонамі».

Атрымаўшы новае прызначэнне, Ігар Яўсееў сышоў у запас. Гэта вельмі зручны варыянт для людзей у пагонах — такім чынам яны могуць атрымліваць і пенсію (у дадзеным выпадку — генеральскую), і заробак. Калі чуткі аб прызначэнні Яўсеева ў бліжэйшы час пацвердзяцца, то, верагодна, адмысловым указам яго зноў прызавуць на службу.

Ігар Яўсееў набыў скандальную вядомасць на пасадзе начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Мінгарвыканкама. Ён не раз асабіста камандаваў разгонам мірных акцый пратэсту, было ў яго і некалькі гучных канфліктаў з журналістамі. За разгон Плошчы–2010 Яўсееў трапіў у спіс неўязных у Еўрасаюз і Амерыку.

## Дар'я Домрачава



**Вядомая беларуская біятланістка пайшла ў моду. Падчас Brands Fashion Show, якое праходзіла ў Мінску, яна ўпершыню паказала вопратку ўласнага брэнда.**

У чэрвені гэтага года Домрачава абвясціла аб завяршэнні кар'еры і сканцэнтравалася на сваёй сям'і, а таксама на новай любімай справе — гандлёвай марцы па вытворчасці спартыўнага адзення для мужчын, жанчын і дзяцей. Дарэчы, ужо працуе і шоўрум мадэляў Домрачавай — на праспекце Машэрава ў Мінску, а таксама інтэрнэт-крама (праўда, менавіта ў кастрычніку па тэхнічных прычынах сайт узяў паўзу).

На асабістым сайце Домрачава паведамляе: «Мне заўсёды падабалася нешта прыдумляць і развіваць свае крэатыўныя ідэі. Бацькі-архітэктары з дзяцінства прышчапілі любоў да творчасці, таму нядзіўна, што мне цікавая і блізкая тэма дызайну. Дызайну ў яго шырокім сэнсе. Чаму выбар зроблены менавіта на дызайн адзення? Напэўна, таму, што менавіта такая калекцыя змагла стаць своеасаблівым падарункам для балельшчыкаў, якія паспелі засумаваць па маіх выступах. Хацелася дадаць да спартыўнай формы, у якой я праводжу большую частку часу, нейкую разыначку — сваю індывідуальную рысу. Акрамя таго, мне было важна стварыць нешта такое, што змагло б дадаткова матываваць людзей на заняткі спортам. Я была б вельмі шчаслівая, калі б нейкая маленькая спартыўная аксесуара для кагосьці стала б пачаткам штодзённага спартыўнага рытуалу, ранішніх прабежак, а можа, і вялікага спартовага шляху».




# Агрэсія, інкарпарацыя ці нічога?

## Ці захопіць Расія Беларусь, і калі так — што будзе пасля?

Мікалай ДЗЯДОК

**Пасля апошняй сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна ў які раз актывізаваліся размовы пра магчымую страту Беларуссю незалежнасці. Алармісцкія заявы пасыпаліся як з меху.**

Такі алармізм можа спрацаваць па прынцыпе хлопчыка, які часта крычаў: «Ваўкі!». А калі ваўкі сапраўды з'явіліся, ніхто не звярнуў увагі на лямант. Зразумелае жаданне грамадзянскай супольнасці і свядомых грамадзян трымаць гэтае пытанне ў фокусе, але яго няспыннае педаляванне можа прывесці да супрацьлеглага выніку.

Але ўсё ж. Наколькі такі сцэнар рэальны?

### Чаго варта баяцца?

Лукашэнка раней неаднаразова спыняў магчымыя спробы зрабіць сябе губернатарам і паглынуць Беларусь. Чаму ён пойдзе на гэта зараз? Безвыходнага становішча — як у эканоміці, так і ў палітыцы — у Лукашэнкі зараз няма, а балансаваць на мяжы ў яго ня дрэнна атрымлівацца апошнія 20 гадоў.

Моцным аргументам на карысць хуткай анексіі з'явіліся паведамленні аб вывучэнні прарасійскімі арганізацыямі грамадскай думкі ў Беларусі. Факт, безумоўна, мусіць насцярожваць, але сам па сабе не з'яўляецца ўказаннем на магчымасць агрэсіі, бо ёсць даволі шараговым эпізодам знешнепалітычнай працы імперыялістычнай дзяржавы.

### Магчымыя сцэнары

На сёння мы ведаем некалькі магчымых варыянтаў змены ўлады прарасійскімі сіламі. Анексія (крымскі варыянт), уварванне (данбаскі варыянт), дзяржаўны пераварот (у найноўшай гісторыі ніколі не было ажыццёўлена, але нешта падобнае, відаць, рыхтавалася ў Чарнагорыі). Аналітыкі, якія прадказваюць «паглынанне», кажуць яшчэ пра інкарпарацыю, маючы на ўвазе, што Лукашэнка, нібыта, пад прэсам абставінаў, сам падзеліцца ўладай.

Разгледзім кожны з варыянтаў.

**Крымскі варыянт** вымагае моцных прарасійскіх настрояў у Беларусі, рэальнага жадання вялікай часткі грамадзян — перш за ўсё, сацыяльна актыўных, — «вярнуцца на радзіму». Не маючы ілюзій пра нацыянальную свядомасць беларусаў, трэба адзначыць: прыхільнікаў яднання з Расіяй у нас усё ж меншасць. І галоўнае: яны палітычна неарганізаваныя — у адрозненне ад прыхільнікаў незалежнасці.

Акрамя іншага, Крым, у адрозненне ад Беларусі, не быў незалежнай рэспублікай, а толькі аўтаноміяй. У ім не было моцных незалежных эліт, якія б шмат гублялі ў выпадку прыходу Расіі. У Беларусі эліты (ад старшыняў выканкамаў да начальнікаў спецслужб) згубяць з прыходам Расіі трохі болей, чым усё. У Расіі на беларускі кавалачак пірагу хапае жадаючых: кадыраўцы, ФСБ, алігархі, сябры Пуціна, дэпутаты-крымінальнікі. Думаць, што яны пакінуць хоць колькі-небудзь адчувальныя рэшткі грошай, уласнасці, улады і карупцыйных магчымасцяў мясцовым, было б максімальна наіўна. А ў наіўнасці нашых начальнікаў можна абвінаваціць у апошнюю чаргу.

**Данбаскі сцэнар** — самы жорсткі і, можна лічыць, непажаданы для Расіі. Засылка дыверсантаў, нават на адносна падрыхтаваную глебу, з вялікай верагоднасцю вернецца адпорам з боку сілавых структур, адданых Лукашэнку. Нездарма і вучэнні тэрытарыяльнай абароны адбываюцца на тэрыторыі ўсходніх абласцей, і Сілы спецыяльных аперацый адпрацоўваюць барацьбу з дыверсантамі адзін у адзін па сцэнары данбаскага канфлікту. Можна выказаць здагадку, што Лукашэнка мае адпаведныя тэхналагічна і ідэалагічна падрыхтаваныя групы, кіраваныя, перш за ўсё, сынам Віктарам. Часцей за ўсё сярод гэтых груп называюць Асобную службу актыўных мерапрыемстваў (ОСАМ) і СБП, на якія можна разлічваць значна больш, чым на МУС і КДБ, сапраўды прасякнутыя расійскай агентурай уздоўж і поперак.

Новая вайна ці нават тлеючы канфлікт на Усходзе стане яшчэ адным цвіком у труну расійскай эканомікі, а санкцыі, якія пацягне такое ўварванне, стануць экскаватарным каўшом зямлі на гэтай труне. Пры ўсёй ірацыянальнасці расійскага кіраўніцтва, яно не можа гэтага не разумець.

Што да **дзяржаўнага перавароту,** то яго можна ажыццявіць паводле двух сцэнараў: альбо праз масавае ўключэнне людзей (напрыклад, узяўшы пад кантроль новую хвалю сацыяльных пратэстаў), альбо «ўціхую» — паставіўшы замест Лукашэнкі нейкую лаяльную фігуру. Для першага варыянту прарасійскім сілам, зноў жа, трэба мець моцны ўплыў на беларускае грамадства і здольнасці мабілізаваць яго ў патрэбны бок, кантраляваць яго на значна больш глыбокім узроўні, чым зараз. Трэба мець моцных мясцовых палітыкаў, СМІ і сетку актывістаў. Нічога гэтага (акрамя СМІ, якія Лукашэнка можа адключыць у момант небяспекі) Расія не мае — узгадаем спробы правакатараў крычаць «Расія!» на дармаедскім пратэсце ў Віцебску. Яны сталі лакмусавай паперай: большасць беларусаў, нават незадаволеных, не з'яўляюцца настолькі прарасійскімі, каб гэта можна было скарыстаць для фармавання палітычнага актыву.

Другі варыянт мае на ўвазе абавязковае знікненне Лукашэнкі — аж да фізічнага, а таксама абавязковую наяўнасць трывалых і ўплывовых агентаў расійскіх спецслужб у яго атачэнні ці вышэйшых эшалонах улады (пажадана — з сілавікоў), якія здольныя яго замяніць. Тое, што агенты ёсць, сумневу не выклікае. Але наколькі яны гатовыя рызыкаваць для такой спецаперацыі? Наколькі службы бяспекі «маніторацы» такі варыянт развіцця падзей і трымаюць сітуацыю пад кантролем? Ці працуе Расія сёння на рэалізацыю гэтага сцэнару ў перспектыве? Гэтага мы не ведаем, і можам, хіба, варажыць. Аднак гэты варыянт падаецца найбольш верагодным з усіх: ён не патрабуе прыцягнення масаў (гэта значыць, Расія не ўступае на поле, дзе можа прайграць), не мае на ўвазе ўвядзення войска (як пісалася вышэй, гэта шалёныя эканамічныя і палітычныя страты) і дазваляе да максімуму знізіць кровапраліцце.

Апошні варыянт — **інкарпарацыя**, пра якую зараз гавораць найчасцей, — бачыцца самым малаверагодным. Не для таго Лукашэнка 24 гады змагаўся за ўладу, каб зараз яе аддаць добраахвотна. Думкі, што Лукашэнка стане пад кіраўніцтва Пуціна, які адправіць яго «паслом у Зімбабвэ», як сказаў аглядальнік «Эха Масквы» Венедыктаў, выглядаюць смешна для таго, хто цвяроза ацэньвае псіхатып Лукашэнкі.

### Важныя пераменныя

Ёсць яшчэ аспект, пра які часцяком забываюцца, калі аналізуюць далучэнне Беларусі да Расіі. Нездарма кажуць, што Беларусь выконвае ролю буфернай дзяржавы. У выпадку паўнавартаснай

**Што будзе, калі самае страшнае ўсё ж адбудзецца? У карціне светапогляду дэмакратычнай грамадскасці прыход сюды Расіі — гэта канец усяму. Апакаліпсіс. Гэта і так, і не так адначасова**

вайны між Расіяй і NATO (верагоднасць, якая сёння разглядаецца гэтымі бакамі ўсур'ёз) Расіі з усіх пунктаў гледжання (вайсковага, палітычнага, сацыяльнага) карысней, каб бомбы сыпаліся на тэрыторыю суседняй дзяржавы. Мець у якасці буфера марыянеткавую дзяржаву значна больш карысна, чым самому выходзіць да межаў краіны-суперніка.

І, урэшце, Расія зараз зусім у іншым стане, чым была напачатку 2014 года. Тады яна магла сабе дазволіць улезці ў Данбас, а потым і ў Сірыю. З таго часу стан расійскай эканомікі моцна пагоршыўся: для спансавання вайскова-палітычных авантур даводзіцца прымаць непапулярныя рашэнні, якія пагражаюць унутранай стабільнасці.

Усе згаданыя вышэй верагоднасці разглядаюцца з пункту гледжання тэорыі рацыянальнага выбару. Аднак вядома, што расійскае кіраўніцтва часта дзейнічае ірацыянальна. Таму ў прынцыпе ніводзін з варыянтаў цалкам выключыць нельга. Мы кажам толькі пра верагоднасці.

### Што потым?

Што будзе, калі самае страшнае ўсё ж адбудзецца? У карціне светапогляду дэмакратычнай грамадскасці прыход сюды Расіі — гэта канец усяму. Незалежнасці, дэмакратычным свабодам (якія, праўда, і не пачыналіся), беларускасці як такой. Апакаліпсіс. Гэта і так, і не так адначасова.

Найперш, акупанты абавязкова пойдуць на супрацоўніцтва з найбольш лаяльнымі прадстаўнікамі нацыянальнага руху. Ад некаторых мы пачуем, што беларускасць можа развівацца і ў межах суб'екту Расійскай Федэрацыі (у тым жа Крыме шэраг крымскататарскіх актывістаў пайшлі на калабарацыю з Расіяй), што нашая эканоміка расквітнее з прытокам расійскіх інвестыцый, і што ўвогуле мір лепш, чым вайна. Пра дзяржаўныя СМІ і казаць не варта: яны перафарбуюць сваю рыторыку яшчэ да таго, як першы «зялёны чалавечак» уступіць на парог будынка па Макаёнка, 9. Пэўны час захаваецца выкладанне беларускай мовы, і новая ўлада будзе ўсяляк падкрэсліваць, як цэніць «культурную самабытнасць» беларусаў.

Аднак, безумоўна, нас будуць чакаць часы значна горшыя, чым зараз. Ацаніць наступствы можна на прыкладзе Крыма. Гэта пераход усяго, што большменш прыносіць прыбытак, у рукі замежнікаў, яшчэ большае закручванне гаек у палітычным жыцці (сотні крымінальных справаў за рэпосты), хуткае перакачоўванне ўсіх актыўных апазіцыянераў у турмы, знікненне без вестак найбольш радыкальных. Паступовае знікненне з ужытку беларускай мовы, перапісванне гісторыі ў падручніках…

Гэта катастрофа. Аднак ці будзе гэта канцом? Не думаю. Беларускасць не здолелі знішчыць 200 гадоў знаходжання пад Расійскай імперыяй, 70 гадоў у таталітарным СССР. Амаль усе гэтыя часы ў Беларусі трывала нацыянальна-вызваленчая барацьба ў той ці іншай форме: паўстанцкай, палітычнай, культурнай. Вектар нацыянальнай самасвядомасці задаюць людзі, а не бюракратычная надбудова пад назвай «дзяржава» — і шматмільённыя народы без дзяржавы (каталонцы, курды, цыгане) гэта пацвярджаюць. Захоп краіны Расіяй будзе азначаць толькі адно: пераход нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў іншую плоскасць. Фактычна: адкат да стану 1905 альбо 1918 гадоў. Адкат, але не смерць.

Не будзем забывацца: першы з'езд РСДРП, партыі, якая пахавала Расійскую імперыю, адбыўся ў Мінску. Развал СССР у 1991 годзе быў юрыдычна аформлены таксама на тэрыторыі Беларусі. І варта верыць: калі горшае адбудзецца, то і гэтым разам Беларусь зробіць свой удалы ўнёсак у пахаванне «турмы народаў».

# «Фата жыдоў хавае, з-за яе ўвесь завулак выб'юць»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Хто выратуе адно жыццё — выратуе цэлы свет. Неверагодна, але часам нават у самых змрочных сітуацыях побач з трагедыяй знаходзіцца месца для высакароднасці. Як, напрыклад, у гісторыі Мінскага гета.**

## Татары Канапацкія і яўрэі Давідсоны

Ці многія з нас здольныя не думаць пра сябе, ратуючы ад небяспекі іншых? Тым больш, калі гэтыя «іншыя» — людзі чужых звычаяў. Дзякуючы расійскай пісьменніцы Людміле Уліцкай мы ведаем дзіўную гісторыю Освальда Руфайзена, каталіцкага манаха яўрэйскага паходжання, які выратаваў ад 200 да 300 яўрэяў з гета ў Міры. І гэта толькі адзін з неверагодных і гераічных сюжэтаў выратаванняў. Яшчэ адзін стаў вядомы дзякуючы ўспамінам беларускай татаркі Айшы (Аішы, Ганны) Сулейманаўны Канапацкай, якая разам з маці Фацімай Мустафаўнай выратавала ад знішчэння ў Мінскім гета яўрэйскую сям'ю Давідсонаў.

Бацькі Фацімы Мустафаўны валодалі гарбарнай фабрыкай, якую здавалі ў арэнду яўрэям. Жылі яны ва ўласным двухпавярховым доме па Вялікай Татарскай вуліцы (цяпер Дзімітрава), насупраць мячэці. За домам быў вялікі флігель, які, як і фабрыка, здаваўся ў арэнду яўрэям. Людзі ў той час жылі грунтоўна, гадамі і дзесяцігоддзямі на адным месцы, размаўлялі адзін з адным, нягледзячы на класавыя і рэлігійныя адрозненні. Паміж уладальнікамі і арандатарамі таксама складваліся трывалыя адносіны, іх дзеці сябравалі паміж сабой.

У часы акупацыі Фаціма ўсяляк дапамагала яўрэям, перапраўляла ў Мінскае гета прадукты, якія выменьвала ў заходніх абласцях БССР. Тады да яе і звярнулася яе даўняя знаёмая Фрума Давідсон з просьбай схаваць яе мужа. Яны і раней хаваліся ў Канапацкіх на час пагромаў па некалькі дзён усёй сям'ёй з пяці чалавек.

22 чэрвеня 1942 года муж Фрумы Ісраэль Давідсон пасяліўся ў Канапацкіх надоўга. У хляве ён выкапаў яму-нару, замаскіраваў яе дрывотняй і пражыў там цэлы год.

Немцы лютавалі бязмерна, праводзілі аблаву за аблавай. У адну з такіх аблаў трапіла і Вялікая Татарская вуліца. У хату Канапацкіх прыйшлі з аўчаркай, усё перакапалі, нічога не знайшлі і сышлі. Дровы папросту не сталі чапаць. Толькі Аіша з Фацімай уздыхнулі з палёгкай, як наляцелі іншыя, ужо эсэсаўцы. Салдаты пачалі правяраць хлеў, а афіцэр зайшоў у дом, дзе яго ўвагу прыцягнуў комін. Стаўшы на зэдлік, ён палез рукой у адтуліну коміна. Гэты не вельмі чысты занятак ён рабіў з відавочным незадавальненнем, успамінае Аіша. На шчасце, яна здагадалася сказаць яму па-нямецку, што ў доме ўжо была адна праверка. Ён узрадаваўся, тут жа выйшаў, паклікаў сваіх салдат (а тыя ўжо ўзяліся за дрывотню) і вывеў іх. Не трэба мець вялікую фантазію, каб уявіць, што чакала б сям'ю Канапацкіх, ды і ўсю вуліцу, калі б яны знайшлі Давідсона. Роўна год прасядзеў Ісраэль у сваёй нары, выходзячы толькі ноччу падыхаць, ды яшчэ ўзімку глыбокай ноччу яго бралі на некалькі гадзін у дом пагрэцца.

Бацька Фрумы — Мэір — у пачатку вайны купіў пашпарт памерлага татарына Палтаржыцкага. Мэір быў бландынам, непадобным на яўрэя, і таму мог на сваім кані бесперашкодна пераязджаць з аднаго месца на іншае. Жыў ён у Заходняй Беларусі і прывозіў адтуль прадукты сваім сваякам у Мінск. Але суседка Гэлька, у якой не было дзяцей, пачала ўсім скардзіцца, што «Фата жыдоў хавае, з-за яе ўвесь завулак выб'юць». Баючыся, што гэта можа дайсці да немцаў, Канапацкія забаранілі Мэіру прыязджаць да іх. Пасля вайны ён сватаўся да Фацімы, муж якой памёр. Дарэчы, татарка Фаціма нядрэнна гаварыла на ідыш.



Фота db.yadvashem.org

Фаціма Канапацкая з унучкай, 1961 г.




Фота db.yadvashem.org

Ганна Трафімава (Аіша Канапацкая) на цырымоніі ў «Яд Вашэм» 7.04.2004 г.

Дзеці Давідсонаў — Рахіль, Міра, Вова — часта ўцякалі з гета і прыходзілі да сваіх ратавальнікаў, а ў чэрвені 1943 года Давідсоны ўсёй сям'ёй сышлі ў партызаны. Усе засталіся жывыя і пасля вызвалення Мінска вярнуліся ў горад, жылі на Канатным завулку. «Ратуючы іх, мы не думалі пра небяспеку для сябе, проста не дапамагчы ім мы не маглі», — успамінала Аіша.

Пасля вайны Канапацкія і Давідсоны яшчэ доўгі час падтрымлівалі стасункі, хоць лёс развёў іх па розных кантынентах. Аднак пасля араба-ізраільскай вайны ў чэрвені 1967 года перапіска перапынілася, і пра далейшы лёс сям'і Давідсонаў Канапацкія нічога не ведаюць.

3 снежня 2003 года «Яд Вашэм» удастоіў Фаціму Канапацкую і яе дачку Ганну (Аішу) Канапацкую-Трафімаву ганаровым званнем «Праведнік народаў свету». Усяго ж медалямі Праведнікаў свету ўзнагароджаны 711 беларусаў, і гэта восьмае месца ў свеце.

## Свае сярод чужых, чужыя сярод сваіх

Сябры, як і ворагі, спазнаюцца ў бядзе. Нельга абвінавачваць у маладушшы тых, хто падчас катастрофы дбае найперш пра сябе. Але немагчыма не захапляцца тымі, хто сярод нечалавечых пакутаў і зла знаходзіць у сабе сілы дарыць святло любові іншым, часам нават ахвяруючы сабой. І гэтая дробка любові здольная змяніць свет.

Дзякуючы такім людзям, як сям'я Канапацкіх, з Мінскага гета змаглі ўцячы ад 3 да 8 тысяч яўрэяў, многія з іх далучыліся да партызанаў, што дзейнічалі ў лясах непадалёк. Праўда, нярэдка шлях у «звычайныя» атрады быў закрыты — яўрэяў, якія ў іх прыходзілі, забівалі як шпіёнаў. Таму стваралiся так званыя сямейныя партызанскія атрады. Найбольш вядомы — атрад Шалома Зорына ў Налібоцкай пушчы, які ўзнік у красавіку 1943 года.

Усяго з вязняў Мінскага гета былі створаны, па розных звестках, ад 7 да 10 партызанскіх атрадаў: 5-ы атрад імя Кутузава, атрады імя Лазо, Будзёнага, Фрунзэ, Пархоменкі, Шчорса, 25-годдзя БССР, атрад 406 і атрад 106, і 1-шы батальён 208-га асобнага партызанскага палка.

На жаль, трагедыя Халакосту знаходзіцца ў ценю традыцыйных савецкіх міфаў пра Другую сусветную вайну, і ўсё яшчэ існуе перадузятае меркаванне аб пасіўнасці яўрэйскага насельніцтва ў гады вайны. На помніках знішчаным яўрэям іх сціпла называлі «мірнымі савецкімі грамадзянамі», а імёны стараліся не афішаваць.

**Трагедыя Халакосту знаходзіцца ў ценю савецкіх міфаў пра Другую сусветную, і ўсё яшчэ існуе перадузятае меркаванне аб пасіўнасці яўрэйскага насельніцтва. На помніках іх сціпла называлі «мірнымі савецкімі грамадзянамі», а імёны стараліся не афішаваць**

## Дні памяці Мінскага гета

«Дарога ў пекла даўжынёй 800 дзён» — роўна столькі праіснавала Мінскае гета. Яно было створана 19 ліпеня 1941 года і лічыцца адным з найбуйнейшых у Еўропе і другім па велічыні ў былым СССР пасля Львоўскага. Крыху больш чым за два гады ў ім пабывалі больш за сто тысяч яўрэяў не толькі з Беларусі, але і з еўрапейскіх краін.

Гета праіснавала да 21 кастрычніка 1943 года. Сёлета адзначаецца 75-я гадавіна яго знішчэння. Да гэтай даты з 15 да 23 кастрычніка праходзілі Дні памяці Мінскага гета. У іх межах 22 кастрычніка ў мемарыяльным комплексе «Яма» прайшоў мітынг, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі яўрэйскіх міжнародных арганізацый і замежных яўрэйскіх абшчын, дзяржаўных структур Беларусі, дыпламатычнага корпуса. У гэты ж дзень у МЗС адбыўся круглы стол «Трагедыя Мінскага гета: памяць і ўрокі». Падчас круглага стала Сэм Клігер — начальнік аддзела па справах Беларусі, Расіі і Украіны Амерыканскага яўрэйскага камітэту ЗША, агучыў ідэю ўсталявання ў Мінску помніка беларусам — Праведнікам свету. «Такі манумент выконваў бы адразу дзве задачы. Па-першае, ён бы сведчыў пра тое, як шмат яўрэяў нацысты знішчылі ў Беларусі. Па-другое, ён бы нагадваў пра герояў-беларусаў, якія ахвяравалі сваім жыццём дзеля таго, каб выратаваць яўрэяў».

Архітэктарка Галіна Левіна, якая ўдзельнічала ў круглым стале, сказала «Радыё Свабода», што яе бацька Леанід Левін яшчэ ў 2013 годзе зрабіў эскіз такога помніка. І яго дагэтуль можна пабачыць у мінскай Гістарычнай майстэрні. Але тады ўзніклі фінансавыя праблемы, пасля Леанід Левін памёр, і справа затухла...





**Мысленне паэта (увогуле мастака, творцы) адрозніваецца ад мыслення палітыка (і каго заўгодна іншага) так і тым, як і чым травінка, што прарастае скрозь асфальт, адрозніваецца ад асфальту**

# Уладзімір Някляеў: «Вяртаючыся ў мінулае, шкадуеш пра нязздзейсненае. Больш там няма чаго рабіць»

Сяргей ШАПРАН

**Новая кніга «Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія» яшчэ ад пачатку спараджае спрэчкі, бо таго вымагае сама назва: хто аўтар — Някляеў ці Шапран? Зрэшты, для абодвух — аўтара і яго літаратурнага героя — адказ відавочны, таму іх гутарка прысвечана іншаму: той самай аўтабіяграфіі Уладзіміра Някляева, яго папярэднікам і сучаснікам, перамогам ды паразам і адказу на пытанне, што паэту да палітыкі.**



**Студэнт Літінстытута імя М. Горкага.** Фота Уладзіміра Крука

*— Гэта вядомы факт, што Гётэ быў зацікаўлены ў тым, каб Іаган Экерман рэгулярна наведваў яго і працаваў над кнігай, якая ў выніку атрымала назву «Гутаркі з Гётэ ў апошнія гады ягонага жыцця». Аднак што тычыцца «Незавершанай аўтабіяграфіі», не магу засведчыць, што вы, Уладзімір Пракопавіч, былі зацікаўлены ў з'яўленні гэтай кнігі, і яшчэ на самым пачатку, як мне падалося, былі нават збянтэжаны тым, што я ўзяўся за гэтую працу. Чаму?*

— Калі Экерман увайшоў у дом «любімца багоў», як называлі Гётэ і ў літаратуры, і ў жыцці, аўтару «Фаўста» было амаль 75 гадоў. І ён збіраўся ажаніцца з маладзіцай. Ды яшчэ і маладую палюбоўніцу завесці. Так што прыйшла пара за ім запісваць, Экерман у час падаспеў.

А зараз уявім, што не паспеў Экерман. І ніякіх ягоных гутарак з Гётэ няма. Хіба гэта нешта мяняе ў ягонай творчасці, сусветнай літаратуры, культуры? Нічога! Бо ёсць «Фаўст». Бо ўжо напісаны, як усклікнуў у адным са сваіх вершаў Пастарнак, Вэртар!

У запісах Экермана аўтар «Фаўста» не столькі паэт, колькі філосаф. Палітык. І што ён сцвярджае?.. Што мужык мусіць араць, а цар цараваць! Што калі ў мужыка ёсць свабода займацца сваім рамяством, дык гэтакай свабоды дастаткова... Нават не верыцца, што гэта прамаўляў той Гётэ, які пасля нізлажэння Напалеона трызніў еўрапейскай рэвалюцыяй. І ў тым ніякай віны Экермана.

Мысленне паэта (увогуле мастака, творцы) адрозніваецца ад мыслення палітыка (і каго заўгодна іншага) так і тым, як і чым травінка, што прарастае скрозь асфальт, адрозніваецца ад асфальту. Яно самастваральнае. Творчасць — самастварэнне. Гэта найвышэйшае з усяго, чым надзяліў нас Усявышні. Гэта ёсць сутнасць прыдуманага Богам і спакушанага д'яблам чалавека. І ўспомні, як вызначае гэтую сутнасць (вуснамі Мефістофеля) Гётэ: «Тварыць дабро, жадаючы ўсім зла!» Во з якой глыбіні чэрпае! А ў гутарках гэтага ўжо відавочна нестае.



**З Васілём Быкавым.** Фота Яўгена Коктыша

Я адказаў на пытанне? Калі не зусім, магу дадаць, што ў мяне ўжо напісаны... ну, напрыклад, «Армагедон». Не раўняю яго з «Фаўстам», але ён ужо напісаны.

*— Калі тое, што вы сказалі, спрасціць, дык, мабыць, вы асцерагаліся, што ў «Незавершанай аўтабіяграфіі» Някляеў-палітык саступіць Някляеву-паэту, і будзе відавочна, што вы дарма змарнавалі час на палітыку? Калі асцерагаліся, дык дарма, бо Някляева-паэта ў кнізе не менш, а нават больш. Увогуле штуршком для напісання «Незавершанай аўтабіяграфіі» стала ваша вылучэнне ў 2011 годзе на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Выключна гэта, без аніякай палітычнай заангажаванасці, бо калі існуе дыстанцыя паміж Някляевым-паэтам і Някляевым-празаікам, дык Някляева-літаратара і Някляева-палітыка ў маім уяўленні падзяляе дыстанцыя яшчэ большая. Тым не менш праз той жа «Армагедон», у якім вы напісалі, што ў дзяцінстве забілі котку, партыя зялёных патрабавала зняць вас з прэзідэнцкіх выбараў. Значыць, у іх уяўленне пра дыстанцыю паміж паэтам і палітыкам іншае. Але якое яно ў вас? Ці існуе такая дыстанцыя ў вашай свядомасці?*

— У маёй свядомасці ёсць дыстанцыі паміж тэкстамі. Стылёвая дыстанцыя, жанравая... Калі паэт Ігар Севяранін піша ў вершы: «Я геній Ігар Севяранін», — гэта нармальна. А ўяві тое самае ў ягонай аўтабіяграфіі... Ці эпатажнае: «Я люблю глядзець, як паміраюць дзеці», — у аўтабіяграфіі Маякоўскага.

У мастацкім тэксце дазваляецца ўсё, што працуе на тэкст. І ўяўляць, што Маякоўскі забіваў дзяцей, а Някляеў — котак, могуць хіба зялёныя.

У дадзеным выпадку я не маю на ўвазе партыю. Але пераўтварэнне аўтара тэксту пра забойства ў забойцу выяўляе правілы, законы, па якіх людзі жывуць у палітыцы. Можна было б казаць пра адсутнасць усялякіх правілаў і законаў, але гэта не так, яны ёсць. І яны менавіта такія.

Найстрашнае ў палітыцы — мана. А яшчэ страшней тое, што без маны няма і не можа быць палітыкі.

Зрэшты, не толькі яе... Калі ўжо мы пачалі з Гётэ, дык да месца ўспомніць, што ў кантракце паміж Фаўстам і Мефістофелем была ўмова казаць толькі праўду. І нячысты дух адмовіўся падпісацца пад гэтай умовай. Прычыну не патлумачыў, але яна зразумелая. Бо ў такім разе выявіцца многае з таго, чаго б ён не хацеў выяўляць. І найперш тое, хто ён насамрэч ёсць.

Самога сябе такім, які ён ёсць, мала хто любіць. Нават д'ябал.

Сусветная чалавечая мана — гэта комплекс Мефістофеля.

***— Ці не таму вы грамадзянскую кампанію, з якой пайшлі на прэзідэнцкія выбары, назвалі «Гавары праўду»?***

— Някепскі жарт.

***— Дзякуй. Дарэчы, гэта самы драматычны перыяд вашага жыцця, адлік якога трэба, мусіць, пачынаць нават не з 2010 года, не з часу выбараў, а яшчэ раней — з эміграцыі ў 1999-м: Польшча, Фінляндыя; затым вяртанне ў Беларусь, якое магло скончыцца трагедыяй на Нямізе, дзе вас ледзь не забілі, калі вы яшчэ былі ў статусе кандыдата ў прэзідэнты. Потым шпіталь, з якога вас выкралі, турма, суд за судом; аж да гэтага часу перманентныя арышты з пагрозай для жыцця праз стан здароўя — і невядома, калі і як гэта скончыцца... Пішучы кнігу, я спрабаваў, апроч іншага, знайсці адказ на пытанне: навошта яно вам? Калі за вамі, як вы сказалі, «Армагедон». А яшчэ дадам: кнігі «Прошча» і «Так», дзе і «Паланэз», і «Ложак для пчалы». У літаратуры — перамогі, у палітыцы — паразы. Хіба гэта не стамляе? Псіхалагічна, фізічна. Ці, як напісаў згаданы вамі Пастарнак: «Другие по живому следу Пройдут твой путь за пядью пядь, Но пораженья от победы Ты сам не должен отличать»?***

— Гэта не лепшы верш Пастарнака. Сканструяваны. «Быть знаменитым некрасиво...» Няхай так. А чаму? Каб «быть живым и только?..» Тут Пастарнак у паэзіі, як Фуко ў філасофіі. Але радкі, якія ты працытаваў, моцныя. Нагадваюць гётаўскае «Цераз магілы — уперад!» Дарэчы, вельмі па-нямецку сказана. Беларус так не скажа.



**З Рыгорам Барадуліным.** Фота Сяргея Шапрана



**З Генадзем Бураўкіным**

Працяг на стар. 19 »

Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (146)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Вучыцца адчуваць віну

## З аўстрыйскай вандроўкі



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

**Кожны турыст, наведаўшы Аўстрыю, пачуе пра «хойрыген». А дакладна патлумачыць сэнс тамтэйшага, выключна аўстрыйскага, слова мала хто возьмецца. Бо свята гэта мае глыбокую гісторыю, а само слова шматзначнае.**




Фота www.wachau-heurigen.at



Фота www.wachau-heurigen.at

Некалі разумна прыдумаў імператар Франц Іосіф, прымусіўшы арыстакратаў купляць віно ў простых сялян дзеля эканамічнай падтрымкі іх гаспадаркі. Ежу неабходна было прыносіць з сабой. Такі, здавалася б, дзіўны загад з часамператварыўся ў прыгожую, вельмі выгодную нацыянальную традыцыю, па сутнасці — культуру віннага піцця: Heurigen. Само слова «хойрыген» азначае перш за ўсё віно дамашняй (сямейнага малога бізнесу) вытворчасці, свежае — апошняга ўраджаю і толькі да адзінаццатага дня адзінаццатага месяца, дня святога Марціна; пазней віно свежым лічыцца не будзе і не будзе называцца «хойрыген». Закон Аўстрыі і сёння на баку простых працавітых сялян-вінаробаў; дазваляе на некалькі месяцаў (невялікі тэрмін) на працягу года адчыняць рэстаранчыкі без звычайных для рэстараннага бізнесу вялікіх падаткаў. Дык вось такі дамашні рэстаран, кабачок, трактір, проста сялянскі двор альбо шацёр у полі ля вінаградніку, дзе даюць пакаштаваць свежае віно, таксама называецца «хойрыген». А яшчэ адзін сэнс слова — менавіта сам сямейны бізнэс вінароба (без вялікай колькасці наёмных работнікаў), які гадамі перадаецца ў сялянскіх сем'ях ад бацькоў дзецям у спадчыну, у абіходзе назавуць Heurigen. Вытворчасць віна гучна менавана, з фірмовым знакам ужо ніяк не назавецца «хойрыген».

Wachau, дзе я гасціла, з адной тысячай пяцістамі гектарамі вінаградных земляў, — маленькая частка вінаградніказў самой Аўстрыі. Аднак уславлены на ўвесь свет сваімі адмысловымі вінамі, якія напоўніцу зберaглі ўсе адценні смаку эльзаскіх рыслінгаў. Менавіта тут ёсць некалькі сусветна вядомых вытворцаў віна. У кожнага з іх свае сакрэты, аднак мацуюцца яны вякамі напрацаванымі спосабамі ад часоў загадкавых нібелунгаў.

Пад адкрыццё Heurigen у сваёй гаспадарцы вінаробы вывешваюць «зоркі» з раслін са стужкамі на шост ля сваёй брамы альбо сасновы вяночак, самачынна (у Аўстрыі вельмі цэняць усё рукатворнае) упрыгожваюць рэстаранчык, пішуць ад рукі аб'яву, наймаюць музыканта. Адкаркоўваюць бочкі, частуюць рознымі сартамі віна турыстаў, суседзяў, гасцей, праезджых аўтамабілістаў, «дальнабойшчыкаў» (закон там дазваляе нейкую колькасць спіртнога за рулём). «Хойрыген» наведваюць усе, ад маладога да старэчы: стогадовых дзядкоў-бабуль (толькі здолелі б рухацца). Дамовіўшыся між сабой, вінаробы не ствараюць канкурэнцыю, калі жывуць побач, а адкрываюць «хойрыген» па чарзе, пачынаючы ад мая і да самага адзінаццатага кастрычніка. Гэта сапраўднае свята Аўстрыі! (А пасля збору ўраджаю вінаграду, як толькі паспее забрадзіць выціснуты сок, праз пару тыдняў каштуюць хмельны выдатны квас — брагу, і гэта называецца ў аўстрыйцаў штурм).

Ежу цяпер прыносіць не трэба, як патрабавалася ад даўнейшых арыстакратаў, шырокага выбару закусак наўрад ці прапануюць, а вось абавязковую нарэзку з дамашняй вяндліны, саленняў, сыроў, зеляніны заказаць можна паўсюль, нават у палявым шатры.

Што да аўстрыйскіх страў — тут загвоздка. На ўвесь свет гучаць: венскі пірог, венскі шніцаль, венскі штрудзель, кава па-венску… І ў рэстаранах стравы вам паднясуць вышэйшага гатунку! А вось што тычыцца дамашняй кухні, звычайны аўстрыйскі стол не парадуе гурмана. Магчыма, тамашнія гаспадыні адвыклі шчыраваць — больш сілкуюцца ў кафэ. Да хвалёнага шніцаля камплектам ідзе салата — так красамоўна дабаўку гэту я не рызыкнула б назваць. Калі зварыць кіслую капусту з бульбай, потым павыцягваць гушчу і патрымаць яе колькі дзён у халадзільніку, дадаўшы цыбулі з алеем, то я б — адразу вон! А там завецца салатай і смачна ўжываецца. У беларускай кухні ёсць адпаведная страва — шэдэўр! Трэба ў квашаную капусту з дробна нашаткаваным бачкавым агурком і цыбуляй дамяшаць гарачай (!) бульбы кубікамі, пакрапіць алеем — язык праглынеш, нават шніцаль не спатрэбіцца. Без супоў і баршчоў па даўняй завядзёнцы нам аніяк не абыйсціся, а там з гэтым — непаразуменне. На вадкае накудласяць штосьці накшталт нашай заціркі, ды брыдчэйшую, сапсаваную ўлітымі праз сіта яйкамі. Можна спісаць на рознасць густаў, але нашы беларускія клёцкі і дранікі яны елі — аж вушы круціліся.

Пад вечар звычайна гаспадар падносіць самым паважаным жыхарам гарадка пачастунак бясплатна. Хоць кошт па нашым разуменні і без таго вельмі малы, а вось для эканомных аўстрыйцаў з іх заробкамі ў тысячы еўра кошт віна не здаецца такім. Прыкладная калькуляцыя: вечар на пяць чалавек з паўнавартаснай закускай у выглядзе мясной нарэзкі, сырнай і зеляніны, з заказам віна па бакалу рознага сорту на кожнага і пачастункам абыйшоўся на ўсіх — трыццаць дзевяць еўра.

Недасведчаныя турысты могуць памылкова любы маленькі рэстаранчык назваць «хойрыгенам» — праходзіць «на раз». Не стануць спрачацца і самі гаспадары — паднясуць заказанае віно. Па справядлівасці — даўно ў Аўстрыі днём з агнём не знойдзеш таго беднага селяніна-вінароба, дзеля якога завёўся закон! Закон, які так прыгожа і слаўна спрацаваў…

Аўстрыйцы любяць сваю нацыянальную адзежу і носяць яе па святах. У «хойрыген» асабліва. Амаль кожны дзень. У крамах, кавярнях, рэстаранчыках гаспадыні апрануты ў сукенкі асаблівага крою, часцей клятчастай афарбоўкі тканіны. Уся нацыянальная вопратка завецца «die Tract», але існуе асобная назва для жаночай (Dirndl) і мужчынскай (як агульная). Варыянтаў сучасных шмат-шмат: сукенка, сарафан, спадніца з карсэтам… Але нязменным будзе крой нейкіх адмысловых дэталяў. Гэта рукаў, дэкальтэ, моцна прыталены карсэт, камізэлька, зборчатая спаднічка, белая блузачка. Сапраўдныя нацыянальныя мужчынскія ўкарочаныя штаны — вельмі складаны па крої і выкананні элемент вопраткі. Дарэчы, першым, хто апрануў такую адметную дэталь туалета (да той пары ўкарочаныя скураныя штаны асобага крою насілі толькі сяляне горных раёнаў), быў той самы дальнабачны імператар Франц Іосіф, з лёгкай рукі якога, а дык і з нагі, выходзіць, таксама, Аўстрыя прыдбала столькі нацыянальнага каларыту! Дапаўняюць мужчынскі «трахт» клятчастая (альбо белая) кашуля шырокага крою і скураная камізэлька, белыя гольфы і замшавыя чаравікі, капялюш з аздабленнем. Кошт мужчынскага касцюма значна даражэй. Хоць залежыць ён ад якасці тканіны і адпаведнасці традыцыйнаму ўзору. Пры дзівосна невялікіх аўстрыйскіх цэнах амаль на ўсе прадукты і рэчы ў супермаркеце самы танны варыянт «трахтэн» будзе каштаваць 200-350 еўра. І карыстаецца попытам! Замоўлены ж у слыннага майстра пацягне на 2000 еўра. Так высока цэняць свой нацыянальны касцюм аўстрыйцы, шануюць сваю асаблівасць.

Кідаецца ў вочы, што аўстрыйскія жанчыны не маюць дэфіцыту мужчынскай увагі, таму і не «выпендрываюцца» адна перад адной, як нашы. Я была ў Вене, Вахау, у элітных тэатрах і вёсках, у горным паселішчы Яулінь, дзе святкавалі юбілей першай у краіне радыё-тэлевежы, бачыла, як святкуюць вяселле звычайнай маладой пары, і не беднай… Паўсюль адно: аўстрыйскія жанчыны апранаюцца сціпла пры тым, што ўзровень жыцця ў краіне больш чым высокі. Мала хто з жанчын фарбуе валасы, яшчэ менш карыстаюцца касметыкай (у нашым уяўленні — размаляваць).

Працяг на стар. 16 (10) »

# Школа маладога пісьменніка: 2018-2019

**Завершаны набор у Школу маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.**



З 86 заявак, дасланых з Мінска і Міншчыны, Віцебска, Гародні і Пінска, выкладчыкі і куратары адабралі 20. Мяркуецца, што на другім курсе будзе 6 навучэнцаў.

Школа маладога пісьменніка працуе з 2012 года як нефармальны адукацыйны праект, і за гэты час дзясяткі аўтараў змаглі знайсці свой шлях у літаратуру. У дэбютнай кніжнай серыі «Пункт адліку» выдаюцца таленавітыя творы, штогод па выніках Школы выходзіць калектыўны зборнік работ выпускнікоў. Кнігі навучэнцаў Школы трапляюць у фіналы літаратурных прэмій. Напрыклад, аповесць Зараславы Камінскай «Русалкі клічуць» атрымала першую прэмію «Дэбют»–2018, таксама гэтае выданне разам з раманам Ксеніі Шталянковай увайшло ў доўгі спіс сёлетняй прэміі Ежы Гедройца.

Аднак новаабраным шчасліўчыкам яшчэ рана марыць пра галавакружныя поспехі — у іх наперадзе вялікая праца. Напярэдадні заняткаў мы спыталі ў выкладчыц Школы пра чаканні, планы і надзеі ў навучальным сезоне 2018/2019.

Ганна Бутырчык, літаратуразнаўца, загадчыца кафедры замежнай літаратуры БДУ, кандыдат філалагічных навук:

— Нягледзячы на тое, што праграма школы за гады працы адшліфавалася, кожная група дадае нешта ў агульную творчую атмасферу, правакуе мяне як выкладчыка на новыя заданні, нечаканыя формы падачы матэрыялу. Кожны курс для мяне непаўторны, і я спадзяюся, што і новыя навучэнцы будуць прыемна здзіўляць неспадзяванымі паваротамі сюжэта, стылёвымі пасажамі, наватарскай кампазіцыяй, — будуць рабіць нечаканае; рабіць, як не бывае; рабіць тое, што да іх не рабіў ніхто.

Я спадзяюся, што нашая маладыя пісьменнікі не толькі навучацца ствараць, адэкватна ацэньваць і бязлітасна правіць уласныя тэксты, але стануць адданымі чытачамі, слухачамі і шчырымі крытыкамі тэкстаў сваіх аднакурснікаў. Я зычу ўсім нам прыемнага засваення граматыкі фантазіі і спасціжэння алхіміі Слова. Навучэнцам другога года я жадаю творчай рэалізацыі прапанаваных праектаў і дэбютных кніжак.

Наталля Паваляева, празаік, выкладчыца кафедры замежнай літаратуры БДУ, кандыдат філалагічных навук:

— Кожны новы год у Школе адрозніваецца ад папярэдняга — і гэта нармальна, гэта здарова. Людзі ўсе розныя, таму натуральна, што кожны год у новай школьнай групы — свой твар (дакладней, свае твары). Перадусім я чакаю, што тыя, хто адабраўся ў групу, будуць карысныя адно аднаму — як калегі, чытачы, крытыкі. Вельмі важна, каб у групе ўсталяваліся лёгкія пазітыўныя ўзаемаадносіны — мы пастараемся дапамагчы ў стварэнні спрыяльнай для гэтага атмасферы. І, канечне, усе выкладчыкі будуць рады, калі слухачы Школы атрымаюць цягам заняткаў тое, на што спадзяваліся, падаючы свае заяўкі: матывацыю для творчасці, некаторыя тэхнічныя навыкі і пад. І яшчэ хочацца спадзявацца, што ўсе стануць больш чытаць.

Як паказвае практыка мінулых гадоў, новым навыкам для тых, хто паступае ў Школу пісьменніка, з'яўляецца навык рэгулярнага пісьма. Гэта гучыць парадаксальна, аднак гэта так. Тры заданні, якія штомесяц павінны выконваць слухачы Школы — добрая ў гэтым сэнсе трэніроўка. Другі навык, на мой погляд, неабходны для пісьменніка — навык рэгулярнага ўдумлівага чытання. Што датычыцца поспехаў — тут цяжка загадваць, дый мы, выкладчыкі, ніколі не «ціснем» на слухачоў і не патрабуем нейкіх вынікаў. Галоўнае, каб людзі атрымлівалі задавальненне ад таго, што яны робяць, і паболей пісалі. А як усё складзецца ў далейшым — час пакажа.

Людміла Рублеўская, празаік, паэтка, літаратурны крытык, журналістка.

— Спадзяюся, як і штогод, адкрыю для сябе яшчэ некалькі маладых талентаў, якія, нягледзячы ні на якія неспрыяльныя абставіны, будуць працаваць на карысць беларускай культуры. Спадзяюся ўбачыць людзей, якія ўмеюць самастойна мысліць, для якіх літаратура — не хобі і не сродак атрымаць нейкі «сацыяльны капітал».

Будзем, як заўсёды, развіваць літаратурны слых. Углядацца ў свет, услухоўвацца ў сябе, ламаць стэрэатыпы і змагацца з сіндромам юнага генія і гіпнозам гігантаў. Жадаю скарыстаць унікальную магчымасць, якая даецца ў Школе: чытаць, думаць і працаваць, не шкадуючы сябе, каб «на выхадзе» мець цэлы стос якасных рукапісаў і вялікія творчыя планы.

**Падрыхтавала Віка Трэнас**

# «Дзівосны сад» Святланы Явар

**У серыі «Кнігарня пісьменніка» пабачыла свет выбранае паэткі, празаіка, журналіста, філолага Святланы Явар (1968–2011). Укладальніцай зборніка выступіла Таццяна Барадуля.**

Святлана Явар (Святлана Барысаўна Сачанка) нарадзілася ў сям'і пісьменніка Барыса Сачанкі. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру Інстытута мовазнаўства (абараніла кандыдацкую дысертацыю па творчасці Масея Сяднёва). Працавала журналістам, выкладчыкам, навукоўцам. Раптоўна памерла 8 чэрвеня 2011 года.




У выданне ўвайшлі вершы з двух раней вядомых зборнікаў «Белы месяц» і «Раніца ў туманах», паэтычныя творы розных гадоў, а таксама проза.

«Адзін з самых яркіх сімвалаў лірыкі Святланы Явар — ружа, — піша ў сваім эсэ Таццяна Барадуля. — Ён знакавы для майго разумення самой Святланы, бо разглядаючы яе фотаздымкі на старонках выданняў, у мяне ўзнікаюць асацыяцыі менавіта з гэтай кветкай: бездакорна прыгожы, круглы твар, яркія вочы, выразнымі дугамі чорныя бровы над імі, поўныя, яскрава акрэсленыя вусны, цёмна-каштанавыя пышныя валасы. Усё яе аблічча налітае прагай жыцця і любові, яна раскрытая насустрач свету».

# Пэтсан і Фіндус — дзве новыя кнігі па-беларуску

**«Час пеўня» і «Мітусня ў агародзе» — так называюцца кнігі, якімі працягвае радаваць беларускіх дзетак ды іх бацькоў серыя «Каляровы ровар» Саюза беларускіх пісьменнікаў.**




Героі Свэна Нурдквіста загаварылі па-беларуску дзякуючы феі-перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч — і цяпер практычна ўсе вядомыя казкі пра дзядка і коціка даступныя на нашай мове!

Шведскі пісьменнік і ілюстратар, творы якога сталі класікай сусветнай літаратуры, нарадзіўся ў 1946 годзе ў Хельсінборгу і на працягу ўсяго жыцця займаўся маляваннем. Працаваў архітэктарам, настаўнікам, ілюстратарам.

У 1983 годзе Свэн Нурдквіст перамог у конкурсе выдавецтва «Opal» на лепшую праілюстраваную кнігу. У кнізе «Блінны торт» чытачы ўпершыню пазнаёміліся са старым, якога завуць Пэтсан, і яго коцікам Фіндусам, якія пазней сталі героямі цэлай серыі.

«Пэтсан жыве на хутары з прыгожым садам, паветкай з дровамі, майстэрняй і куратнікам з дзясяткам курэй. Таксама ў Пэтсана ёсць коцік Фіндус. Калі яму больш няма чым заняцца, Фіндус дражніць ды ганяе курэй. Куры — найлепшыя сяброўкі Фіндуса. Ну, вядома, калі не лічыць Пэтсана», — так пачынаецца казка «Час пеўня».

Новыя кнігі Свэна Нурдквіста даступныя ў беларускіх кнігарнях.

**Прэс-служба СБП**

# Вінцэсь Мудроў: стваральнік непаўторнага стылю

**У далёкім ужо юнацтве я неаднойчы разважаў пра XXI стагоддзе, якое няўхільна набліжалася. Стагоддзе надзеі ці стагоддзе расчаравання? Якое яно будзе? І кім я буду ў ім? Як-ніяк буду мець, о Божа, такі сур'ёзны ўзрост: больш за сорак гадоў. Так я разважаў у свае сямнаццаць-васямнаццаць.**

Але вось мне ўжо хутка шэсцьдзясят, але не лічу яшчэ свой узрост сур'ёзным. Да чаго гэта я? А да таго, што з часам нашыя меркаванні істотна мяняюцца. І яшчэ, што час не стаіць на месцы.

Для мяне Вінцэсь Мудроў напрыканцы 80-х быў старэйшым сябрам і паплечнікам па Таварыстве вольных літаратараў. Але прайшоў час, і мы сталі амаль... аднагодкамі. Сёлета 11 верасня Вінцэсю споўнілася 65 гадоў. Але што цяпер значаць шэсць гадоў розніцы?!

Па вялікім рахунку, Вінцэсь Мудроў быў адзіным чалавекам на Полачыне, які падтрымаў мяне спачатку ў справе выдання альманаху «Ксэракс Беларускі», а затым і ў стварэнні ТВЛ.

Са студэнцкіх гадоў ён меў вопыт самвыдату, які, праўда, скончыўся сумна. Хлопцаў за рукапісны альманах «Блакітны ліхтар» зацягалі па КГБ.

То бок вопыт не зусім станоўчы, можна сказаць, папярэджальна адмоўны. Нагадаю, што «Ксэракс» пачаў выходзіць яшчэ за савецкім часам, прыканцы 80-х. Але Мудрову ніколькі той сумны папераджальны вопыт не перашкодзіў зноў узяцца за старое. Амаль усе выданні, усе тэксты і творы, якія мы за апошнія 25 гадоў выдалі, прайшлі праз яго рэдактарскія, ужо падслепаватыя, вочы.

Пра Мудрова мала пішуць. Практычна ніхто сур'ёзна і не пісаў. Бо і цяжка пра яго пісаць. (Некалі ў маладосці яму прыйшоў водгук на дасланыя творы ў часопіс: друкаваць не будзем, бо аўтар у сваіх апавяданнях здзекуецца з людзей).

Нават не таму, што асоба Мудрова неасэнсаваная, неўнармаваная і несістэматызаваная. А таму, што гэта патрабуе вельмі разгалінаваных літаратуразнаўчых і філалагічных ведаў. Некалі наш тэвээлаўскі тэарэтык, кандыдат філасофскіх навук Алена Ніякоўская мне сказала, што яна не можа добра напісаць пра Мудрова, бо ёй не хапае лінгвістычных ведаў. Я моцна здзівіўся, бо Алена Паўлаўна вельмі-вельмі дасведчаны чалавек у літаратазнаўстве. Яна патлумачыла: найвялікшая каштоўнасць Мудрова — гэта ягоны аўтарскі стыль, насычаны запазычаннямі з іншых моў, пераважна заходнеславянскіх, і таму тут патрэбны адпаведныя веды.

Будзем спадзявацца, што такі адмысловец з часам з'явіцца ў Беларусі і напіша пра Мудрова дасведчана і глыбока.

А я толькі мушу прыканцы зацеміць, што 65 — гэта яшчэ не сур'ёзны ўзрост для XXI стагоддзя. Таму чакаем ад Мудрова новых твораў, новых кніг і будзем надалей цешыцца ягонай прысутнасцю ў беларускім культурніцкім свеце.

**Алесь Аркуш, nn.by**

# Што зжылося з лістападам

## (Да творчага партрэта Міколы Пракаповіча)

Наша сяброўства пачалося ў студэнцкія гады, а назаўсёды знітавалася ў лістападзе 1974-га, на семінары маладых літаратараў у Караліштавічах. Яно мацавалася натхняльным подыхам коласаўскіх ялінаў з іскрынкамі першага снегу, зычлівымі, хоць не кожны раз ухвальнымі, словамі пра нашы вершапрактыкаванні такіх мэтраў, як Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Васіль Вітка, Еўдакія Лось, шматлікімі знаёмствамі з аднагодкамі, з якімі вялі спрэчкі не адно на паэтычных практыкумах. У кулуарах, вечарамі, распальваліся эмоцыі вакол яшчэ «падпольнага» тады «Сказа пра Лысую гару» і асабліва вакол «старой, якая не хоча паміраць», — роднай мовы. Даходзіла ледзь не да фізічных сутычак з тымі, хто ўжо меў партбілеты і адстойваў «мудрую» нацыянальную палітыку дзяржавы. Спадзяванні ж нашы былі іншыя — на народ ды найлепшых сыноў ягоных. Была вера і ў сябе, у сваю будучыню: «Абавязкова збудзецца ўсё, што сёння з лістападам не зжылося».



Мікола Пракаповіч

Ісці поплеч з такім аптымістам і жыццялюбам было лёгка і проста, хай ты і больш павольны за яго, і ўсумнёны. Разам дэбютавалі ў «ЛіМе» — адразу ж пасля творчага семінара, у калектыўным зборніку «Нашчадкі» — у 1979 годзе, асобнымі кніжкамі — у 1982-м... Мне, як і ягоным чытачам, ад самага пачатку ў вершах Міколы Пракаповіча імпанавала яшчэ адна, апрача патрыятычна-багдановічаўскай, пуцяводная зорка: мройная зорка свабоды чалавека ад гвалту, прыніжэння, неабходнасці быць «вінцікам» бяздушнага грамадскага механізму. Паэт нярэдка — у вершах «Кола», «Крылы», «Маналог прыпражнога каня», іншых — выходзіць на маштабныя філасофскія абагульненні, і ўсё ж агульналюдскія каштоўнасці і каштоўнасці нацыянальныя ў яго неад'емныя, дзве іпастасі свабоды злітныя, як святло падвойнай зоркі ў Сусвеце.

Невыпадкова ў канцы 80-х–пачатку 90-х гадоў ён бярэ самы чынны ўдзел у адраджэнскім руху, як вядома, не толькі культурніцкім: «Быць па-за палітыкай сёння — гэта таксама палітыка, выгодная тым, хто хацеў бы мець народ за маўклівы статак». Гэтак сказаў паэт Пракаповіч у тадышнім інтэрв'ю газеце «Вечерний Брест». І прызнаваўся, што невыносна цяжка пры гэтым адчуваць, калі «твая праца, твае намаганні разбіваюцца аб глухую сцяну людской абыякавасці, неразумення, прагматызму». Больш за тое, спробы «адушавіць» тую частку грамадства, што ўсмактала ў кроў дыктат важакоў мінулых дзесяцігоддзяў, небяспечныя, пагрозлівыя для цябе:

*Спакушаная абяцаным раем,*
*раз'ятраная пахамі крыві,*
*няслася за сваёй здабычай зграя,*
*звужаліся, звужаліся кругі...*

Нагадаю, што апошняя ў пройдзеным часе кніжка Міколы Пракаповіча — «Трохперсце» (2008 г.). Зборнік калектыўны, аднак перш за ўсё ягоны: менавіта яму належыць рыцарска-сяброўская ідэя паяднацца адной вокладкай з незабыўным рамантыкам Міхасём Рудкоўскім і сціплым аўтарам гэтага эсэ. У сваім паэтычным раздзеле «Літары на літоўцы» Мікола Пракаповіч па думцы, па нерву душы акумулюе і ўласцівае вершам «суаўтараў». Кранае гама пачуццяў, з якімі ён асэнсоўвае сённяшні ўласны маральна-псіхалагічны стан і стан краіны, народа. Пераважаюць характэрныя для цяперашняй беларускай паэзіі расчараванні, сумненні, трывогі. Паэтам-берасцейцам яны выказваюцца надзвычай абвострана, як, напрыклад, у радках пра аднаўленую святыню Еўфрасінні Полацкай: «Крыж закляты — ён вяртаецца ў свой храм. Ці вернуцца душы, каб адрадзіць Радзіму?..» У іншых радках, аднак жа, скрозь боль і роспач прабіваюцца прабліскі спадзеву і трывання: «Не зламацца... Хапіла б сілы дачакацца зоркі сваёй, — і з крыжа вырастаюць крылы, каб узняць цябе над зямлёй».

Самы пранізлівы, як на маё ўспрыманне, у Пракаповічавых «Літарах на літоўцы» верш пра радзінны кут, першакрыніцу жыцця. Такой шчымлівай танальнасці, здаецца, не сустракаў у сябра ніколі раней:

*Знікае адзінае, што яшчэ маю, —*
*сядзіба радзінная пад небакраем...*
*Куды я ступлю са світальнага*
*ганку,*
*калі ты забрала з сабой*
*калыханку,*
*дзяцінства грыбное,*
*пякучыя росы,*
*слядок мой, безабаронны і босы?*

Ды ўжо сам зварот да непазбыўнага, самага святога хіба не здольны мацаваць дух, асушваць чуллівую слязу? Яно ж было. Яно і ёсць — у сэрцы і памяці.

Міколаў бацька быў рабочым-партавікам, балазе замухавецкая вёска Пугачова лічылася прыгарадам Брэста, а неўзабаве ягонай «задымленай вуліцай з імем Суворава стала». Зацяты руплівец і маўчун, бацька мала ўмешваўся ў сынаву школьную вучобу ды ў ягоныя захапленні. «Папраўлялі» іншыя, не менш зычлівыя людзі. Да яшчэ дзіцячых рыфмаванак-забаўлянак падахвоціў сусед, паэт і кампазітар-аматар з Масковіі Дзмітрый Васільеў. А ўжо на беларускі шлях скіравала школьная настаўніца Ніна Максімаўна Лук'янчык. Намацваў Мікола свае нацыянальныя карані і самастойна — праз «ліцвінства» (што азначала — непадобнасць, адметнасць) тутэйшых жыхароў, праз непаўторную прыроду, нарэшце праз сваю генетычную повязь. Ягоны дзед Ілля (Гальяш) са Слонімшчыны слыў майстрам не толькі пілы і сякеры, з якімі хадзіў у заробкі, але і скрыпкі. Не адзін верш прысвяціў яму ўнук-паэт. Менавіта такім вершам адкрываецца першы самастойны зборнік Міколы Пракаповіча «Неад'емнае» (1982):

*Здаваўся бязважкім кляновы*
*смычок*
*Натруджаным пальцам ягоным,*
*А скрыпку лагодна прымала*
*плячо,*
*І хата сціхала ўтрапёна.*

Рыхтык малюнак з майго маленства! Скрыпка была адна на ўсю маю вялікую вёску і рэдка паяўлялася на вяселлях. Калі ж уключалася ў невялічкі аркестр, дык рабілася галоўнаю, «засланяла» і гармонік, і бубен. Зачароўваў усіх шчымлівы напеў, што зыходзіў, здавалася, з самой музыкавай душы, заўсёды з адценнем журбы, нават калі гучала бадзёрая мелодыя для скокаў. Ці не перш за ўсё яна, скрыпка, увасабленне-сімвал і музыкі, і паэзіі, і мастацтва наогул?..

Гэтае, суб'ектыўнае, успрыманне пераношу на блізкую мне паэзію майго сябра. Так, у вершах Міколы Пракаповіча гучаць «эпічныя» дуда і ліра, зазыўная труба і вячысты звон, аднак яны чаргуюцца, а мінорны голас скрыпкі чуецца найчасцей, водгук яго ўлоўліваеш і ў інтымнай лірыцы, і ў творах грамадзянскіх, публіцыстычных. Яскравы кантрапункт, напрыклад, у такіх радках: «Ты апошні ў мяне — не знікай, астравок неспаганенай веры!» — і тут жа: «Быццам выйшаў адзін з цягніка часам золкім і шэрым».

Зрэшты, прыведзеныя радкі — з верша ўжо сталага паэта, аўтара зборніка з характэрнаю назваю «Мяжа надзеі» (1993), услед за якім паплылі матывы і зусім элегічныя, са скрыпкаю, што не спявае, а толькі «роспачная ўздыхае і слухае». У гады ж, калі ствараліся «Неад'емнае» і «На кругі свае» (1986), ні час, ні свет, ні будучыня не здаваліся шэрымі, святло пераважала над ценямі, смутак быў тым, што мы называем вядомым аксюмаранам «светлы сум» або, як Мікола Пракаповіч, «белай журбою». Гэта былі гады маладосці, кахання, рамантыкі, якая ў студэнцтве паклікала паэта на сопкі ў Сібір, а пасля філфака брэсцкага педінстытута — углыб Палесся.

Настаўнічанне ў палескай глыбінцы, потым працаглая, у чатыры дзесяцігоддзі, праца тэлежурналіста, пазнанне самабытнасці краю ў людзях, у прыродзе, сяроддзі якой жывуць, у іх гісторыі і культуры моцна паўплывалі на творчасць паэта, узбуйнілі і паглыбілі яе. Найперш — духоўна ўзбагацілі самога аўтара. Таленавітасць народа не цуд, а неад'емная рыса, што складвалася і развівалася цягам многіх стагоддзяў, народнае мастацтва — яе праяўленне ў людзях найбольш здольных. Тое самае і з азначэннем паэзіі, калі без ідэалізацыі: гэта адна з формаў выказвання творчай асобы. Які ты ёсць у сваёй чалавечай сутнасці, такая твая паэзія. Ні больш, ні менш:

*Язычнік я.*
*Другой не маю веры.*
*І, заварожаны, гляджу,*
*Як тонкае лязо аеру*
*Блішчыць у кропельках дажджу...*
*...Тут шчырым быць я не баюся.*
*І як далёкі прашчур мой,*
*Я зноў надоўга застаюся*
*Сам-насам з небам і вадой.*

Сёння язычніцтва, або паганства, з ягоным культам прыроды, роду і продкаў не рэлігійная вера, не светапогляд, аднак жа вялізны жыццядайны пласт мінуўшчыны, у якім нарадзілася столькі цудоўных вобразаў міфалогіі і фальклору, адкуль яны перайшлі ў прафесійную літаратуру і дасюль сілкуюць яе сюжэтамі, метафарамі і г.д. І калі сучасныя паэты, у тым ліку Мікола Пракаповіч, не цураюцца біблейскіх матываў, дык «індустрыяльнай» паэзіі ў нас так і няма, як бы ў нядаўнім мінулым ідэолагі ні заклікалі творцаў ісці ў нагу з «жалезным поступам сацыялізму». Куды прывёў гэты поступ, мы добра ведаем... На бяздумную ды бяздушную меліярацыю, як і на чарнобыльскую бяду, берасцейскі паэт адгукнуўся адным з першых, і адразу ж трывога за будучыню роднай, такой любай яму зямлі стала скразною ў ягоных вершах і паэмах. Яна яшчэ больш абвастрыла погляд паэта-патрыёта на гістарычны лёс народа, на незлічоныя і шматгранныя праблемы сучаснасці. Добра, заўважу пры гэтым, што не ўмясцілася яна ў пракруставым горне публіцыстыкі, не шуганула толькі адкрытым, хай і палымяным, словам. Як лірык, Мікола Пракаповіч заўсёды дбаў пра глыбіню, вобразнасць і душэўнасць сваіх твораў, таму кранаюць сэрца чытача, напрыклад, паэма «Неад'емнае» са славутымі маналогамі, «Казкай пра чорта» ды іншымі раздзеламі, паэма «На кругі свае» з трапяткім вобразам белай птушкі — пракаветнага духу Айчыны, змястоўныя баладныя цыклы гістарычнай тэматыкі, многія самабытныя вершы пра мову, тую самую «старую, якая не хоча паміраць» (Ніл Гілевіч). Ніхто, здаецца, так па-сучаснаму і так «па-свойму» не пісаў пра стаўленне да роднай мовы сённяшніх маладых спажыўцоў-пустадомкаў:

*...І папыліць у горад,*
*між кумпякоў і бульбы, —*
*мазолістых рук набыткам, —*
*у торбах, у сумках модных,*
*каторы ўжо раз забытая*
*мова мая — боль мой.*

Вельмі шкада, вядома, што апошнім, і немалым ужо, часам ліра (скрыпка) Міколы Пракаповіча маўчыць ці зрэдзь «правярае» струны. Скончылася «мяжа надзеі» на адраджэнне Айчыны і духу народа? Або на шчодрасць сваіх лістападаў? І ўсё ж гэта не азначае, што схаладнела душа. Яна, цёплая і жывая, шчыміць адзінотаю і, як раней, цягнецца да палескай прыроды, некранутыя астраўкі якой дзе-нідзе захаваліся, да мудрых і творчых людзей Палесся, хоць іх, на жаль, таксама ўсё менш, да нездрадлівых сяброў і сваіх вучняў-паслядоўнікаў, нарэшце, да Слова — уласнага тэлеэфірнага і пісанага іншымі ў кніжках.

Да кніжак многіх землякоў ён мае наўпроставае дачыненне, як да ўжо згаданага «Трохперсця», як да анталагічнага зборніка берасцейскай паэзіі «Дзядзінец» або калектыўных зборнікаў твораў пачаткоўцаў, укладзеных ім. З ліку літгурткоўцаў, што займаліся пры абласным Доме моладзевай творчасці пад апекаю Міколы Пракаповіча, даўно сцвердзілі сябе яркімі паэтамі Максім Шчур, Ярына Дашына, Сяргей Прылуцкі. Літаральна ў мінулым годзе, дзякуючы яму, укладальніку і «прадзюсеру», пабачыў свет зборнік «...І нараджалася Слова» з твораў былых і цяперашніх супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі «Брэст». Сярод аўтараў — Міхась Рудкоўскі, Васіль Жуковіч, Ніна Загорская, Уладзімір Ягоўдзік, Таццяна Сапач...

Ну а ўнёсак у айчынную паэзію ўласнымі творамі — хіба ён малы? Не цягне на шматтомнік, аднак жа значны, і найперш — у патрыятычную лірыку, а таксама ў лірыку кахання. У датклівага чытача на слыху, думаю, шмат якія інтымна-спавядальныя радкі Міколы Пракаповіча — ад «я спяшаўся лугамі роснымі да даросласці напрасткі» і да «з раніцы дворнікі спаляць на лісці абцасікаў след».

Перабіраю адносна новыя паэтавы вершы і шукаю пільна патрэбны для канцоўкі майго эсэ. Вось ён — «Дыялектыка». Адценняў сумна-іранічных знарок не заўважаю — мяне радуе вось гэта:

*...хапаю на поўныя грудзі*
*звонкі марозны ранак,*
*і як не было адчаю,*
*тупога падвальнага болю, —*
*я зноў залатога лісця,*
*пунсовых рабін абраннік!*

Як мага часцей такіх настрояў, сябра, ва ўсіх тваіх наступных лістападах!

**Алесь Каско,**
**лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова**



Малюнак Адама Глобуса

# Мулявін

## Словы пра музыку

Адам ГЛОБУС

### «Песняры»

Калі Уладзімір Мулявін адзін выходзіў на сцэну і пачынаў спяваць, гэта быў ансамбль «Песняры»; а як вялікі ансамбль з назовам «Песняры» выходзіў на сцэну ды граў-спяваў без Уладзіміра Мулявіна, гэта былі ўжо не «Песняры», а нейкія «Сябрукі», нейкія «Верасні», нейкія «Дзяды», нейкія «Асілкі» ці яшчэ нехта з кімсьці.

«Песняры» і Уладзімір Мулявін для мяне — з'явы непадзельныя. Нейкі час пасля смерці Уладзіміра Мулявіна ўсе спадзяваліся, што ансамбль можа заставацца «Песнярамі» і без свайго заўсёднага лідэра, бо хапала ў ім выдатных музыкаў, якіх ведаюць і любяць. Барткевіч, Кашапараў, Дайнэка. Місевіч… Выдатныя творцы. Таленавітыя музыкі. Запамінальныя і пазнавальныя. Іх паважаюць і іх па-сапраўднаму любяць, але не так, як любілі і паважалі Уладзіміра Мулявіна. Іх любяць значна менш, таму і «Песняры» без Уладзіміра Мулявіна больш не «Песняры».

Мне было цяжка гэта прызнаць, але я гэта зрабіў. Варта было б і ўсім астатнім пагадзіцца з такім сумным і невыпраўляльным фактам.

### Багушэвіч

Новая беларуская паэзія пачынаецца з верша Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская», з радка «Эх, скручу я дудку…».

Падобным чынам новая беларуская песня пачалася з кампазіцыі «Песняроў»:

*Ой, ранааа на Йвана…*
*Проць Івана ночка мала.*
*Ой, ранааа на Йвана… (2 разы)*
*Дзе Купала начавала?*
*Ой, ранааа на Йвана… (2 разы)*
*Начавала ў чыстым полі.*
*Ой, ранааа на Йвана… (2 разы)*
*Чым Купала вячэрала?*
*Ой, ранааа на Йвана… (2 разы)*
*Вячэрала белым сырам.*
*Ой, ранааа на Йвана… (2 разы)*
*Чым Купала запівала?*
*Ой, ранааа на Йвана… (2 разы)*
*Запівала гарэлцай.*
*Ой, ранааа на Йвана…*

У кожнай справе важна пачаць, важна скрануцца з мёртвай кропкі, важна зрабіць першы глыток паветра і выдыхнуць… У «Песняроў» атрымалася надаць новае дыханне старым беларускім песням. Уладзімір Мулявін набраў поўныя грудзі паветра і выдыхнуў:

*Ой, ранааа на Йвана…*

### Сцэнічны касцюм

Некалькі разоў мне пашанцавала, і я трапіў на застолле разам з Уладзімірам Мулявіным. Не буду казаць, што я з ім выпіваў. Ён гаманіў, жартаваў і піў з іншымі людзьмі, а я куляў чарку на другім канцы стала. Тыя вечары запомніліся яшчэ й тым, што з усёй самай рознай публікі Уладзімір Мулявін быў адзіны, хто з'явіўся на свята ў сцэнічным касцюме. Святары і вайскоўцы таксама папрыходзілі ў парадных строях, але такой формаю нікога не здзівілялі і не радавалі. Уладзімір Мулявін радаваў і здзіўляў, бо мог жа прыйсці на свята і ў цывільнай адзежы, а ён прыходзіў у шляхетным строі стара-беларускага магната. Зразумела: у такім шыкоўным строі музыка адразу рабіўся цэнтрам увагі. Мне было прыемна на яго глядзець, зрэшты, я перакананы, што шмат каго радавала прысутнасць на свяце такой яркай і самабытнай зоркі, як пясняр Уладзімір Мулявін.

### Кіраванне

Уладзімір Мулявін не проста ўзначальваў ансамбль «Песняры», ён ім кіраваў, і кіраваў жорстка. У «Песняроў» была адна думка, і гэтая думка належыла Уладзіміру Мулявіну. У «Песняроў» было адно мерkаванне, і яно таксама было мулявінскае. На ўсе пытанні ў ансамблі «Песняры» адказваў адзін чалавек — Уладзімір Мулявін. Калі ён сказаў: не браць капэрты з грашыма ад удзячных слухачоў, значыць, ніхто з песняроў не бярэ капэрты. Ала брала, Іосіф браў, Вахтанг браў… Усе бралі, а «Песняры» не бралі, бо так вырашыў Уладзімір Мулявін. Наракаць наракалі, скардзіцца скардзіліся, нават абураліся такім антыэканамічным загадам кіраўніка, але не парушалі яго. Спрэчка песняроўскага музыкі з Уладзімірам Мулявіным магла лёгка скончыцца выгнаннем з ансамбля. Ніхто не хацеў рызыкаваць, усе падпарадкоўваліся, бо гэта было разумна і плённа.

### Народнасць

Пасля выхаду на кружэлках двух вялікіх альбомаў папулярнасць у «Песняроў» Уладзіміра Мулявіна стала фенаменальнай. Калі ў мінскім Палацы спорту ўлады дазвалялілі прадаць квіткі на дзесяць канцэртаў, «Песняры» гралі дзесяць аншлагаў узапар. Яны гралі па два канцэрты на дзень. Каб можна было атрымаць дазвол на дваццаць канцэртаў, публіка зрабіла б і дваццаць аншлагаў, не сумняюся. І так па ўсёй Беларусі, і так па ўсім СССР. У піцерскай мастацкай вучэльні студэнты з Кемерава цэлую ноч спявалі нам — мінскім студэнтам — песняроўскія песні. Яны дакладна вымаўлялі ўсе беларускія словы, а потым прасілі нас патлумачыць іх сэнс.

Пра Уладзіміра Мулявіна расказваліся легенды. Адну такую легенду я пачуў ад Уладзіміра Сцяпана… Знаёмыя чакалі цягнік «Мінск-Гомель», сядзелі на пероне і трэнькалі на гітары. Да іх падышоў Уладзімір Мулявін. Жэстам папрасіў гітару. Сыграў. Вярнуў гітару і сышоў. Ні слова не сказаў, проста паказаў, як трэба іграць. Падобнае апавяданне я чуў і ад Хведара Сарокі… Мая Алена расказвала пра суседа, які вечарамі ў іх мінскім двары за кінатэатрам «Цэнтральны», бывала, з'яўляўся і весяліў мелюзгу сваімі песнямі пад гітару. Пазней яна пазнала ў гэтым вясёлым вусатым дзядзьку Уладзіміра Мулявіна…

Некалі мастацтвазнаўцы і літаратурныя крытыкі шмат пісалі пра народнасць у літаратуры і мастацтве. Як для мяне, жыццё і творчасць Уладзіміра Мулявіна проста ўзорны прыклад гэтай самай народнасці.

### «Ручнікі»

Ёсць яшчэ адна дэталь, якая ярка падкрэсліць народнасць Уладзіміра Мулявіна… На першым вялікім дыску «Песняроў», на другім баку, які пачынаецца кампазіцыяй «Ручнікі», было пазначана, што гэта песня народная. Насамрэч словы песні напісала выбітная мінская паэтка — Вера Вярба, а музыку да іх прыдумаў вядомы настаўнік з Полацка — Мікалай Пятрэнка. Амаль дзесяць гадоў дыск перавыдаваўся з памылкаю, і толькі ў 80-х, калі перавыданне рабілі на рыжскім заводзе грамплатсінак, памылку выправілі. Зрэшты, я лічу, што песня «Ручнікі» бясспрэчна народная, бо любімая, бо выкананая сапраўдным народным артыстам Уладзімірам Мулявіным… Сама Вера Вярба — Гертруда Пятроўна Сакалова — да ўласнай народнасці ставілася іранічна. Яна да ўсяго на свеце ставілася з гумарам і любіла гучна пасмяяцца. Таму паэт Максім Танк трапна апісаў Гертруду Пятроўну адным сказам: «Яе ручнікі даўно паплылі, а яна ўсё стаіць на беразе і рагоча…»

### Блакітная крамка

Для маіх раўналеткаў нават выпадковая сустрэча з Уладзімірам Мулявінам рабілася падзеяй. Ён быў для нас знакавай постаццю, славутасцю, прыкметай, адметнай часткай нашай сталіцы, свайго раёна, сваёй вуліцы і нават сваёй крамы. Пра Уладзіміра Мулявіна можна было пачуць нешта новае і зусім нечакана… «Пытаешся, дзе я жыву? Там, дзе заўсёды жыў — раён вуліцы Някрасава. Некалі ў нашым раёне стаяў кінатэатр «Вымпел». Памятаеш такі? Побач з ім стаяла крамка, пафарбаваная ў густа-блакітны колер. Я ў тую крамку і хадзіў па віно, па цыгарэты, па хлеб. Уладзімір Мулявін у тую крамку заходзіў. Стаяў у чарзе, як і ўсе мы. Жонка Мулявіна таксама ў нашу блакітную крамку прыходзіла. Мулявіных усе ведалі. Паважалі. Жонка ў Мулявіна заўважна кульгала, гэта нас моцна здзіўляла. Кінатэатра «Вымпел» і блакітнай крамы даўно няма. Даўно… Цяпер там стаіць універсам «Рыга». Па хлеб я хаджу ў «Рыгу»…»

### Лондан

У партрэтнай галерэі «Ты нарадзіўся не тут» змясціў я занатоўку пра вялікага песняра Уладзіміра Мулявіна…

Каб лёс дазволіў песняру Мулявіну нарадзіцца ў Лондане, ён стаў бы швейцарам у піцізоркавым гатэлі, прагульваўся б па ганку ў малінавым камзоле і ціха насвістваў у бухматыя вусы песенькі бітлоў…

*Касіў Джон канюшыну, (3 разы)*
*Пагляндаў на дзяўчыну.*
*Ёка Она жыта жала (3 разы)*
*Ды на Джона пагдядала.*
*Ці ты Джон? Ці ты не? (3 разы)*
*Спадабаўся ты мне…*

Занатоўка друкавалася ў «Нашай Ніве». Ці спадабалася яна Уладзіміру Мулявіну? Не ведаю, але ў суд на мяне за тую публікацыю не падавалі. Збіраліся… Не Уладзімір Мулявін, а Элеанора Язерская збіралася, але разумныя сяброўкі не далі ёй зрабіць гэткі памылковы крок.

### Мянушка

Муля — такую мянушку меў Уладзімір Мулявін. Так яго называлі ў музычнай тусоўцы, так яго і ў народзе называлі. Вымаўлялася мянушка мякка, нават нeяк салодка прамаўлялася, бо з любоўю, з вялікай любоўю. Барткевіч і Кашапараў, безумоўна, атрымлівалі больш любоўных паштовак і лістоў, чым Уладзімір Мулявін. Яны ў «Песнярах» неслі цяжкар відных жаніхоў, але любоў да Мулі была большай за эратычную, яна была шырэйшай, бо Мулю ўвесь народ любіў, за ягоныя песні.

### Страчаная магчымасць

Жэня Эльпер прапанаваў мне напісаць тэкст для песні. Раней я пісаў самыя розныя вершы, але першы песенны тэкст напісаў на замову. Эльпер паклаў верш на музыку, атрымалася песня пра горкае каханне. Пра такое цяжкае каханне, калі можна казаць: «Гары яно гарам такое каханне!» Жэня ніколі не сумняваўся ва ўласных кампазітарскіх здольнасцях, таму панёс свой вальс Уладзіміру Мулявіну. Здарыўся цуд: наша першая песня спадабалася мэтру; і ён паабяцаў яе выканаць.

Такое абяцанне натхніла на працу. Мы хутка напісалі яшчэ некалькі песень. Жэня Эльпер пазнаёміў мяне з кампазітарам Яўгенам Магаліфам. Для Магаліфа я таксама хутка зрабіў некалькі тэкстаў… Мінуў год. У маладосці адзін год — гэта як пяць гадоў у сталасці, а можа і ўсе сем. Жэня Эльпер стаміўся чакаць. Ён пайшоў да Уладзіміра Мулявіна і забраў у «Песняроў» нашу песню. Праз пару тыдняў яе запісалі «Сябры». На тэлевізіі знялі нават кліп з той кампазіцыяй. Выкананне атрымалася выдатным, але ж не песняроўскае і не Мулявінскае. Каб можна было вярнуцца ў мінулае і нешта там змяніць, я вярнуўся б і ўгаварыў Жэню Эльпера пачакаць і дачакацца таго дня, калі Уладзімір Мулявін заспявае:

*У садзе стаяла зялёная вішня.*
*Дзяўчына кахала,*
*а замуж не выйшла…*

### Зорнасць

Зоркі вабяць сваёй геніяльнасцю. Узнікае жаданне наблізіцца да зоркі, падысці як мага бліжэй, загаварыць, пасябраваць. Таму вакол знакамітых музыкаў віруе зграя фанатаў. Прабіцца праз такіх фанатаў цяжка. Зорку ахоўваюць. Мае стасункі з рознымі зоркамі сцэны, мастацтва і літаратуры, прывялі да сумнаватай высновы. Трэба ахоўваць не толькі зорку, а і сябе трэба стрымліваць ад набліжэння да генія. Можаш пабачыць побыт таленавітага чалавека і назаўжды расчаравацца.

Шмат хто пасля блізкага знаёмства з Уладзімірам Мулявіным расчароўваўся ў ім. Так было з Пітам. Ён усё жыццё марыў пасядзець за адным сталом з кумірам. Разам выпіць, разам пайграць на гітарах. Піт дамогся свайго, яго запрасілі да генія сцэны. Пасядзелі, выпілі… «Адам, я скажу табе шчыра. Скажу, як думаю. Дам параду… Не выпівай з Мулявіным. Запросяць — адмоўся. Хай ён для цябе застанецца выдатным артыстам…» Тое шчырае і трагічнае апавяданне Піта спыніла мяне не толькі ад збліжэння з Уладзімірам Мулявіным, яно дапамагло мне сфармуляваць парадокс, які варта паўтарыць… Трэба ахоўваць не толькі зорку ад нахабных фанатаў, а і сябе трэба стрымліваць ад набліжэння да генія.

### Карона

Уладзімір Мулявін з тых адораных вялікім талентам творцаў, побач з якім пастаяць на сцэне — вялікі гонар. У юнацтве я нават марыў пра тое, што некалі буду сядзець перад выступам у адной грымёрцы з самім Уладзімірам Мулявіным. На «Рок-каранацыі» я пабыў на сцэне з Уладзімірам Мулявіным. На той сцэне ў той вечар уся беларуская рок-тусоўка грала, танчыла і спявала, але Уладзімір Мулявін запомніўся мне каралём нашай рок-сцэны.

Думаю што залатая рок-карона нумар адзін дагэтуль застаецца на галаве Уладзіміра Мулявіна. У кожнага народа ёсць свой вялікі рок-кароль. У амерыканцаў гэта Элвіс, у ангельцаў — Джон Ленан, у рускіх — Віктар Цой, а ў нас — Муля, Мулявін, Уладзімір Мулявін.

# Хвіліны шчаснасці



Ірына ЛЯШКЕВІЧ

***

*Вас я чакала, пэўна, Вас...*
*Калі апошні промень згас*
*Малінавага дня.*
*А шаты неба нада мной*
*І вечар сіняю сцяной —*
*Найблізкая радня.*
*Вам я шаптала, пэўна, Вам*
*Кахання словы, а багам*
*Малітвы ўдзячнасці.*
*Там сцежка вузкая ў траве, —*
*І вэлюмам туман плыве,*
*Хвіліны шчаснасці.*
*Вы ўсё ж былі, напэўна, Вы...*
*Зляцелі гусі на ставы*
*З нябёс анёламі.*
*Пяшчотнасць Вашых вуснаў, рук...*
*А сведкі — той магутны дуб,*
*Жаўрук над сёламі.*

***

*Мне важна ведаць, што Вы ёсць*
*У гэтым тлумным, шэрым свеце,*
*Што ў Вашым сэрцы я не госць,*
*Як нечаканы снег на квецень.*
*Што ў вашым сэрцы я — вясна...*
*З вясной пяшчота і надзея.*
*Я — ноч жаданняў давідна.*
*Я — цёплы промень, што сагрэе.*
*Мне трэба ведаць, што Вы ёсць,*
*Такі сапраўдны ў маёй мары.*
*Ваш светлы позірк, маладосць*
*Ці адшукаю ў нечым твары?*

***

*не дакранайцеся ні позіркам, ні словам.*
*мы ведаем дарэмнасць спадзяванняў.*
*каханне наша птушкай папяровай*
*растала ў тым дажджлівым шэрым ранні.*
*і не было ні жалю, ні самоты,*
*і згас на вуснах спешны пацалунак,*
*аледзянелася, холад адзіноты*
*і пустата асірацелых мараў, думак.*

***

*Не для нас гэты вечар сіні...*
*для мяне...*
*будзе соладка ад «марціні»,*
*жаль міне.*
*дзень шалёны нарэшце змогся,*
*недзе знік.*
*над налітым жыццём калоссем*
*птушкі крык.*
*між зямлёю і небам пастка*
*для душы.*
*маё цела даўно па частках...*
*на крыжы.*

***

*Каханне трэба заслужыць*
*ці нават вымаліць у Бога,*
*каб на апошняй той мяжы*
*не вінаваціць анікога.*
*Лепш адзінота без маны,*
*паклон адбіць свайму парогу,*
*лепш прыхінуцца да сцяны,*
*чым да пляча табе чужога.*
*Лепш побач крочыць, нібы цень,*
*і не парушыць лёсу нітку.*
*Уранку сонечны прамень*
*вянчальнай абаўе наміткай.*
*І за анёлам прашапчу*
*малітву ціха, слова ў слова:*
*— Я быць каханаю хачу*
*і шчасце перажыць нанова...*

***

*і гэты сум, дзе ты далёка...*
*і гэты сон, дзе побач ты...*
*і сэрцаў рытм...і часу крокі...*
*мой любы, грэшны і святы,*
*мой неспакой і душ суладдзе,*
*мой родны і навек чужы...*
*для іншых у эдэмскім садзе*
*даспее яблык...*
*На мяжы,*
*на вастры «хачу і нельга»*
*спрадвечна — альфа і амега...*

***

*Дарогі клін губляецца ў завеі.*
*І клінам свет сышоўся на табе.*
*Што мары?! Калі марныя надзеі.*
*Што ночы?! Калі сны мае ў журбе.*
*А лес стары, працяты нематою,*
*Трымае неба голлем верхаўя,*
*Нібыта зберагчы імкнецца тое,*
*Святое, што даўно згубіла я...*

***

*вераснёвая, верасовая,*
*жураўінная, жураўлiная*
*мая восень... і ты часовая...*
*у самоце сваёй бязвінная.*
*адшаптала дажджамі нуднымі*
*мае ночы, бяссонніц поўныя.*
*я прад Богам адным падсудная,*
*і з людзьмі перад Богам роўная...*

***

*у восеньскай імжы*
*не выплакаць самоты.*
*мы разам на імшы.*
*мы дзве з табою ноты.*
*расквечу твае сны.*
*сагрэю тваё ранне.*
*так доўга да вясны!*
*так блізка да кахання!*
*імгненні цішыні,*
*там унісонам сэрцы.*
*і светла з вышыні*
*нам ранак усміхнецца.*

# У рытме сэрца



Марыя БАРАВІК

***

*Я дакранулася галінкай успамінаў*
*Да цішыні празрыста-салаўінай:*
*Зайшліся ногі холадам расы,*
*Зайшлося сэрца ад прастор-красы;*
*І раніца раскрылася з нябёсаў,*
*Туманныя парасплятала косы,*
*З лясной кішэні сонейка вымае...*
*І падрастаю я ў абдымках мая,*
*Гатовая шырока распушыць*
*На жаўтаквецці пачуццё душы...*
*Душа й цяпер ляціць на жаўтаквець*
*У захапленні — цуда зразумець.*

## Ідзе адухаўленне

*Прыціхлі дрэўцы ў перамоўі,*
*І схопленыя ў плынь ракой.*
*Прыйшло здзіўленне — у бясслоўе:*
*Абняў душу Анёл-спакой.*
*Яна ж у квецені бязмоўнай*
*П'е боска-думкавы настой.*
*І ў час перамянення ў слова*
*На міг зрабілася святой.*
*У ёй ідзе адухаўленне:*
*Іскрыцца ўдзячнасцю за цуд*
*Маіх прасветленых імгненняў*
*І лёсавай сцяжынкі тут...*
*Без крокаў розных у заблуд.*

## Васілёва хатка, як мая

***Упершыню ля хаткі-музея Васіля Быкава, жнівень 2004 г.***

*Узыходзіць згадка: ля ваконца,*
*Дзе над хаткай валадарыць сонца,*
*Мой сланечнік ціха выгнуў шыю —*
*Зазірнуць, як мама нешта шые*
*(Вокам блізка мацае радочак).*
*Там пяе і татаў малаточак...*
*...Во ў грудзях застукаў малаточак.*
*У хацінцы згадка плакаць хоча —*
*Так падобна Васілёва «зала»*
*На маю, якая сны люляла.*
*І святло падобнае пад сонцам.*
*Верабей чырыкнуў над ваконцам.*
*Успамінам апаліла як!*
*Васілёва хатка, як мая.*

## Імгненне адзінай сустрэчы

*На сцежцы, дзе вечная спешка*
*І думкі лятуць у бяздонне,*
*Аднойчы сустрэліся ўсмешкі,*
*Сышліся ў знаёмстве далоні.*
*Мільгнуў ён зусім несуровы:*
*Прыселі над позіркам бровы*
*Насупраць маіх летуценняў —*
*Такое сустрэчы адценне.*
*Адзінай далёкай сустрэчы...*
*Успырхнулі косы на плечы —*
*Мая разганалася сцежка —*
*Заззяла на Быкава ўсмешка.*

## Твой сэрца боль правераны любоўю

*Ачмут вушам і стомленым вачам*
*Падносіцца, часцей, на чужаслове...*
*Дык франтавую праўду вывучаць*
*І выкладаць даў Бог на роднай мове.*

*Ты, беларус, піў з келіха вайны,*
*Дзе напіваўся дол чырвоным сокам.*
*І памяць не цэнзуравала сны,*
*І ўсё, што сэрца выхапіла вокам.*

*Табе радкі прадыктаваў сам боль.*
*Адкрыў: вайна не лічыць пагалоўя;*
*Дык памяць... ад яе і жар, і золь,*
*І па жыцці — з сумленнем суразмоўе.*

*Як гэткі раднаслоў не зберагчы*
*У Беларусі для яе здароўя?*
*Ды будзе нам абараніцца чым*
*І на гады жыцця, і на вякоўе.*

*Ты, Васілёк, на Небе не тужы!*
*Твой сэрца боль правераны любоўю:*
*Прызваны кнігі Быкава служыць*
*Паўсюль!*
*І, нават, на франтах двухмоўя.*

**23 чэрвеня 2018 г.**

## Баравічок ад сон-травы

*Прыціхлы жаль зірнуў з душы:*
*Я спатыкнулася на даце*
*(Без памінальнае імшы)*
*Па незабыўным, любым браце.*

*Парою лісця і травы,*
*Што пахаваны, забываю.*
*Ён на ўсю поўню быў жывым,*
*І поўня помнасці жывая.*

*Баравічок ад Шош-ракі*
*(Маладзічок калісьці мамін).*
*Яна мне словы-светлячкі*
*Ушыла пра яго — у памяць.*

*Слязой празрыстай — не рукой*
*Яна мне іх «ушэбнавала».*
*Пёк яе сэрца неспакой,*
*І добрая душа трывала.*
*Я каля мамы той парой*
*У свет свой клікала надзею,*
*Падфарбаваную зарой —*
*Усходнім сонцам ад Мацвея...*

*Дык абвастрыўся слых душы*
*Да памяці, якая — слова.*
*Снягамі не зацерушыць.*
*Вясна расплакацца гатова.*

*Баравічок ад сон-травы*
*З усмешкай на арбіце сонца,*
*Ужо маўчаннем ззяць прывык*
*Мне ў сум з партрэтнага ваконца.*

*Браток ад сцежак баравых,*
*Ад піцерскіх мурою бетонных,*
*Сасніся мне, прыйдзі жывы*
*У гэты верш безабаронны!*

*Пішы, пяро маё, пішы*
*Пра сон жывы, пра сон працяглы!*
*Як ціснецца сляза з душы —*
*Зіхцець на радасці засмяглай!*

***

*Гляджу, як хмара цёмнасцю расце.*
*Увесь настрой мой у яе хвасце:*
*Трывогаю схапіўся, загусцеў*
*І перабег на птушак у гняздзе.*
*Гняздо ж трымае не асілак-дуб —*
*Стаіць у кепцы электрычны слуп.*

***

*Карніз ваконны густа слёзы лье.*
*Во так мне нешта кажуць дні мае.*
*Во тут душа была ў бядзе штодзень,*
*У сне яна з'яўляецца, як цень.*
*І толькі ўздых на выхадзе з начы:*
*Не ведала, як ёй дапамагчы.*

***

*Бывае сон, які святлом уразіць.*
*Тады заружавее дух фантазій.*
*Мой белы свет праходзіць праз мяне.*
*І гэткім шляхам сэрца не міне.*
*Найсамым цэнтрам, хоць і звонку гне,*
*Бог — яўна адчуваю — ува мне.*

***

*Пейзаж любімы радасці вясновай*
*Прывязаны да памяці душы.*
*Ён прылягае да святой высновы:*
*Што бліжняе — дык тым і даражы.*
*Куточкам помным, словам з наваколля,*
*Што ў слых кідаецца абдымкамі з душы.*
*Яго ты з вуснаў не зганяй ніколі,*
*Па-роднаму любі! І будзеш жыць.*

## Твой ззяе німб

*Прыснілася мне цёмная аблога*
*І ўзрытая наперадзе дарога...*
*Дык кола навакола галавы —*
*Твой ззяе німб у холадзе і змроку —*
*Ратуе нас у хвалях ветравых*
*І не дае нам запаволіць кроку...*
*Дык пра цябе радок — узнёслы гук,*
*Сардэчны стук ад радасці і мук.*

***

*Усё, што робіш ты, па-боску годнае,*
*І навакол цябе ўсім неабходнае —*
*Ахвяравальная самааддача,*
*У рытме сэрца твайго гарачага.*
*Яна — жыццё тваё, адно, адзінае,*
*Мая раднюткая, мая любімая.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (146) | 26 кастрычніка 2018 | № 39 (602) Новы час

# Выправа



Франц СІЎКО

**Ужо колькі хвілін мінула, як тралейбус знік за паваротам, а Ходзюшы ўсё ніяк не наважацца пайсці з прыпынку. Стаяць на краі ходніка ды раз-пораз пазіраюць адзін на аднаго ў чаканні, хто ж першы зробіць, нарэшце, крок насустрач невядомасці.**

Што гэты аддалены ад цэнтра горада раён зусім не шыкоўны, яны зразумелі адразу, як толькі выйшлі з тралейбуса. Абсаджаная кволымі дубчыкамі клёнаў вулка, дарма што назву мае даволі гучную — Юбілейная, — нагадвае беднаватыя на цікавосці закуткі на ўскраіне іх роднага гарпасёлка. І калі б не некалькі адносна новых дзевяціпавярховікаў наўзбоч купкі нехлямяжых хрушчовак уздоўж яе, дык, мабыць, і воку тут, на гэтым чатырнаццатым прыпынку ад чыгуначнай станцыі, запыніцца не было б на чым.

Асабліва псуе ўражанне ад мясціны густы шараваты налёт на ўсім. І не дзіва: крокаў за сто ад прыпынку вольна, бы прытомлены касец рукамі-нагамі на пожні падчас адпачынку паміж пракосамі, раскінуўся карпусамі гаспадарчых ды розных іншых пабудоваў хлебазавод. І хоць ужо даволі позна і працоўны дзень на іншых прадпрыемствах даўно скончыўся, ён усё шуміць, шуміць ды поўніць паветра пахам ці то гарэлае рошчыны, ці то скарынкі, ды нястомна церусіць на прылеглыя дрэвы крупкамі драбнюткага, амаль нябачнага мучнога пылу. Пыл гэты так чэпка ўеўся ва ўсё навокал, што без яго ўжо тутэйшы краявід і ўявіць немагчыма.

Васіль Зыгмунтавіч, які ад гадоў студэнцтва памятае закуткі абласнога цэнтра куды весялейшымі, чым яны вымкнуліся насустрач яму і ягонай жонцы Алене Сяргееўне цяпер, у гэты цьмяны трывожны надвячорак, похапліва кідаецца да акенца ведамаснай крамкі з надпісам «Гарачы хлеб» акурат у сцяне вытворчага корпуса.

— Два боханы! — гукае энергічна, быццам жадае гэткім чынам хаця б збольшага падсаладзіць уражанне ад убогасці мясціны ды разам суняць неспакой, што ўсё больш з кожнаю хвілінай ім авалодвае.

— Ажно два! — ахае Алена Сяргееўна. — Вася, навошта, ну навошта табе гэтулькі хлеба? Ці не запасы ты надумаўся рабіць з тутэйшай прадукцыі?

— А калі і запасы? — адказвае ён хуткагаворкаю і піхае яшчэ цёплыя боханы ў сумку. — Ты ўпэўненая, што там… што… што яны нас пакормяць?

— Не пакормяць — сваім абыдземся. Вунь колькі чаго яшчэ ў валізе засталося, што ў цягніку не даелі. Як-небудзь будзе, з голаду не памрэм. А табе нервы, Вася, няйначай, трэба лячыць. Вазьмі сябе, нарэшце, у рукі, будзь жа мужчынам.

— Во-во, як-небудзь, — не зважаючы на жончыну параду наконт лячэння нерваў ды брання сябе ў рукі, працягвае Васіль Зыгмунтавіч. — Святыя словы. А во і ці не іхні дом… Ага, ён, здаецца: Юбілейная, 26…

— Бач, і нумар дома памятаеш… — дзівіцца Алена Сяргееўна. — Звычайна і ўвагі на такія дробязі не звяртаеш, а тут… Як адмыслова загадзя запамінаў. А хваліўся надоечы, што ўсё абыякава, што і валасіна з галавы, маўляў, з-за гэткае драбязы не ўпадзе…

Васіль Зыгмунтавіч моўчкі, з выразам няёмкасці на твары, быццам заспеты за чымсьці саромным школьнік, пасоўваецца ўбок, падаючы тым самым жонцы знак, каб ішла наперад. Ён заўсёды так робіць у хвіліны разгубленасці, а якраз у гэты не па-летняму прахалодны апошні дзень чэрвеня разгубленасці, што яму самому, што Алене Сяргееўне, хоць яна выгляду пра тое і не падае, хапае з каптуром.

У абласны цэнтр Ходзюшаў, дыспетчарку і начальніка аўтабазы раённага гарадка Н., людзей зусім не авантурных і да вандровак не надта ахвотных, паклікала справа неадкладная і сур'ёзная. Такая тэрміновая, такая неспадзеўная завіхурыла гэтых прыстойных, звыклых да размеранага ладу жыцця людзей справа, што тэрміновей ды неспадзеўней наўрад ужо і бывае.

Тры дні таму іх адзіная дачка Света, студэнтка-чацверакурсніца, аб'явіла бацькам, што цяжарная. Прыехаўшы пасля летняй экзаменацыйнай сесіі дадому, з тыдзень употай па кутках катэджа штосьці румзала, пакуль не набралася смеласці ва ўсім прызнацца. Прызналася, вядома, толькі маці, а тая ўжо выбрала зручны момант, асцярожна, як толькі магла і ўмела, падзялілася навіною з мужам.

Першым памкненнем Васіля Зыгмунтавіча, чалавека эмацыйнага і, у адрозненне ад жонкі, даволі ўспыхлівага, было адразу ж сарвацца з месца ды ляцець у горад, каб збіць крыўдзіцеля дачкі на горкі яблык. Збіць, стаптаць нягодніка нагамі, скрывавіць, змянташыць таго незнаёмага Каханчыка (і прозвішча ж якое, бы знарок, Бог даў вылюдку!) так, каб да скону зарокся крыўдзіць безабаронных дзяўчат.

Што іхняя з Аленай Сяргееўнай дачка Света, колішняя школьная выдатніца ды і ва ўніверсітэце студэнтка не апошняя, з катэгорыі дзяўчат менавіта такіх, безабаронных, Васіль Зыгмунтавіч не сумняваўся ніколі. Таму так і пераняўся прыкраю гісторыяй ды расквяліў сябе злосцю і прагаю справядлівае помсты мярзотніку Каханчыку, што Алене Сяргееўне давялося нямала прыкласці намаганняў, каб давесці мужу, што дурнымі эмоцыямі сітуацыі не выправіш, а наадварот, толькі яшчэ больш сапсуеш. І што калі нешта ўжо рабіць — дык рабіць грунтоўна, як след праліčыўшы ўсе хады ды абдумаўшы магчымыя наступствы.



Фота www.forum.awd.ru

**Асабліва псуе ўражанне ад мясціны густы шараваты налёт на ўсім. І не дзіва: крокаў за сто ад прыпынку вольна, бы прытомлены касец рукамі-нагамі на пожні падчас адпачынку паміж пракосамі, раскінуўся карпусамі гаспадарчых ды розных іншых пабудоваў хлебазавод**

Злосць галавы сям'і пратрывала паўсутак і затым пачала неяк вачавідзь мізарнець. Бо справа са Свецінай цяжарнасцю аказалася не такой простай, як здалося бацькам напачатку. Дзяўчына, як высветлілася падчас далейшых роспытаў, сама выявілася яшчэ тою цацай: так заблыталася, дурніца, у адначасовых стасунках з двума сваімі каханкамі, што нават не магла цяпер дакладна сказаць, ад каторага носіць у чэраве дзіця…

Збіты з панталыку гэткім нечаканым паваротам справы Васіль Зыгмунтавіч увобміг палагаднеў ды і, як гэта заўсёды рабіў у слізкіх сямейных сітуацыях, аддаў ініцыятыву яе ўладкавання ў жончыны рукі. Калі так, то хай, маўляў, самі кабеткі, сталая і маладая, цяпер разбіраюцца, хай даюць неяк усёй гэтай дурноце рады.

Алена Сяргееўна ўзялася за справу энергічна, па-дзелавому. Распытала дачку падрабязней, што ды як, намацала ў ланцугу падзей найбольш слабое звяно, зняла з рахунка ў банку пэўную суму грошай для ваяжу ў горад ды і выправіла Васіля Зыгмунтавіча ў той жа вечар на станцыю па квіткі.

«Паедзем да гэных Каханчыкаў», — сказала коратка, але цвёрда. Васіль Зыгмунтавіч прапанаваў ехаць на службовым аўто, але яна не згадзілася. «Вазьмі вадзіцеля, дык толькі потым лішні сведка будзе. А дзе сведка, там, вядома, і плёткі. А нам гэта трэба?», — сказала як адрэзала, і на тым справа і вырашылася.

***

У пад'ездзе дома Каханчыкаў пануе ўласцівая гэткай пары сутак ціша. Людзі, відаць, толькі што павярталіся з працы і цяпер, перш чым разбрыдацца па кутках, займаюцца на кухнях прыгатаваннем перакусу або проста адпачываюць пры тэлевізарах ды кампутарах, скідваюць з плячэй цяжар абрыдлых працоўных абавязкаў. Выключэнне складаюць двое выпівох, што шубуршацца ў куце пры сходах, не маючы сіл зрабіць апошняе намаганне на шляху да парога ўласнае кватэры, то хістаюцца бязладнымі куля́мі ад сцяны да сцяны, то ў марным памкненні не ўпасці чапляюцца рукамі за сты́каны недакуркамі драўляны вазон з чэзлай кітайскай ружаю наўзбоч смеццеправода.



Фота www.sfer.com

Дзверы адчыняе Алене Сяргееўне і Васілю Зыгмунтавічу даўгалыгі хлопец гадоў дваццаці пяці. Ледзь паспяваюць госці сказаць, хто яны, ды стаць сведкамі зніякавеласці маладзёна, як з другога пакоя выходзіць у калідор жанчына з дзіцем на руках.

— Лёша, хто тут? — пытаецца і перадае дзіця хлопцу. Той пераймае немаўля з рук жанчыны, моўчкі нясе зноў у пакой, з якога яна толькі што выйшла. Дзіця керхае, мэкае, і голас яго, крыху сіпаты, быццам прастуджаны, падаецца Ходзюшам нейкім занадта, як для такога малога чалавечка, дарослым.

— Мы Ходзюшы… — як мага больш гучна, быццам імкнучыся збіць тым самым градус собскае няўпэўненасці, пачынае Алена Сяргееўна. — А вы…

— А, Ходзюшы, вось што! Вельмі, вельмі прыемна, — імгненна, нават неяк занадта ўжо паспешліва, як для такой двухсэнсоўнай сітуацыі, рэагуе на словы госці жанчына. — Я Марыя… Марыя Ігараўна, гаспадыня… Лёшава маці.

Алена Сяргееўна і Васіль Зыгмунтавіч уздыхаюць з палёгкаю: па-першае, іх Свету тут, у гэтым доме, безумоўна, ведаюць, па-другое, ставяцца да дзяўчыны, як вынікае з рэакцыі жанчыны на іхняе прозвішча, усё-такі даволі прыязна. Ва ўсялякім разе, ніякае злосці ні аднаму, ні другому, што ў голасе Марыі Ігараўны, што перад гэтым у голасе хлопца, не чуецца.

Жанчына аказваецца маткаю і дзіцяці. Цяпер, калі яна сядзіць на канапе тварам да акна насупраць Ходзюшаў, выглядае далёка не так молада, як толькі што падалося ім у прыцемку калідора. Прытомлены, без каліва макіяжу, твар, звычайная прычоска з рэдкімі паскамі сівізны дзе-нідзе на скронях, крыху панылыя, але разам з тым не сказаць каб дарэшты маркотныя вочы. Апранутая Марыя Ігараўна проста, без прэтэнзіі на элеганцкасць, але ахайна.

— Такая вялікая розніца ва ўзросце ў вашых дзяцей, — перш чым перайсці да галоўнай тэмы, дыпламатычна зазначае Алена Сяргееўна. — Бач, як бывае…

— А гэта вам так здалося, што вялікая, — не пагаджаецца гаспадыня. — Гэта з-за Лілеччынай хваробы вам здалося. Ёй ужо пятнаццаць, а выглядае, як бачыце, на двухгадовую… Зусім, зусім дзеўка не расце. Паляруш, ведаеце…

— А, паляруш, тады канечне, зразумела… А хадзіць яна хоць умее вашае дзяўчо? — надаючы твару як мага больш выразу зацікаўленасці, пытаецца па невялікім перапынку Алена Сяргееўна.

— Ні хадзіць, ні гаварыць не ўмее… Можа толькі поўзаць. І

мыкаць. Кормім з лыжкі. Ну, і ўсё пад сябе, вядома, робіць... Таму і пах такі ў кватэры невыводна... Мы самі, канечне, прывыклі, а староннему чалавеку, відаць, не вельмі прыемна. Ужо прабачце, нікуды ад гэтага не дзецца. Малая была — спрабавалі лячыць, але потым пераcталі... Двойчы памірала ўжо, выратавалі дактары, ачуняла... Думалі, падрасце — стане на ногі, аж не...

— Цяжка вам, — уздыхае Алена Сяргееўна і шморгае далонню па мужавым плячы, каб урэшце раскатурхаць яго ды прымусіць узяць удзел у размове. Звычайна марудлівы, не хуткі ў такіх сітуацыях на пад'ём Васіль Зыгмунтавіч, надзіва, гэтым разам намёк адразу ж разумее.

— Але ж кажуць, такія хворыя дзеці часам доўга жывуць, — кажа пад няўхвальны пагляд жонкі. — Вунь у суседзяў нашых, у Лясовічаў...

— Пры чым тут Лясовічы, Вася? — усё шкадуючы, што зачапіла яго ды справакавала тым самым відавочную нетактоўнасць, умешваецца Алена Сяргееўна. — Быццам гэта так ужо некаму цікава. Чым пра тых Лясовічаў узгадваць, лепш пра сваё, пра надзённае пагаварыць. І што за гаману ты заводзіш: доўга жывуць... Колькі Бог дае, гэтулькі і жывуць.

— Гэта праўда: колькі Бог дае, — падтрымлівае госцю гаспадыня. — Але што мы ўсё пра хваробы ды пра хваробы. Калі ласка, пойдземце ў кухню, там і працягнем размову.

Размова ў кухні праходзіць гладка, без ускладненняў. Даведаўшыся пра мэту прыезду Ходзюшаў, гаспадыня клікае ў кампанію і сына.

Нягледзячы на высачэзны свой рост і занадта суворы, як для такога маладога чалавека, выраз твару, Аляксей аказваецца хлопцам даволі згаворлівым, калі не сказаць — мяккім. Яго рэакцыя на паведамленне пра Свеціну цяжарнасць хоць і стрыманая, але ж зусім, насуперак перасцярозе Ходзюшаў, не адмоўная. Алене Сяргееўне нават падаецца, што ён ужо і дагэтуль пра яе ведаў і адно толькі і чакаў пацвярджэння факта. Хаця Света ні словам пра тое, што ён можа ўсё ведаць, ні ёй, ні бацьку не абмовілася.

— Ну, дык і што будзем рабіць, сыне? — пытаецца напрыканцы гаспадыня.

— Што? Мабыць, жаніцца... — усміхнуўшыся, перасмыкае плячом Аляксей і ўстае, каб ісці ў пакой да дзіцяці, якое акурат у гэты момант падае голас — гучна мыкае.

— Вось толькі жыць павінны будуць маладыя тут, — як толькі зачыняюцца за Аляксеем дзверы, спяшаецца ўдакладніць Марыя Ігараўна. — Я, ведаеце, без Лёшкі — як без рук. На капейкі, што атрымліваем на ўтрыманне Лілечкі, не пражывеш. Трэба працаваць, а як? Праца блізка, на хлебазаводзе тэхнолагам раблю, а ўсё адно ж без догляду дзяўчыну не кінеш. Вось і памагае хлопец. Калі-нікалі і ў выходны ўначы на прахадной падзяжурыць, каб вольны дзень пасярод тыдня зарабіць, і памяняецца з кім. А ці згодзіцца на такое ваша дачка? Штодня быць побач з такім дзіцем, як Ліля, — мала хто такое вытрывае... Дык хай ужо сама глядзіць...


Фота www.wiktionary.org

**— Ну, ты, бацька, неяк зусім ужо расслабіўся, хоць да раны цябе прыкладай, — папікае шэптам. — Сур'ёзней, цвярдзей трэба быць. Знайшоў што сказаць: хай прывыкае да цяжкасцяў... Нельга так чужым паддавацца. Не будзем марку трымаць — увобміг на голаў уссядуць. І вокам не паспееш міргнуць, як забрытаюць...**

— Згодзіцца, нідзе не дзенецца, — рады, што так лёгка ўсё ды палюбоўна ўладзілася ды што надарылася, урэшце, магчымасць і яму зрабіць важкі ўнёсак у справу, спяшаецца ўставіць слова Васіль Зыгмунтавіч. — Хай прывыкае да цяжкасцяў.

Зноў, быццам жадаючы нагадаць пра сябе, енчыць у пакоі дзіця. Гаспадыня бяжыць да яго, і Ходзюшы застаюцца ў кухні адны.

Васіль Зыгмунтавіч прыкладае палец да вуснаў, дэманструючы задавальненне ходам перамоваў з новымі сваякамі, але Алена Сяргееўна тут жа яго асаджвае.

— Ну, ты, бацька, неяк зусім ужо расслабіўся, хоць да раны цябе прыкладай, — папікае шэптам. — Сур'ёзней, цвярдзей трэба быць. Знайшоў што сказаць: хай прывыкае да цяжкасцяў... Нельга так чужым паддавацца. Не будзем марку трымаць — увобміг на голаў уссядуць. І вокам не паспееш міргнуць, як забрытаюць...

Яшчэ праз гадзіну справа вырашана канчаткова. І Алена Сяргееўна, не выходзячы з кухні, пачынае тэлефанаваць з мабільніка дачцэ. Гаворыць са Светаю пару хвілін, затым паказвае на мігі Аляксею, дзеля якога гэтае тэлефанаванне, папраўдзе, і замыслілі, што можа перадаць тэлефон яму. Хлопец ад прапановы пагаварыць з дзяўчынаю не адмаўляецца, але кажа, што сам ёй патэлефануе са свайго і ідзе ў пакой, дзе знаходзіцца Лілечка. «Далікатны, бач», — адзначае пра сябе Алена Сяргееўна і падміргвае мужу.

Як адбываецца размова паміж маладымі, Ходзюшы не чуюць. Алена Сяргееўна пабойваецца, што Света знячэўку скажа што-небудзь Аляксею рэзкае або нават злое, але дарэмна. Калі маладзён вяртаецца ў кухню, па выразе ягонага твара можна зразумець, што ўсё абышлося добра.

Яшчэ праз паўгадзіны госці пачынаюць збірацца на апошні цягнік. Але тут гаспадыня рашуча пратэстуе.

— Заставайцеся ўнаначкі, — кажа і падлівае Васілю Зыгмунтавічу ў чарку піва. — Мы ўтраіх з Лёшкам і Ліляй у маім пакоі ляжам, вы ў Лёшкавым размесціцеся. Здарожыліся ж, напэўна, дык што так спяшацца.

І дадае, прыслухоўваючыся да дзіцяці:

— Як-ніяк ужо мы з вамі свае. Пераначуеце, а ўранні паедзеце сабе. Паснедаеце і паедзеце. А захочаце — і надаўжэй у нас застанецеся, пагасцюеце. А там, можа, Лёшку ўдасца як-небудзь адпрасіцца з працы — дык і разам потым паедзеце ў свой Н.

— Разам — гэта было б добра, — вымыкаецца наперад Васіль Зыгмунтавіч, але тут жа і змаўкае, адчуўшы жончын шчыпок у рабрыну.

Ноч выдаецца неспакойная, асабліва для Алены Сяргееўны. Лежачы побач з мужам на нязвыкла вузкай, як для дваіх, да таго ж і даволі мулкай канапе, яна спачатку доўга не можа заснуць з-за нейкай валтузні за сцяною, на лесвічнай пляцоўцы. Затым, ледзь паспявае тая дурная валтузня скончыцца, раптам штосьці ўсходжваецца, пачынае тузацца ў суседнім пакоі Лілечка. Потым, чуваць, гаспадыня ідзе ў кухню па пітво для калекі, а вяртаючыся, не зачыняе як след за сабою дзвярэй пакоя, і рэзкі пах мачы імгненна расплываецца ў паветры, лезе ў нос, у горла...

Так, не зможыўшы ні на хвіліну павек ды давячыся млосцю, і качаецца Алена Сяргееўна да дасвецця на ложку. А раніцой, ледзь паспявае Васіль Зыгмунтавіч прадзерці вочы, пачынае збірацца дахаты. Ды так рашуча, энергічна гэта робіць, што гаспадыня і муж слова насуперак сказаць ёй не наважваюцца. Пра тое ж, каб дачакацца са змены Аляксея, і размовы быць не можа.

Марыя Ігараўна тэлефануе на станцыю, каб даведацца, у колькі будзе першы цягнік, але няўдала. Цягнікі па няцотных днях на Н. наогул не ходзяць, дык трэба ехаць аўтобусам ці маршруткаю. Гэта не надта зручна, бо аўтобус выпраўляецца толькі праз чатыры гадзіны. Ды Алену Сяргееўну, якая штохвіліны мяняць собскія планы не любіць, не спыніць...

Ужо адолелі Ходзюшы ледзь не палову шляху да Н., як раптам Васілю Зыгмунтавічу, які дагэтуль ціхамірна драмаў на сядзенні побач з жонкаю, закарцела пагаманіць. Ён бачыў перад адыходам з кватэры на прыпынак тралейбуса, як жанчыны, жонка і Марыя Ігараўна, штосьці сакрэтнічалі ў кухні, і цяпер вырашае абавязкова пра змест тых іхніх сакрэтаў даведацца.

Алена Сяргееўна, якая ведае асаблівасці мужавага характару не горш за яго самога, а значыць і ведае, што яму ў гэты момант найбольш абыходзіць, каб доўга не цягнуць ката за хвост, пачынае гаману першая.

— Ну, вось, пра грошы тыя... Не хацела браць іх Марыйка, аднеквалася. Але я настаяла: падарунак жа ад нас з нагоды знаёмства, маўляў, нельга адмаўляцца. Нічога, памулялася крыху ды і ўзяла.

— І шмат дала ты ёй? — навострвае вушы Васіль Зыгмунтавіч. — Ой, глядзі, гэтак як пачнеш раскідвацца, кожнаму як пачнеш даваць — самім на зуб ці застанецца што пакласці...

— А, бач, затурбаваўся. То конча давай, а то во — самім трэба. Учора зусім іншае казаў. Ці памятаеш хоць, што з дому выходзячы баіў?

— Не пра тое кажу, каб зусім нічога не даць, а толькі пра тое... каб гэта... не занадта ўжо было, — удакладняе Васіль Зыгмунтавіч. Ён усё жыццё зарабляе значна больш за жонку, але, што праўда, да таго, каб папікаць яе гэтым, ніколі не апускаецца. Лічыць, што і належнай інтанацыі, каб даць зразумець, хто ў доме гаспадар, дастаткова. Балазе і сама Алена Сяргееўна, жанчына разважлівая, такія правілы гульні ўспрымае ахвотна, як належнае, і ніколі ім не працівіцца. Гэтым разам усё, аднак, крыху іначай, як заўсёды.

— Ага, глядзі — занадта... Скажаш! Траціну ад таго, што з дому бралі, дала — і даволі. Шчодрасць шчодрасцю, рэпутацыя рэпутацыяй, а і разявакаю быць не выпадае. Тым больш, што вунь як сустрэлі яны нас. Я думала адбрыквацца будуць, аднеквацца... Аж не, наадварот, — быццам чакалі.

— Ну, то магла б і... — быццам наўмысна пярэчачы ўласнай папярэдняй рэпліцы, пачынае здалёку Васіль Зыгмунтавіч.

— Во, зноў... Гэта ты, напэўна мог бы, а я — не. З якой гэта такой радасці? Ды і невядома яшчэ, чым усё скончыцца. Ты бачыў калечку, Лілю гэтую іхнюю? Колькі Светка там, у той іхняй прапахлай гаршчком гамэрні, вытрымае? А потым... Паляруш — гэта ж спадчынная хваробіна, а не так сабе. Дык, можа, і лепш яно — асабліва не разлічваць. Менш рызыкі...

— Што значыць — менш, калі ўжо цяжарная Светка?

— А ад каго цяжарная — дакладна мы ведаем? — ідзе ў наступ Алена Сяргееўна. — Не? Дык уключы мазгі...

— Пры чым тут мае мазгі, не разумею? І пра якую рызыку ты кажаш?

— Пра тую, што паўстане, калі яшчэ потым, праз год там, ці праз два, ці праз дзесяць, раптам зноў раджаць Света надумаецца. Толькі ўжо не невядома ад каго, як цяпер, а канкрэтна — ад Лёшкі гэтага... Якое дзіця пры такіх ягоных генах народзіцца? Падумаў ты пра гэта?

— Не разумею... А экспертыза навошта? Тэст на ДНК, ці як там яго... Не каменны ж век, дзякуй Богу. Не якое-небудзь сярэднявечча...

— Ай, што з табой гаварыць! Яму пра адно, ён — пра іншае зусім, — пачынае злаваць Алена Сяргееўна і адварочваецца тварам да акна. Прыхінаецца шчакою да прахалоднае, спярэшчанае кроплямі дажджу шыбіны, смачна пазяхае. — Экспертыза, ДНК — пры чым тут гэта? Жывуць людзі з кулька ў рагожку, дзіця хворае — нам вельмі трэба гэткае сваяцтва? Не абыдземся мы без яго?

— Вось ты пра што, — датумквае, нарэшце, Васіль Зыгмунтавіч і глыбока задумваецца. Што жонка — кабеціна не промах, ён ведае даўно. Але што ажно гэтак умее яна ўсё прадугледзець ды раскласці па палічках, належным чынам ацэньвае толькі цяпер.

— Нарэшце, дайшло-такі, — выгуквае Алена Сяргееўна і адкідваецца плячыма на спінку сядзення.

Калі праз колькі хвілін Васіль Зыгмунтавіч спрабуе ўзнавіць размову, гэта яму не ўдаецца. Задаволеная, мабыць, што гэтак удала ўсё ўладзілася з дачкою, жанчына спіць і ахвяраваць хаця б хвілінаю сну дзеля нейкай там пустой балбатні, нават калі б і прачнулася, хутчэй за ўсё патрэбным не палічыць.

— Ну, спі, спі, — паблажліва, як малому дзіцяці, кажа Васіль Зыгмунтавіч і перасядае на вольнае сядзенне насупраць.

# Вераснёвы экспрэс



Віктар ЯРАЦ

***

*На пошум дрэў азваўся луг травою,*
*на рэха навальніцы — плёс рачны.*
*А нам ніяк не выпадзе з табою*
*падслухаць разам зорак пульс начны.*

*Рассее вецер дзьмухаўцоў насенне,*
*рассыпле гром асколкі на вадзе —*
*вясновы голас з далечы асенняй*
*да веснічак знаёмых прывядзе.*

***

*Маршчынаў сецЬ — то вязь начэй і дзён*
*з надзей і страт, і з радасці, і з гора,*
*з дарог, дзе плыў званочкаў пераздвон,*
*а сёння прывітаннем — дух матораў.*

*І ўсё глыбей, і ўсё шырэй абсяг*
*з гадамі на чале жыццёвых метак,*
*і ні адзін яшчэ на свеце маг*
*не змог спыніць адвечнай вязі гэтай.*

***

*Поезд вырваўся з горада ў поле*
*сыпаць гукі ў прамоклай цішы*
*пра чыю пералётную долю,*
*голас чый беспрытульнай душы?*

*Пра каго так спяшае напомніць,*
*падбадзёрыць спяшае каго*
*ў свеце ростаняў рэха бяссонніц,*
*дзе маўчанне жарчэй, чым агонь?*

***

*Хацелася снегу — як радасці, чыстага,*
*чыстага,*
*хацелася снегу, як смеху іскрыстага.*
*Навіслі ж хмурыны цяжкія, як з волава.*
*Дзе ж подых марозу — паўночнага волата?*
*Ці час заблудзіўся, разлікам заблытаны,*
*ці свет развітаўся з ранейшай арбітаю?*
*І мрояцца снежныя трасы і станцыі,*
*набегі завеі з віхрастымі танцамі.*
*Там пальцы каханай — мелодыі ноты,*
*там юныя губы — як мёд ад самоты.*

***

*Чыя за цень чапляецца паходка*
*і сэрца б'еццa промням неўпапад,*
*калі Дняпра шырокая паводка*
*змывае (а ці змые?) гукі страт?*

*Вішнёвых і чаромхавых завеяў*
*зноў ладзяцца ўваходзіны наўкол.*
*Руйнуючы гармонію, з-пад веяў*
*чыя сляза зрываецца на дол?*

***

*Згаркоціўся вецер*
*і горыч пасеяў на свеце —*
*яе на губах пералётным пылінкай*
*агучваюць выдых змялелых крыніц*
*і голас, што ў небе згубіўся высока*
*ў палацах аблокаў...*

*Ці лечацца раны травіны дыханнем —*
*пытаецца ружай чырвонай світанне...*

***

*Чыя душа пад ветрам да аблокаў*
*узносіцца не ластаўкай, не чайкай —*
*дарогаю, што чалавека крокі*
*навек сваім дыханнем абвянчала?*
*І там, у тых прасторах невымерных,*
*ці будзе ёй і холадна, і цесна —*
*маўчаць пра тое колас, поўны зернем,*
*і скрыпкі з флейтамі ўсіх гарадскіх*
*аркестраў...*

***

*Паклалі ў труну акуляры,*
*каб чытаць і глядзець на тым свеце магла*
*весткі пра ўсё, што на свеце*
*зямным адбываецца.*
*Толькі як жа ты штосьці разгледзіш*
*праз гліну з пяском, што леглі*
*на грудзі, на вочы*
*і сэрца?*

***

*Дождж над магілаю свежай асенняй*
*мые кветкі і лапкі зялёных калючых*
*вянкоў —*
*намагаецца мовай сваёю*
*несуцешнасць суцешыць людскую,*
*спагадаючы кроплямі неба*
*спавітай жалобе зямной,*
*дзе рыдлёўкі падсеклі карэнне*
*маладзенькай бярозы,*
*што даносіла жвіру загадкі блакіту*
*з падсветкай маланкі імклівай,*
*з падказкай няспешнай маруднага грому...*

***

*Ступіць на сцежку босымі нагамі —*
*пачуць світальны халадок травы.*
*Тут валуны язычніцтва багамі*
*вартуюць кручы і ў палях равы.*

*Як пахне лісце маладых алешын!*
*Ручай пад імі ў спёку ледзь жывы.*
*Пра свет (ён горшым стаў ці стаў ён*
*лепшым?)*
*мураш пытае, глянуўшы з травы.*

***

*Пад цяжкімі абцасамі сцежка і брук*
*ці прыгадваюць лёгкія крокі?*
*Прывітанняў світальных даверлівы гук,*
*дзе ж крынічаць твае вытокі?*
*І пытаеш і ў сонца, і ў золь: ці сагрэць*
*нечы ў свеце пагляд адзінокі,*
*каб дарожнай гаркоты не парожні карэц*
*за бары адышоў, за аблокі?*

***

*Ёсць маленне зямное.*
*А маленне аблокаў*
*пазірае спагадна ці строга —*
*запытаць у каго?*
*Пасівелі тут вокны,*
*а да іх — пасівела дарога.*
*Толькі хто тут яшчэ*
*так цікуе цікаўна*
*з вышыні, дзе гняздо на галіне кляновай?*
*У пажоўклай траве спіць*
*чмяліная тайна*
*дзіўнай музыкі даўняй*
*і забытага слова...*

***

*Схіляеш галаву, каб увайсці*
*з парога, дзе патрэсканы цагліны*
*так, як душа, што зведала ў жыцці*
*вясёлыя і сумныя часіны.*

*Да вуснаў паднясеш карэц вады*
*і будзеш нетаропка піць, нібыта*
*за ўсе свае пражытыя гады*
*тут наталяеш смагу незабытую.*

***

*Не толькі чыстыя дажджы і ветры*
*краналіся кары бяроз. Але*
*не брудны дотык, а жывуча-светлы*
*здалёк на кожным бачыцца ствале.*

*Святло бяроз — палескіх родных вокнаў —*
*ні ў хмурны дзень не гасне, ні ў начы.*



*І вышыня замутнёнае вока*
*той светлынёй спрабуе падлячыць.*

***

***Святлане Алексіевіч***

*Гадаваныя бурамі сосны, як людзі,*
*навучыліся слухаць размовы глыбінь*
*і паданні нябёсаў, дзе гром гучна будзіць*
*на світанні яшчэ задрамалую сінь.*

*Тут, дзе раніў (так блізкі!)*
*пякельны рэактар*
*слых галін маладых,*
*слых ствалоў векавых,*
*сосны ловяць і гукі рачных перакатаў,*
*і далёкія гукі прыбояў марскіх...*

***

*Адкладваеш на потым, на пасля*
*сустрэчы і прызнанні...*
*Год за годам*
*накручвае свае кругі Зямля*
*ў абдымках сівізны,*
*у пацалунках квецені і лёду.*
*Адмахваешся з выдумкай чыёй:*
*— Яшчэ — не вечар?..*
*А вячэра стыне —*
*яе падзеліш сёння з нематой пустыні...*

***

*Скрыгат крыг на абуджаных рэках*
*гоніць скруху на самае дно.*
*І па-іншаму колы на рэйках*
*зноў імя паўтараюць адно.*

*Кліча далеч і ў сонцы, і ў крылах.*
*І пакуль разгавеецца гром —*
*вузялкам нематы на галінах*
*маладым развязацца святлом.*

***

*Вячэрнія цікаўныя сарокі*
*не ў церам цемры чэрвеньскай пары —*
*у хорам светлы правядуць высокі.*
*Там свецяць сосны ў ягадным бары!*

*Там — на імху пасцелены пасцелі*
*пад вышынёю зор і столлю крон.*
*...Радзімкі ля грудзей. Чарнічнік спелы.*
*І спелых губ — свабода і палон.*

***

*Доўга-доўга да цябе ішоў —*
*пасівелі скроні, як атава*
*за ракой, дзе ў восеньскіх дажджоў*
*ёсць на позні шлюб з травою права.*

*І табой асветлены, табой,*
*сівізной асенняй спасцігаю*
*хмельны шал дажджоў і траў настой,*
*у якіх жыве гуканне маю.*

***

*Да раніцы высокія гірлянды*
*высвечваюць глыбокі сон снягоў.*
*І ў вокны цішыня маўчаннем панды*
*заглядвае з далёкіх берагоў.*

*Знайсці б на свеце гук выратавальны —*
*бальзамны, жыватворны ў свеце гук, —*
*і песнямі зноў адгукнуцца тайны*
*тваіх вясновых губ, вясновых рук...*

***

*Разгайданыя ранкам званы,*
*вам за вёрсты зямныя маліцца*
*і за голас бязгрэшнай сініцы —*
*ён з паўночнай ляціць старaны.*
*Праз машын выхлапныя дымы*
*ад цябе і са снегам, і з ветрам*
*незамёрзлае слова прывета*
*прынясі мне, сініца зімы.*

***

*Цёплы снег атуляў лікі Храма —*
*цэлы свет, у якім на зары*
*спавядаліся ў чым снегіры*
*за ваконнай сасновaю рамай?*
*Прачыналася ты — і святлела*
*яшчэ болей зімы светлыня.*
*...Там звінела ільдзінкамі дня*
*вышыня*
*без журботнага хмелю...*

***

*Вераснёвы экспрэс (ці прыгадваў ён лета?)*
*адыйшоў ад перона растанняў вячэрніх.*
*Позірк твой далячынь дасылала*
*прыветам.*
*Больш — не верне.*
*Заблуджуся пад хмарамі*
*на алеях у скверах бяссоння,*
*дзе лісце, як малых кацянят,*
*ветры ловяць.*
*Неба ўсе пазрывала стоп-краны*
*вясёлых вагонаў —*
*толькі ў мокры кастрычніцкі снег*
*паімчалі нястомныя колы...*

***

*За ўсіх, за ўсіх, каго люблю і помню*
*ў марозным свеце, свежым ад снягоў,*
*малюся сёння ранішняму промню,*
*што вылавіла сонца ў вечнай домне*
*для блізкіх і далёкіх берагоў.*

*У век званкоў мабільных пасылаю*
*крылатай поштай белых галубоў*
*чыханне воблакаў над заінелым гаем,*
*дыханне дрэў жывых, якія маю*
*напішуць музыку зялёных галасоў.*

***

***Алесю Жуку***

*Выпечкай сонца — кастрычніка*
*дрогкія кроны.*
*Ранак варожыць пра вечар*
*і цёмнай, і жоўтай травой.*
*Лісце чые галасы не забыла,*
*чые не забыла імёны —*
*носіць каму, як заўжды,*
*па прамой і крывой?*
*Яблыня яблык апошні*
*хавае ў галінах, трымае —*
*ён падарункам да ўласнай,*
*яшчэ не намёрзлай душы.*
*Гук пералётны — за далеччу,*
*за небакраем.*
*Зноў зацяжныя спеюць*
*павольна дажджы...*

***

*Не аб'едзеш гора, як гару...*
*Прыгадаўся старадаўні выраз.*
*Сёння з кожнай зёлкай гавару*
*на гары, дзе новы крыж зноў вырас.*

*Гэтую гару (раней-пазней)*
*не аб'едзеш, не мінеш усё-ткі.*
*Як вясёла скача верабей*
*між пялёсткаў горкіх і салодкіх!*

# Тры сямёркі



Уладзімір СЦЯПАН

## Аднойчы раніцай

Мужчына з'явіўся на вясковай вуліцы рана. Выйшаў з туману. На ім была зліняла і брудная вайсковая адзежа яшчэ тых, савецкіх часоў. Гімнасцёрка без пагонаў з жалезнымі гузікамі, галіфэ, шапка-афганка з брыльком, а на нагах гумовыя боты. У правай руцэ сухі кіёк, а левая вісела, хісталася, як перабітая. Ён ішоў па дарозе, пакідаў на вільготным пяску ясныя сляды рыфлёных падэшваў. Спыніўся, паглядзеў на адну хату, на пашчыпаныя, шмат разоў перафарбаваныя дзверы з чорным замком. У двары забразгаў ланцуг і адразу заскавытаў нябачны сабака.

Мужчына рушыў далей, сярэдзінай дарогі, пустой вуліцай. Прыпыніўся, калі ўбачыў пад нагамі вялікі зялёны яблык. Нахіліў галаву набок і дакрануўся да яблыка кійком, але з месца не зрушыў.

Першым ён сустрэў гарадскога чалавека, які жыў у вялікім доме, і сказаў: «Добры дзень!» Пачуў адказ, трохі памаўчаў і спытаў: «Вы не бачылі веру?»

Гарадскі здзівіўся і задумаўся. Ён спрабаваў зразумець, з якой літары варта было б напісаць гэтае слова, бо па інтанацыі не зразумеў. Наважыўся ўдакладніць, але мужчына ў вайсковай адзежы яго апярэдзіў пытаннем: «А дзе дом нямога?» Гэтае пытанне, не вымагала развагаў, і таму гарадскі паказаў на сіні дом пад цёмным шыферным дахам. Паказаў пальцам і сказаў: «Вось жа ён, побач».

Гарадскі паспрабаваў углядзецца ў твар незнаёмца, каб запомніць, але той мяккім голасам падзякаваў і адвярнуўся. У памяці застаўся вобраз шэрай дубовай кары, а не твара. І каб папрасілі згадаць, як выглядаў мужчына, ці колькі яму гадоў, то гарадскі б успомніў бы адно парэпаную дубовую кару.

Незнаёмец не стаў грукаць у зачыненыя дзверы, бо нямы не пачуе, а саступіў са сцежкі на траву, абапёрся спіной на камель клёна.

Усёй размовы гарадскі не чуў, бо яна адбывалася амаль бязгучна, на мігах. Але двойчы мякка прагучала слова «вера». З дома ў сіняй кофце і чорным трыко, басанож, у акулярах, таропка выйшла худая жанчына нямога. Яна зірнула ў твар незнаёмца, схіліла галаву, заўсміхалася, ці тое спалохана, ці тое разгублена. Потым ускінула рукі, прыціснула да грудзей, калі слова «вера» прагучала другі раз. Незнаёмец кійком, як дырыжор, зрабіў доўгі павольны рух у паветры, быццам абмалёўваў нешта круглае і вялікае, але не чалавека.

Чорны і звяглівы сабака нямога падціснуў хвост, прысеў, і вадзіў вострай пысай, сачыў, але не за гаспадаром, а за мужчынам у зліняалай гімнасцёрцы.

Потым незнаёмец пайшоў па вуліцы да моста праз малую рачулку. Пастукаў кійком па срэбных нефарбаваных дошках і падаўся асфальтам да вясковай крамы. Час быў такі, што на вуліцы не было людзей, але яго бачылі.

Санёк расказаў, што чалавек пастаяў на ганку крамы, пачытаў абвесткі. Валя, былая прадавачка, бачыла як ён ішоў да могілак, а можа ў суседнюю вёску… Валодзя, які вёў на пасту козаў, бачыў, як незнаёмец няспешна хадзіў па зарослых могілках. Калі ж Валодзя вяртаўся, то незнаёмец сядзеў побач з помнікам Багдану Лісічку, які загінуў у Афганістане ў восемдзесят другім годзе і якога прывезлі ў вёску бацькам у цынкавай труне.

Мог бы нешта расказаць нямы і яго худая жанчына, бо толькі яны з ім пагаварылі на сваёй мове. Мог, але нямыя з'ехалі з вёскі першым аўтобусам у Віцебск атрымліваць пенсію. Там запілі-загулялі, пакуль былі грошы. Вярнуліся панылыя і млявыя.

Рая, якая жыла каля рэчкі, згадала, што ў Багдана была дзяўчына з суседняй вёскі. Звалі яе Вера. Але яна з'ехала ў Ленінград, дзе пайшла па руках.

Чорны звяглівы цуцык трапіў пад колы «хуткай дапамогі», якая ехала да Віцькі. У тым, на трэці дзень, як незнаёмец прайшоў па вёсцы, пачалася «белая гарачка». Віцька з Багданам Лісічкам вясной восемдзесят першага разам ішлі ў войска.

Калі «хуткая» спынілася побач з Віцькавай хатай, то ён хадзіў па агародзе ў чорных трусах і шаптаў у мабільнік, што ў вёску прыходзіў сам Багдан. А на могілках пахаваны нехта іншы… Багдан жывы, і прыходзіў, каб папярэдзіць, што хутка пачнецца вайна і вёску спаляць.

Хто яе спаліць, ён ні гарадскому, ні фельдшару растлумачыць не мог. Паўтараў і паўтараў: «Спаляць-спаляць-спаляць!». Укол падзейнічаў, і Віцька заснуў з разяўленым ротам.

## Летні вечар

— Чуеш? — спытаў мужчына.

— Што, падушку паправіць? Памперс? — жанчына зашморгнула шторы і хацела пайсці са спачывальні — А святло патушыць?

— Не трэба. Пачакай. Хачу…

— Што?

— Каб ты да мяне легла. — Ціхім голасам, папрасіў і аднačасова загадаў ён.

Жонка спынілася, рукі апусціла і разгублена пагладзела на мужа.

— Што стала, распранайся, давай…

— У мяне там яшчэ справы, навошта ты гэта надумаў, можа потым?

— Не. Цяпер.

Яна наважылася патушыць таршэр побач з мужавым ложкам, руку выцягнула, але ўбачыла, што ён гэтага не хоча. Ён глядзеў на яе спакойна і ціха. Яна ўздыхнула, пачала расшпільваць гузікі халата. Зняла, паклала на крэсла, а слізкая тканіна пацякла са спінкі, халат з'ехаў на падлогу.

— Усё здымі.

— Можа, не трэба?

Ён маўчаў і глядзеў. Яна праз галаву зняла кашулю і засталася голай. Зноў хацела патушыць святло, але ён затрымаў яе руку, нямоцна сціснуў запясце, пацягнуў да сябе. Прыціснуў сваю далонь да яе мяккага жывата. Яна стаяла з пакорлівай нерухомасцю, нават не дыхала. Яго ладонь спаўзла ніжэй, пальцы сціскаліся, быццам спрабавалі схапіцца…

Яна сабралася абысці ложак і легчы збоку, на сваё заўсёднае месца.

— Не… На мяне кладзіся.

— На цябе? — Спалохана перапытала яна. — Не трэба. Я ж цяжкая.

— Кла-дзі-ся!

Яна адгарнула коўдру, затрымала дыханне і асцярожненька легла на яго, як накрыла.

— Так? Цяжка? Баліць?

— Не… Маўчы.

Яго рукі апусціліся на яе шырокую белую спіну. Ён перабіраў пальцамі, гладзіў, павольна вёў прахалодныя далоні. Спыніўся на плячах, потым на шыі, на валасах. Уздыхнуў, павярнуў галаву крыху набок, прыціснуў жонку да сябе і кусануў пругкае круглае плячо. Моцна! Ён так лічыў. Яна стрывала, а ён скрыгатнуў зубамі і нягучна застагнаў. Яна ўзняла галаву.

— Ну хопіць, хопіць, злазь… Можа, яшчэ ўсё і абыдзецца неяк…

Яна павольна і няўклюдна паднялася. Яго вочы былі заплюшчаныя. Востры кадык на худой шыі торгаўся, быццам мужчына нешта спрабаваў праглынуць і не мог.

Яна падхапіла з падлогі халат. Пацёрла пакусанае плячо. Сустрэлася позіркам з мужам.

— Баліць? — спытаў ён і ўсміхнуўся, амаль вінавата.

Яна не адказала, а пагладзела на яго ўважліва, вочы ў вочы.

— Я памру, а ты застанешся…

Жанчына сціснулася і пайшла са спачывальні.

## Тры сямёркі

Звязка ключоў засталася вісець у замку казённых дзвярэй з нумарам 777. Саракагадовая жанчына механічна падняла руку і намацала выключальнік. Націснула і заплюшчыла вочы. Пад столлю загулі лямпы, заміргалі і залілі белым святлом пакой. Тры сталы, пад імі тры сметніцы, шафа, тры кампутары, чатыры крэслы, тумбачка з чайнікам, кубкамі, рафінадам і вялікай бляшанкай.

Жанчыну звалі Таня, прозвішча Страх, а мянушка «Трах». Яна ўвайшла, пагладзела на свае мокрыя чаравікі, на чырвоныя недагледжаныя рукі і прычыніла дзверы. Але праз імгненне спахапілася, выцягнула ў доўгі і паўцёмны калідор, схапіла чорны мех і ўнесла яго ў пакой.

Яна доўга глядзела ў вакно на яшчэ начны і мокры горад, на двор з цаглянымі нізкімі будынкамі, на тое, як на бляшаны карніз сыпаў дождж. Ёй стала кепска, і яна села ў крэсла на колцах. Рукі калаціліся, і ёй захацелася закурыць. Але цыгарэт не было, і яна праглынула вязкую кіславатую сліну. Сталы, маніторы, розныя паперы, сцены… Позірк спыніўся на карце Еўропы. Шмат якія гарады былі азначаны зялёным маркерам, а да іх цягнуліся кароткія і даўжэйшыя зялёныя промні. Таня падумала, што той хто сядзіць за гэтым сталом, пэўна быў ва ўсіх гэтых месцах.

Ёй захацелася кавы. Так моцна захацелася гарачай кавы ў вялікім кубку, што баўтанула, а потым уключыла белы чайнік, лыжкай падчапіла накрыўку, насыпала ў кубак спачатку дзве, а потым яшчэ адну лыжку кавы, кінула тры кавалкі цукру і стала стоена чакаць, калі закіпіць вада.

Першы глыток быў такі смачны і гарачы, што ўсярэдзіне, пад грудзямі, усё сціснулася і затрымцела. Таня ўздыхнула і зрабіла наступны. Пад'ехала на крэсле да стала пасярэдзіне пакоя і выцягнула верхнюю шуфлядку. Лісты спісаныя паперы, празрыстыя файлы з фотаздымкамі, часопісы, цёмныя акуляры. Яна ўздела іх, паднялася, пагладзела ў люстэрка і спалохалася. Там была цётка з азызлым спітым тварам, з нямытымі, кепска пастрыжанымі валасамі. Яна кінула акуляры на паперы, папаролася ў другіх шуфлядках, убачыла пачак з парай цыгарэт і запальнічку. Закурыла, села ў крэсла і пачала няспешна піць каву і глядзець то на дым, то на сцены, то на свае брудныя мокрыя чаравікі.

Па бляшаным карнізе барабаніў цёмны сакавіцкі дождж. У шуфлядцы другога стала яна знайшла сіні канверт з пашпартам. Там ляжала семдзесят даляраў. Яна глядзела на іх з радасцю, крыху павагалася і незадаволена вярнула ў стол. Яшчэ ёй захацелася ўключыць кампутар. Моцна захацелася. А потым пісаць і глядзець, як на маніторы з'яўляюцца доўгія радкі словаў. Яна памятала ці не ўсе свае артыкулы. Усе. Магла пераказаць кожны. Тады яна яшчэ ганарылася сваім запамінальным прозвішчам Страх… Можа, яна б гэта і зрабіла. Уключыла б і напісала, каб цыгарэта не апякла пальцы. Яна адкінула недапалак, замахала рукой, прашаптала: «Бляха!» І тут затрашчаў яе аблеплены скотчам мабільнік. Яна яшчэ раз кінула «Бляха!», прыціснула яго да вуха.

— Ну што табе, Эма? Слухаю.

— Таня, а ты дзе? Я прыйшла, а Ягор яшчэ спіць.

— Я ў рэдакцыі.

— У рэдакцыі? А што ты там робіш?

— Працую… Разагрэй малому кашу, яна на пліце, і скажы, што грошы я прынясу ў школу на вялікім перапынку, няхай не баіцца, ідзе палуднаваць. Скажы, каб прачынаўся. Яго куртка на батарэі сухая. Што яшчэ?

— Я так рада, што цябе ўзялі ў рэдакцыю, што ўсё скончыцца…

— Скончылася, не сцы. Усё будзе добра… Больш Ягора ў мяне не забяруць.

Таня адключыла тэлефон і скрыгатнула зубамі: «Бляха… Усе вы добрыя, калі добра…» Паднялася з крэсла. Ёй так захацелася выпіць, што яна ледзь не згубіла прытомнасць. Села ў крэсла і апусціла галаву на калені, уваткнулася носам у джынсы. Так і сядзела колькі часу, пакуль не пачула блямканне кропель па карнізе. Падхапілася, выцягнула с чорнага меха вядро з анучамі і пачала выціраць сталы, а потым выкалочваць у чорны мех сметніцы. Сыпаліся пакамечаныя паперы, пачкі ад чыпсаў, бутэлькі з-пад мінералкі, кавалкі паперы… Яна схадзіла ў прыбіральню, каб набраць у чайнік вады, памыла кубкі і лыжачку, праветрыла пакой пад нумарам 777, як партвейн. Потым вынесла смецце на вуліцу ў кантэйнер і паехала на другі канец горада, туды, дзе жыла з дзевяцігадовым сынам. Злосная, як звер.

## Вялікая падушка

Мама старэнькая — восемдзесят сем, лёгкая, як пёрка. Важыць сорак тры кілаграмы. Год з кватэры не выходзіць, так баляць ногі, але голас не змяніўся, такі ж уладны, як і раней.

Спачатку я адцягнуў канапу з аднаго боку, потым з другога. Знайшоў шакаладную цукерку, як камень цьвёрдую. Вільготнай анучай сабраў пыл, потым выцер падлогу яшчэ раз. Мама стаяла, абапіралася на кавеньку і незадаволена глядзела на чыстую падлогу.

— Дык што тут павінна быць, што шукаем?

— Цяпер адсунь крэсла, там пагляздім! — мамін рот крывіўся, і здавалася, што яна вось-вось заплача.

— Скажы што, можа, я ведаю?..

— Адсоўвай, толькі акуратна, каб падлогу не падрапаць.

Адцягнуў цяжкае старое крэсла, якое гадоў дзесяць не раскладалі. За крэслам знайшоў паштоўку і бліскучы жалезны гузік. Выцер падлогу і прысунуў мэблю да сцяны. Твар у мамы быў сумны.

Я раззлаваўся і пайшоў гатаваць сабе каву.

Калі кава астывала на падваконні, то пачуў, як мама ў спачывальні грукае палкай, падсоўвае яе пад свой ложак. Давялося адцягнуць яе ложак, потым акуратна прыбраны той, на якім спаў бацька. Гэтым разам знайшоў дзве таблеткі і накрыўку ад маленькай бутэлечкі валяр'янкі. Памыў падлогу. Мама сачыла за маімі дзеяннямі, але хутка губляла цікаўнасць. Калі перастаўляў мэблю на кухні, то знайшоў чатыры манеткі: дзве жоўтыя і столькі ж белых.

Мама сядзела, уздыхала і глядзела, як я шукаю нявепама што…

— Сямён сказаў, што прыйдзе ў палове на сёмую. — Раптам паведаміла мама.

— Які Сямён, Галін?

— Не, сантэхнік… Бацькаў знаёмы, яны разам у інтэрнаце працавалі. Саша электрыкам, а Сямён… Ой-вой, і што мне рабіць? А пагляздзі за плітой, сынок, можа там! — Мама паднялася. Я адцягнуў старую газавую пліту. Акрамя пылу, пакамечанага кавалка наждачнай паперы і відэльца нічога не знайшоў.

Мыў падлогу і думаў, што вось прыехаў і займаюся абы чым, перасоўваю мэблю, перастаўляю, падлогу мыю, шукаю нешта…

Мама хвалявалася, нервавалася, злавалася, нават пачырванела.

У палове на сёмую затрашчаў кватэрны званок. Мы з мамай былі на кухні. Яна папрасіла дзверы не адчыняць.

Я піў халодную каву, званок трашчаў і трашчаў, мама хвалявалася.

Праз паўгадзіны, калі я, стомлены, вырашыў прылегчы на канапу, калі падняў вялізную падушку, каб трохі падбіць, то ўбачыў маленькі пакунак. Разгарнуў сурвэтку. У ёй была ружовая штучная сківіца. Занёс яе маме. Яна ўзрадавалася, як дзіця. Нават смяяцца пачала.

— Я ведала, што тут яны — мае зубы, дома… Цябе чакала, зняла, каб не мулялі, схавала пад падушку і заснула…

Праз гадзіну мама тэлефанавала сантэхніку Сямёну і расказвала, што ён можа прыйсці заўтра ў любы час і паглядзець кран.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (146) | 26 кастрычніка 2018 | № 39 (602) Новы час

# Вучыцца адчуваць віну

## З аўстрыйскай вандроўкі

« Працяг.
Пачатак на стар. 7 (1)



Фота www.ogorodah.ru

Вяселле маладой пары: у рэстаран прыйшло чалавек дваццаць моладзі. Нявеста ў белым строі з вэлюмам. Увесь вечар моладзь сядзела за пустым сталом. Ім пару разоў падносілі па куфлю з півам. Пад канец вясёлай (!) вечарыны падалі па шніцалю. Другое вяселле назірала ў шыкоўным рэстаране ў Вене — на сталах акрамя пялёсткаў руж не было нічога. Прынеслі віно. Гэта была аўстрыйская эліта: мастакі, літаратары, навукоўцы. Гаманілі, жартавалі, слухалі жывую музыку (беларускі хор), віншавалі «маладых»: жаніху — 75, нявесце — 50. Сталы заставаліся пустымі. У нашых людзей за пустым сталом няма пра што пагаварыць...

Ёсць з'явы, з якімі мы звыкліся і нават іх не заўважаем, не разважаем — добрыя яны ці дрэнныя, падабаюцца яны нам ці не. Уявіце наш рэстаран... у залу ланцужком заходзяць трыццаць прыгожых дзяўчат. Вы чуеце, вы бачыце, што адбываецца з мужчынамі, як іх гэта «заводзіць», як круцяцца галовы, суправаджаюць красуняў уедлівыя вочы, усмешкі, гукі захаплення, зазывы, жарцікі, бессаромныя ацэнкі? Мы прывыклі, нам падабаецца нават, станоўча прымаем на свой кошт: да чаго мы прыгожыя, калі здольныя выклікаць такую рэакцыю!

Хор маладых дзяўчат, з якім я мела ласку вандраваць... Калі я ўпершыню зайшла разам з нашымі красунямі ў мнагалюдную аўстрыйскую залу, адчула: штосьці не так. Зусім не так, як у нас! Нашы мужчыны, што хітраваць, і жанчыны нярэдка, седзячы ў рэстаранах са сваімі сябрамі, каханымі, сямейнымі адкрыта «страляюць» вачыма па ўсёй зале, шукаючы сустрэчнага пажадліва-гуллівага позірку. У людных месцах гэта абавязковая інтрыга палоў з'яўляецца для нас заменай сапраўдных шчырых адносін між мужчынам і жанчынай: кураж, эйфарыя, фальшывы ўздым эмоцый, узрух здрадніцкіх пачуццяў! Нярэдка тут жа пачынаецца нават непрыхаваны «з'ём» палавых партнёраў у запас; на вачах жонкі ці мужа пасылаюцца знакі прыхільнасці, запрашэнне на танец ад суседніх столікаў, вульгарныя намёкі, перамігванне, перашэпты, заляцанні. Вось што здзівіла мяне ў аўстрыйскіх рэстаранах: абсалютная адсутнасць увагі навакольнікаў да чалавека, які не прыйшоў разам з табой, які не сядзіць насупраць ці побач. Кампанія калег, аднадумцаў будзе занята размовай. Калі сваякі-суседзі святкуюць якісь знакавы дзень — тым больш(!) людзі заняты прычынай, з-за якой тут сабраліся, альбо проста адпачываюць, — у Аўстрыі любяць адпачываць у кафэ і рэстаранах нават з немаўлятамі. А ўжо сям'я!.. Гэта зусім асобная гаворка. Муж і жонка не звядуць вачэй адзін з аднаго. Я адмыслова назірала ў розных населеных пунктах за парамі з розных сацыяльных слаёў — вынік нязменны: у Аўстрыі відавочная каштоўнасць сям'і. Хапае, безумоўна, і там разводаў і праблем! Але я пра іншае. Пра скрыўленне нашых душаў...

Мы ж таксама нараджаемся любіць, быць любімымі, шанаванымі, марым аб шчырасці і даверы. А потым штосьці адбываецца з намі — і пачынаем бруд, хлусню прымаць за норму, а як вынік — крывадушнае змушанае суіснаванне за само жыццё. Там я не знайшла падмены паняццяў, значэння, сэнсу.

...Двое, ім пад сорак, побач дзеці, раніца выхаднога — у касцёле. (У Аўстрыі амаль усё культурна-грамадскае жыццё круціцца ля касцёла. Тут адбываюцца канцэрты, сустрэчы, прэзентацыі.) Ідзе малебен, на лавах няма вольнага месца: яны адзін у адным, вочы ў вочы, усміхаюцца, пацалаваліся, разам да святара...

Двое. Гэтым ледзь па трыццаць, але ўжо двое дзетак. Сям'я прыйшла на «хойрыген» да суседа. Стаяць ля барнай стойкі. Надзіва для мяне тут — пара сучасна апранута. Увесь вечар (адбылі амаль да ночы) муж трымаў руку на таліі жонкі і зазіраў ласкава ў вочы. У аўстрыйскай сям'і, мне падалося, жанчына займае крыху вышэйшае месца. Вось на тым жа «хойрыгене»: сям'я гаспадара... Дзве дачкі ўзросту нявест дапамагаюць разносіць віно і закуску да столікаў. Адкрыта, не хаваючы цікаўнасці, весела, з хітрынкай адказваюць на ўвагу патэнцыйных кавалераў, ніякай двухсэнсоўнасці, ніякай сарамлівасці, — няма падставы: яны годныя нявесты, шукаюць дастойніх кавалераў. Маладыя зацікаўлены стварыць добрую сям'ю. Гаспадар увішны, рупны, крышачку стомлены, але задаволены гандлем — нейкі сартоў віна ўжо не паспытаеш, прададзены, тут жа ідзе і мёд з іх горнай пасекі. Гаспадару цяжка схаваць упэўненую радасць. Затрымліваецца ля нашага століка — падносіць пачастунак найшаноўнейшай Familie, пару хвілін перакідваецца навінамі, жартуе. Жонка да гэтага часу выконвала абавязкі бухгалтара — падлічыць ёсць што! Мусіла пасля замінкі мужа падхапіцца, дапамагчы дочкам пазавіхацца ля столікаў, ды — стук (!) з фаршлагам — ключамі па стале, каб прыцягнуць увагу мужа; той імгненна азіраецца: «Іду, іду». У яе строгая, паблажліва-жаночая ўсмешка, у яго — згода вінаватасці, на тварах абоіх — разуменне і замілаванасць: як жа ўсё добра ў нашай гаспадарцы!

У мэрыі мястэчка Гумпольдскірхе спаборнічаюць два хоры. Наш — трыццаць прыгожых маладзенькіх дзяўчат з Беларусі і сорак мужчын з-пад Вены, ад маладога да сталага веку — спяваюць навыперадкі па песні. Мужчыны спяваюць выдатна, прафесійна, яны не музыканты, толькі кіраўнік наш калега. Спяваюць дзяўчаты. Мужчыны ў гэты момант уважліва з захапленнем слухаюць кожны гук. Скончылася песня, і вочы мужчын адразу знаходзяць іншы арыенцір, ні адзін харыст не глядзіць на дзяўчат. Нязвычнае відовішча! Аўстрыйскія мужчыны не разглядаюць жанчыну адкрыта, як рэч. Вечарам два хоры пойдуць у рэстаран пагаварыць. Усе харысты-мужчыны прыйшлі з жонамі, адзінокія сціпла сядзелі, вялі размову — ніякай пошласці, ніякай вольнасці ці распусты.

На працягу трох гадоў я мела магчымасць назіраць у мінскім «гасцявым доме» за нашай моладдзю: студэнцкія паці, тусоўкі, вяселлі. Прыязджае жаніх з сябрамі і дзявулямі — толькі не кажыце маёй нявесце, што я быў на «мальчышніку» з сяброўкай. Заязджае праз тыдзень нявеста з сяброўкамі і хлопцамі — толькі не прагаварыцеся майму жаніху, што я на «дзявішніку» была з кавалерам...

Ад пяці гадзін раніцы трое мужчын працуюць на вінаграднай плантацыі ў Шпіцы, бацька і двое дарослых сыноў. Рады лазы без аніякай агароджы ці раздзялення тэрыторый, пачынаюцца ў дворыку, літаральна ад тэрасы, на якой я прысела палюбавацца горнымі схіламі. Работнікі абыходзілі рады, абвіваючы маладыя пабегі вакол дроту, каб не звіліся ў кузлы. Раз-пораз яны падыходзілі да тэрасы, і мяне непакоіў факт, што не змагла своечасова павітацца з імі (тут людзі вітаюцца з кожным незнаёмцам). Мужчыны былі такія занятыя, што мне ўдавалася злавіць іх позірк праз «ходкі» тры, нарэшце я заўпарцілася — вельмі перашкаджаў адпачываць незавершаны рытуал. Гэта, нарэшце, нарэшце, злавіла! Вось бацька на імгненне злавіў мой позірк: «Grüß Gott!» — ціха прамовіў (так вітаюцца аўстрыйцы). Яго сын, які рухаўся заднім ходам, спіной да мяне, павярнуўся з паклонам: «Grüß Gott!», з-за рога дома выйшаў другі сын, сціпла пакланіўся: «Grüß Gott!». Заняліся сваёй справай. Гэта было так прыгожа! Так прыстойна! Як некалі ў маім дзяцінстве ў далёкай беларускай, яшчэ не сплюжанай хамствам вёсцы.

Я ўбачыла аўстрыйцаў карэнных, не наезджых (там шмат эмігрантаў), вельмі падобнымі на даўнейшых беларусаў, тых, сапраўдных, якіх амаль ужо і не засталося. Тая ж працавітасць і павага да людзей, тая ж сарамлівасць і сціпласць, законапаслухмянасць і памяркоўнасць. І адносіны ў сем'ях беларускай вёскі я яшчэ заспела ў тым стане: чыстыя, прыродныя, без сурагату і пошасці. І «хойрыген» у нас быў своеасаблівы і непаўторны, які пашчасціла мне назіраць не ў тэатральна-цыркавым прадстаўленні, а ў сапраўдным, жывым выглядзе: «Жаніцьба Цярэшкі» — страчанае найцікавейшае свята-абрад беларускай культуры, дзе пад наглядам бацькоў моладзь у гульнях вучылася «прыглядаць» сабе пáру, вучылася весяліцца, танцаваць і культурна (!) ужываць спіртныя напоі.

Даўняе вяселле стрыечанага брата ў вёсачцы Шыпы... Расчынены вокны, з вуліцы на падаконні «вісяць» цікаўныя, каму месца не хапіла за сталом: чаго крыўдаваць — хата ж не вялікая, хоць і з заможнай сям'і нявеста, пчальнік не кожны гаспадар мае, як яе бацька ў Шыпах, ды і сама нявеста — краўчыха, усю вёску абшывае, значыць, капейку мае! Няхай «вісяць» на падаконніках, няхай стаяць на парогах — хаваць няма чаго (добры хлопец бярэ добрую дзяўчыну), а лішнія пеюны заўсёды ў пашане! Спадынька паглядае на вясёлае застолле, танцы, жарты, гульні; сатрэ ражком хусціны слязу — так паложана: дачку замуж выдае... (Гэткай жа я знайшла і аўстрыйскую гаспадыньку Грыч з «хойрыгена».) Стомлена прытулілася да печы, каб адпачыць, згорбілася, пацёрла спіну — сярэдзіна баліць!

Аўстрыйцы працуюць, працуюць, працуюць. Бо гэта — на сябе. Іх аберагаюць дзяржаўныя законы. Пра іх дбаюць падаткі. Не спраўдліва зрабіць выснову, што там так усё добра, а ў нас дрэнна... Нас нельга параўноўваць — мы з розных паралельных светаў. Там — жыццё, а мы нават не ведаем, што гэта такое. Там дзяржава існуе дзеля народа, а ў нас электарат — дзеля ўлады. Яны прывыклі жыць з павагай да сябе, без зайздрасці, бо кожны мае ўсё, што трэба, што пажадае — яно вякамі напрацаванае іх сем'ямі. Ад павагі да сябе ў грамадстве прывіваецца павага да людзей і ўлады.

За апошняе стагоддзе ў нашым грамадстве прывілося рабскае шанаванне тых, хто здолеў, страціўшы сумленне, «прымазацца да карыта» і паглыбей зарыць у яго лыч. Тым найпаважней ставіцца да гэтага лыча іншых, чым глыбей той лыч. Немагчыма ўявіць, каб прыстойны грамадзянін прыстойнай краіны мог радавацца і ганарыцца доляй хабарніка, лізадубкі, прайдзісвета, хлуса, злодзея, жулля, што даўно стала нормай у нас...

У Аўстрыі я сустрэлася яшчэ з адным «перакосам». Аб чым бы ні заходзіла размова, хто б ні сядзеў за сталом (моладзь, сталыя людзі, адукаваныя, простыя, жанчыны, мужчыны...), нейкім чынам словы рана ці позна выпадкова ўпіраліся: вайна, Гітлер, разбурэнні, нацызм... Мяне папярэдзілі харавыя: старайся абыйсці гэтыя тэмы. Я і не збіралася, але чаму — пытаюся. Яны адчуваюць вялікую віну за былое, заўважыш сама, гэтыя тэмы для іх балючыя. (Хоць Аўстрыя ў свой час не падтрымала ідэі і не прызнала суайчынніка Гітлера...) А гаворкі, як ні круці, самі сабой заводзілі ў тупік:

— Якія старадаўнія пабудовы вам спадабаліся ў Аўстрыі?

Пералічваю з захапленнем.

— А ў вас, у Беларусі, шмат старадаўных храмаў?

— Большая частка разбурана.

Мае суразмоўнікі вінавата занурыліся, сумна ківаюць галовамі, цяжка ўздыхаюць. Далей нават гаворка не клеіцца. («Ды свае, свае пабурылі не менш за чужынцаў!» — хочацца сказаць, а думаеш: вось бы нам так, хаця б перад сваім народам, перад сваёй культурай, мовай навучыцца адчуваць віну.)

**Людміла Андзілеўка**

# Чырвоны фламінга,
## або мой першы сэкс быў у дзевяностыя

**Спроба (а)сінхроннага перакладу кнігі Тані Скарынкінай**

**Кнігу эсэ смаргонскай паэткі і публіцысткі Тані Скарынкінай «Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі» (Edinburgh: Scotland Street Press, 2018) прэзентавалі на Эдынбургскім кніжным фестывалі. На англійскую мову кнігу пераклаў Джым Дынглі. Вашай увазе — беларуская версія intro для англамоўнага выдання. Перад аўтаркай прадмовы Марыяй Мартысевіч стаяла задача раскрыць кантэкст, які спарадзіў тэксты кнігі, для чытача ў Брытаніі.**

...Таня Скарынкіна апісвае сваю штодзённасць творчай асобы ў невялікім беларускім горадзе Смаргонь. Але гэта кніга і пра мяне таксама, таму што яна змяшчае апісанне беларускай (пост)савецкай рэчаіснасці, вельмі знаёмай усім, хто нарадзіўся і рос у маёй краіне ў 1970–1990-х. Так што як я ні імкнуся напісаць тут пра Таню і яе творчы метад, усё адно выходзіць пра мяне саму. Гэткія законы настальгіі як жанру.

Ёсць такая прафесія — перакладчык-сінхраніст, яна бязмежна захапляе мяне. Але цяпер мне падумалася вось што. І я, і Таня Скарынкіна, і безліч нашых калег у Беларусі даўно змушаны засвоілі сумпадсьлеглую прафесію. Мы асінхронныя перакладчыкі. Прамаўляючы для заходняй аўдыторыі пра Беларусь і сябе ў ёй, нам трэба не проста тлумачыць кантэкст, але і расказваць нейкія блытаныя гісторыі пра тое, як мы ў гэты кантэксце трапілі. Сучасныя філосафы апісваюць гэта тэрмінам contemporaneity, які беларуская мысьлярка Вольга Шпарага інтэрпрэтуе як asynchronicity of the present. Людзі, якія жывуць у розных краінах або нават існуюць у розных супольнасцях адной краіны, або існуюць у падобных супольнасцях розных краін і нібыта маюць падобны набор каштоўнасцяў, не могуць паразумецца, таму што абапіраюцца на абсалютна розны сацыяльны, гістарычны, культурны досвед.

***

Мы сядзелі ў ірландскім пабе ўніверсітэцкага горада ў ЗША, калі М.М. прамовіў: «Дзевяностыя былі часам, вырваным з жыцця. Нудная музыка, нудная літаратура».

Цяжка апісаць, як мяне здзівілі гэтыя словы. Розніца ў веку паміж мной і М.М. усяго год. Мы дакладна з аднаго пакалення, і мы сустрэліся ў гэтым амерыканскім універсітэцкім горадзе, бо ён і я — паэты. Халера, нават нашыя ініцыялы супадаюць! Хіба што М.М. нарадзіўся і вырас у Вялікабрытаніі, а я — у Беларусі.

«Для мяне ўсё было наадварот! — даволі экзальтавана зрэагавала я. — Дзевяностыя ў Беларусі былі самым цікавым часам і для музыкі, і для літаратуры! І для палітыкі, і для эканомікі, і для жыцця! Ды што там казаць! Як увогуле могуць быць кепскімі гады, калі ў цябе быў першы сэкс?»

М.М. не стаў пярэчыць. Магчыма, сваёй бурлівай рэакцыяй я крыху падпсавала яго салодкую меланхолію. А магчыма, ён проста вырашыў быць ветлівым...

Спачатку я была шчыра перакананая, што мае падлеткавыя гады ў Беларусі дзевяностых сапраўды былі нейкімі асаблівымі. Але аднойчы, калі на дзвярах нашай кватэры №60 (мы наўмысна не памянялі вінтажныя дзверы, усталяваныя ў 1985 годзе), адваліўся цвічок ад алюмініевай лічбы 6 і атрымалася лічба 90, я раптам усё зразумела.

Беларускія дзевяностыя былі такімі драйвовымі для нас, бо выконвалі ў постсавецкіх краінах тую ж ролю, што і 1960-я ў заходнім свеце. Зрэшты, не. Яны былі нават большым. Мы атрымалі ў адным пакеце 60-я, 70-я, 80-я — і актуальныя тады ў свеце культуру. Гэта было як бандэролі, якія доўга шукалі адрасата. Людзі культуры былі прагныя да ўсяго і спажывалі любую інфармацыю без разбору — гэта арганічна спалучалася з атмасферай постмадэрнізму, якая панавала тады ў кавярнях і ўніверсітэтах. «Монці Пайтан» і «Мікі-Маўз» атакавалі нас адначасова.

Дзевяностыя так моцна скаланулі грамадства (грамадствы) на прасторах былога СССР, што гэтае рэха гучыць і дагэтуль. Яно аформілася ў своеасаблівы міф пра дзевяностыя, ці, дакладней, два генеральныя міфы.

Першы з іх — маўляў, гэта былі галодныя і дэпрэсіўныя часы. Большасць з тых, хто перажыў іх, кажа, нібы хоча пра іх забыць, хоча, каб яны ніколі не вярталіся. Гэты «страх дзевяностых» эфектыўна выкарыстоўваецца ў нашы дні прапагандыстамі некаторых постсавецкіх рэжымаў. Тое былі часы, калі мільёны людзей страцілі крыніцы фінансавання, маёмасць, статус, надзею на светлую будучыню, якую гарантавалі ім завучаныя з дзяцінства камуністычныя дактрыны. Нават сёння я часам раблюся сведкай спрэчак, хто найбольш галадаў у дзевяностыя. Выйграюць нязменна тыя, хто не меў сваякоў у вёсцы. Мая сям'я мела. Магчыма, таму для мяне больш актуальны другі міф. Міф абсалютнай свабоды, якую мы тады атрымалі.

Тэктанічныя зрухі пачатку дзевяностых вызвалілі неверагодную колькасць сацыяльнай энергіі. Калі сталелі нашыя бацькі, шмат чаго было нельга. Калі яны нараджалі нас, сеё-тое стала можна, але толькі калі ціха. Калі мы падраслі і пайшлі ў школу, стала можна абсалютна ўсё. Ужо не было дырэктывы КПСС, што і як каму належыць рабіць. Настаўнікам, журналістам, палітыкам, якія ўжо не мелі над сабой цэнзараў, заставалася ў новай сітуацыі адно — казаць тое, што яны сапраўды думаюць. А думалі яны вельмі розныя, часам нават супрацьлеглыя рэчы.

Гэта ўсё доўжылася большменш да 1999 года, калі Аляксандр Лукашэнка, які прыйшоў да ўлады на хвалі гэтага неўтаймоўнага плюралізму, увабраўся ў моц і пачаў «закручваць гайкі». Ужо напачатку 2000-х было абвешчана пра стварэнне «дзяржаўнай ідэалогіі». Рэжым ліхаманкава прыдумваў нешта, каб спыніць свабоду думкі, якая захапіла краіну.

«Яны выглядаюць як мы, апранаюцца як мы, і нават думаюць як мы», — пісаў пасля сустрэчы са мной у 2011 годзе адзін заходні журналіст, супрацьпастаўляючы «прагрэсіўную моладзь» маёй краіны маім жа ўладам, якія пасадзілі яго ў турму на пяць сутак. Але, магчыма, ён палічыў мяне надта асцярожнай і запужанай, калі я прадказвала яму, што з ім можа здарыцца, калі ён будзе трымацца свайго плану, якім са мной падзяліўся. Тое, што падалося яму блізкім ува мне, паходзіць з маіх дзевяностых. Тое, чаго ён так і не зразумеў, — з маіх двухтысячных.

Нічога з гэтага вы не прачытаеце ў кнізе Тані Скарынкінай. Яе асноўная каштоўнасць для літаратуры акурат у адарванасці ад любога палітычнага кантэксту. Але напісанае мной, магчыма, дапаможа зразумець, чаму адзін з любімых маіх тэкстаў тут — «Рэстаранная прадчуванне Амерыкі», у якім аўтарка называе Смаргонь дзевяностых «маленькім Чыкага» і фліртуе ў бары з бандытамі. Я тады была школьніцай, не хадзіла па барах, вучыла ангельскую мову, але зусім не дзеля таго, каб зрабіцца валютнай прастытуткай (я цытую клішэ з таго першага, менш сімпатычнага мне міфу пра дзевяностыя). Танін досвед не супадае з маім, але мне блізка тое, што і ў ейным выпадку (з некаторых дэталяў мы можам зразумець, што і для яе гэта былі «галодныя часы») важнейшы з двух міфаў той, які пра свабоду.

***

Таня Скарынкіна піша вершы па-руску і пачуваецца па-свойску ў рускай культуры і літаратуры. І разам з тым яе нельга назваць расійскай пісьменніцай, бо на рускамоўную адукацыю накладаецца заходнебеларускае паходжанне і ўвесь той кантынентальны посткаланіялізм, пра які піша Томпсан. Нельга звесці кнігу Тані Скарынкінай да настальгіі па Савецкай імперыі, як і Смаргонь нельга параўноўваць з адпаведнымі па велічыні гарадамі ў расійскай частцы былога СССР. Гэта старажытны беларускі горад, які меў самакіраванне ў часы Вялікага Княства Літоўскага, быў адным з цэнтраў беларускай рэфармацыі і, як і ўсе беларускія гарады, быў адначасова штэтлам — гэта значыць, змяшчаў габрэйскі кагал. У дадатак менавіта са Смаргонню звязаная гісторыя беларускага цыганства. Прынамсі, першае, пра што вам раскажа любы экскурсавод, — гэта «мядзведжая акадэмія». Уся гэтая спадчына таксама фармуе светапогляд Тані Скрынкінай. Хоць для яе гэта пазнейшае напластаванне: чытачы калонак на сайце budzma.org былі сведкамі гэтага спазнання аўтаркай сваёй мінуўшчыны ў рэжыме жывога часу.

Менавіта таму эсэ, у якім аўтарка апісвае сваю вандроўку да Чэслава Мілаша, такое важнае. Адкрыццё асобы і творчасці набеліста Мілаша ў дзевяностыя было для многіх інтэлектуалаў у Беларусі важным сведчаннем таго, што існуе іншае вымярэнне нашай краіны, што мы не «савок», з якім так не хацелася асацыяваць. Прынамсі, што мы не заўсёды былі ім. Сапраўды: пабачыць Мілаша ў тыя часы магло быць для студэнткі супастаўна з тым экстазам, які зазнавалі паненкі ў ЗША, слухаючы «Love me tender...»

Можна было б лічыць гэтую фанацкую паездку дзівацтвам, якое добра характарызуе аўтарку, але я ведаю прынамсі яшчэ адзін выпадак з нашай прасторы. Калі літоўскі паэт Эўгеніюс Алішанка быў у 1995 годзе ў ЗША, ён узяў машыну і з Аёвы, дзе знаходзіўся на літаратурнай стыпендыі, праз паўкантынента паехаў у Каліфорнію, дзе тады жыў Мілаш. Сустрэўся і гаварыў з ім.

Але Таніна гісторыя ўсё-ткі больш феерычная. І, нягледзячы на тое, што ў ёй апісаная дакументальная праўда, мне падабаецца сюррэалістычны антураж, у якім Чэслаў Мілаш спачатку параўноўваецца з Элвісам Прэслі, а ў выніку ўвогуле падмяняецца аўтаркай на Кшыштафа Занусі. Можа быць таму, што я ў свой час таксама была «групіз» тых жа асобаў. Я ў доме Мілаша ў Кракаве нават пабывала, але праз колькі гадоў пасля смерці гаспадара, калі кватэра стала мемарыяльнай. А на згаданую сустрэчу з Занусі не трапіла, бо традыцыйна для сябе спазнілася...

***

Мне і таму майму атачэнню, з якім я сінхранізуюся ў Беларусі, цяжка чытаць «Час сэканд хэнд» набеліскі і нашай зямлячкі Святланы Алексіевіч. Найперш — па той жа прычыне, у якой мы сінхранізуемся з усім светам. Гэта вельмі цяжкае чытво. У запісаных аўтаркай гутарках — шмат гора і страшных падрабязнасцяў пра часы СССР ад тых, хто пажыў у гэтай вялікай імперыі.

Другую прычыну цяжэй патлумачыць. Праблема, відаць, у тым, што мы вельмі ўважліва шукаем у гэтай кнізе сябе, але чамусьці не знаходзім. Бо, паводле азначэння, мы — таксама чырвоныя людзі. Мы нарадзіліся або нават выраслі ў СССР (каму як «пашанцавала»), і таму феномен «чырвонага чалавека» мусіць быць і пра нас таксама. Але мы не знаходзім там сябе. Дакладней, не знаходзім хоць нейкай часткі досведу, якая супадае з нашым. Часам мы спрабуем патлумачыць сваю пазіцыю, але адразу ж разумеем, што ўсё гэта гучыць непераканаўча, бо мы і самі яшчэ не да канца ўсвядомілі, адрэфлексавалі сваё мінулае і пагатоў сваю сучаснасць. І калі мы ніякавеем і ў выніку здаемся, на выручку прыходзяць стэрэатыпы.

У гурта «Ундэрвуд» (гэта інды-гурт, які спявае песні на рускай мове, два фронтмэны якога — украінцы, што выраслі ў крымскім Севастопалі), ёсць песня «Очень хочется в Советский Союз». Мне яна не падабаецца. Гэта вельмі шчырая песня, якая ціснe на вельмі чуллівыя спружыны маёй настальгіі. У ёй спяваецца пра тое, што апроч атамнай зброі ў нас былі кранальныя героі мультфільмаў кшталту Вожыка ў Тумане ці Чабурашкі. Але інтэрпрэтацыя гэтай песні ў сённяшніх 20–30-цігадовых беларусаў часам стварае ўражанне, што Чабурашка неяк апраўдвае існаванне ГУЛАГу. Вось жа, на маю думку — ніяк не апраўдвае. З іншага боку, цалкам магчыма, любоў да гэтай песні сярод моладзі — рэакцыя на тое, як успрымаюць выхадцаў з СССР у свеце, нейкая змова ўсіх, хто пачуваецца паддоследнымі трусікамі «саветолагаў». Трапляючы ў заходнія краіны — на пэўны час або назаўсёды — беларусы нязменна атрымліваюць цэтлік «чырвонага чалавека» і па-рознаму рэагуюць на яго. Некаторыя спрабуюць не ствараць людзям нязручнасцяў і адпавядаць гэтаму цэтліку, некаторыя з усіх сілаў імкнуцца яго абвергнуць. Так ці іначай, калі сёлета ў Мінску гурт «Ундэрвуд» праспяваў сваю песню пра Чабурашку і Савецкі Саюз, у клубе гучалі асаблівыя воплескі. Гэта былі воплескі ўдзячныя і нейкія змоўніцкія.

На дэбютнай кнізе вершаў Тані Скарынкінай выяўлены чырвоны фламінга. Сябры падарылі Тані швэдар з падобным фламінга, і ў год выхаду кнігі яна чытала вершы толькі ў ім. Для мяне кніга эсэістыкі Тані Скарынкінай — гэта нешта накшталт таго, што спяваецца ў той песні пра Чабурашку, з той розніцай, што напісанае Таняй ніяк не адмаўляе ГУЛАГу, а ў нейкай ступені нават тлумачыць яго. Чырвоны фламінга — гэты patronus Скарынкінай для мяне, — тая блізкая, адпаведная мне інкарнацыя «чырвонага чалавека», якую я дагэтуль шукала і не знаходзіла.

Чытач вольны шукаць (і знаходзіць!) у кнізе Тані Скарынкінай звычныя яму стэрэатыпы пра жанчын з Усходняй Еўропы або ўспрыняць яе як акно без фіранак, якое аднойчы ў навагоднюю ноч пабачыла па дарозе дадому Таня.

**Марыя Мартысевіч**

# Амерыканцы і паэзія

**Жыхары Злучаных Штатаў Амерыкі пачалі менш чытаць раманаў, а больш — паэзію. Такую выснову зрабілі ў «National Endowment for the Arts», правёўшы новае даследаванне.**

Яно выявіла, што цікавасць да мастацтва ў ЗША расце, але ўсё роўна застаецца ніжэй за ўзровень 2002 года.

У аглядзе тэндэнцый літаратурнага чытання паведамляецца, што працэнт дарослых амерыканцаў, якія чытаюць раманы ці апавяданні, за апошнія 5 гадоў знізіўся з 45,2% у 2012 годзе да 41,8% у 2017-м, а чытанне вершаў павялічылася за той жа перыяд ледзь не ўдвая: з 6,7% да 11,7%.

Магчыма, нядаўні бум высакаякасных тэлевізійных серыялаў задаволіў «смагу» некаторых амерыканцаў да доўгіх гісторый і складаных персанажаў. Магчыма, у гэтую мітуслівую эру сканцэнтраванныя радасці чытання вершаў лепш падышлі да абмежаванага свабоднага часу гараджаніна.

Чытанне паэзіі, якое не патрабуе вялікіх адрэзкаў часу, з'яўляецца адной з нямногіх формаў мастацтва, «удзел у якіх» дасягнуў узроўню 2002 года. Сёлета больш за 12% грамадзян ЗША паведамілі пра чытанне вершаў, а 11,7% рабілі гэта ў 2017-м.

# Муракамі і альтэрнатыўная Нобелеўка

**Паводле паведамлення агенцтва «Kyodo», вядомы японскі літаратар Харукі Муракамі абвясціў, што адмаўляецца ад намінацыі на альтэрнатыўную Нобелеўскую прэмію па літаратуры, паколькі хоча пазбегнуць залішняй увагі СМІ да сваёй асобы ў сувязі з тым, што мае намер сканцэнтравацца на напісанні новага рамана.**

Пра гэтае сваё рашэнне ён асабіста паведаміў кіраўніцтву Новай Акадэміі, якая ў канцы мінулага месяца прыняла рашэнне аб прысваенні новай узнагароды.

У short-list альтэрнатыўнай Нобелеўскай прэміі са спісу, які складаецца з 47 намінантаў з розных краін свету, увайшлі чатыры фіналісты. У гэтай чацвёрцы, акрамя Муракамі, былі названыя французская пісьменніца з Гвадэлупы Марыз Кандэ, брытанскі пісьменнік-фантаст, які пражывае ў ЗША, Ніл Гейман і канадская пісьменніца в'етнамскага паходжання Кім Тхуі.

Новая Акадэмія заявіла, што «Муракамі адаслаў нам па электроннай пошце паведамленне, дзе сказана, што для яго было вялікім гонарам увайсці ў шорт-ліст. Але Муракамі сказаў, што хоча лепш засяродзіцца на сваёй творчасці, далей ад увагі сродкаў масавай інфармацыі... Новая Акадэмія выказвае шкадаванне, але паважае яго рашэнне».

# «Шнобелеўскія прэмія»

**У тэатры Сандэрса Гарвардскага ўніверсітэта адбылася 28-я штогадовая цырымонія ўручэння прэміі «Ig Nobel Prizes», якую таксама называюць «Шнобелеўскія прэмія».**

Узнагароду, якую арганізуе сатырычны «Часопіс неправяраемых вынікаў» («Annals of Improbable Research»), уручаюць у 10-ці намінацыях. У тым ліку і ў «галіне літаратуры».

У гэтым сезоне яе ўручылі камандзе даследчыкаў — Рафаэлю Гомесу (Эль-Сальвадор), Весна Паповіч (Вялікабрытанія) і М. Хэлен Томпсан (Вялікабрытанія) — з Квінслендскага тэхналагічнага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам Альтэі Л. Блэклер (Аўстралія), якая апублікавала абсалютна сур'ёзны навуковы артыкул у акадэмічным часопісе «Interacting with Computers», дзе разглядалася пытанне: чаму людзі не любяць чытаць інструкцыі да сучасных прыбораў?

Апытанне ахапіла каля 200 чалавек, і аўтары даследавання змаглі высветліць, што інструкцыі не чытаюць большасць людзей, і таму не выкарыстоўваюць усе магчымасці тавараў. Прычым мужчыны чытаюць інструкцыі часцей за жанчын, а менш за ўсіх іх чытае моладзь. Што і знайшло сваё адлюстраванне ў вядомай абрэвіятуры RTFM («Чытай гэты кляты мануал»).

Нягледзячы на жартоўную абстаноўку, «Шнобелеўская прэмія», дэвіз якой абвяшчае: «Дасягненні, якія прымушаюць смяяцца, а потым задумацца», карыстаецца ўстойлівай рэпутацыяй. Напрыклад, на яе цырымонію з задавальненнем прыходзяць лаўрэаты і сапраўднай Нобелеўскай прэміі.

**У падрыхтоўцы матэрыялаў старонкі выкарыстана інфармацыя «The Guardian», novostiliteratury.ru і Newsru.ua.**

# Ўільям Шэкспір і юрыспрудэнцыя

**«The Guardian» паведаміла пра нядаўна знойдзеныя ў Нацыянальным архіве Вялікабрытаніі дакументы, якія сведчаць, што бацьку драматурга Ўільяма Шэкспіра — прадпрымальніка Джона Шэкспіра — пераследавала Брытанская карона, што, магчыма, паўплывала на стаўленне ягонага сына да ўлады і кіруючага класа.**



Больш за дваццаць гадоў раней невядомых дакументаў былі знойдзены прафесарам Глінам Пэры з Універсітэта Роэхмптона і, па словах кіраўніка аддзела ранніх і сучасных запісаў Нацыянальнага архіва доктара Кэці Май, з'яўляюцца «гранічна важнымі» для нашага разумення драматурга.

Са знойдзеных дакументаў вынікае, што ў бацькі Шэкспіра вымагалі грошы на карысць казны. Падзеі, якія, як мяркуюць навукоўцы, сфармавалі стаўленне падлетка Шэкспіра да ўлады і маральнасці, пазней былі адлюстраваныя ў п'есах ад «Караля Ліра» да «Макбета».

Вядома, што хрышчэнне Ўільяма Шэкспіра,як запісана ў адпаведных кнігах, адбылося ў красавіку 1564 года, а яго шлюб — у снежні 1582-га; далейшыя падрабязнасці ранняга жыцця драматурга «запазычваліся» з запісаў аб кар'еры яго бацькі Джона Шэкспіра з раней выяўленых рукапісаў, якія сведчаць аб тым, што ў перыяд з 1569 па 1572 гады Джона абвінавацілі ў незаконным ліхвярстве і вымагальніцтве грошай прафесійныя інфарматары. Навукоўцы выказалі здагадку, што справы былі ўрэгуляваны па-за судом да 1573 года, але нядаўна знойдзеныя дакументы паказваюць, што Джон, чые напрамкі работы распасціраліся ад гарбарнага вытворцы да старэйшыны, магістра і вышэй, заставаўся ў фінансавых і прававых непрыемнасцях да 1583 года, калі Ўільяму было 19 гадоў.

Г. Пэры, які разам з суаўтарам піша кнігу пра жыццё Шэкспіра аж да 1592 года, прызнаўся, што, пакуль ён не пачаў «капацца» ў Нацыянальных архівах, 150 гадоў папярэдніх даследаванняў далі менш за 15 дакументаў, якія тычацца Джона Шэкспіра. Ён быў «незадаволены» гісторыяй пра тое, што Джон дазволіў абвінаваціць сябе ў ліхвярстве і вымагальніцтве ў судзе прыкладна ў 1573 годзе, таму пачаў разбіраць дакументы Нацыянальнага архіва. Ён заказваў скрынкі дакументаў з саляных шахтаў у Чашыры, дзе захоўваюцца малаўжываныя дакументы, і пачаў разбіраць з даручэннямі для Ўорыкшыра, пачынаючы з датаў судовых спраў Джона Шэкспіра. Сярод дакументаў, знойдзеных Пэры, ёсць некалькі лістоў супраць Джона Шэкспіра, дзе запісаны яго даўгі перад Каронай, у тым ліку 132 фунтаў стэрлінгаў, што складаюць каля 20 тысяч цяперашніх фунтаў стэрлінгаў. Дакументы паказваюць, як уласнасць прадпрымальніка была пад пагрозай захопу Каронай, што перашкаджала ягонай дзейнасці; і падобнае працягвалася да 1583 года.

Вучоны кажа, што ў яго «няма сумневаў», што ў Нацыянальным архіве ёсць больш матэрыялаў пра Шэкспіра, многія з якіх не ўнесены ў падрабязныя каталогі, спісы ці індэксы, і ён мае намер працягваць пошукі.

Высновы Г. Пэры будуць уключаны ў Шэкспіраўскую дакументацыю і онлайн-зборнік матэрыялаў з першакрыніцамі пра жыццё Ўільяма Шэкспіра.

# Прэмія Ібсэна

**У сталіцы Нарвегіі Осла скончыўся Ібсэнаўскі тэатральны фестываль, мэтай якога з'яўляецца «ажыўленне» Ібсэна і «ўпісанне» яго творчасці ў сучасныя рэаліі.**



Новае гучанне п'есам вялікага нарвежскага драматурга надалі рэперы...

На тэатральным форуме ў сёмы раз адбылося ўручэнне Міжнароднай прэміі Генрыка Ібсэна, заснаванай у 2006 годзе. Гэтая прэмія ў тэатральным свеце вельмі прэстыжная і значыцца на ўзроўні Нобелеўскай. У той жа час гэта і самая буйная ўзнагарода з усіх тэатральных: яе грашовы складнік дасягае 2,5 мільёнаў нарвежскіх крон, гэта значыцца — каля 260 тысяч еўра.

Падчас фестывалю нарвежскі National Theatret і тэатры, якія прыехалі на форум з розных краін, прадэманстравалі пастаноўкі п'ес Генрыка Ібсэна ў сучаснай інтэрпрэтацыі. Незвычайныя сучасныя версіі знакамітай на ўвесь свет п'есы «Пэр Гюнт» прадставілі зорны нямецкі рэжысёр Міхаэль Тальхаймэр і французскі рэжысёр і кіраўнік тэатра Дэвід Бобэ, які ператварыў асноўную сцэну нарвежскага Нацыянальнага тэатра ў закінуты парк забавак з руінамі амерыканскіх горак і застылым «чортавым» колам.

Афіцыйная цырымонія ўзнагароджання праходзіла на галоўнай сцэне згаданага Нацыянальнага тэатра. Прэмію атрымаў Крыстаф Марталер. Журы, у складзе якога Пэр Бой Хансэн, Ханнэ Томта, Сафія Юпіт, Стэфан Браўншвэйг, Раман Далжанскі і Томас Оберэндэр, адзначыла: «Свет Марталера паэтычны, але заняты <...> Уручэнне прэміі Ібсэна Крыстафу Марталеру ўшаноўвае яго непаўторную тэатральную мову, яго здольнасць да фармальнай абстракцыі і эксперыментальных пастановак».

Крыстаф Марталер, калі атрымліваў статуэтку Ібсэна з рук старшыні журы Пэра Бойя Хансэна, прызнаўся, што ніколі не ставіў п'ес нарвежскага класіка, аднак драматург нябачна прысутнічае на яго рэпетыцыях...

# Пагаварыць з Львом Талстым...

**У мінулым верасні адзначалася 190-годдзе вялікага рускага пісьменніка Льва Талстога.**

Да юбілею аўтара сусветна вядомых «Ганны Карэнінай» і «Вайны і міру» кампаніяй «Яндэкс» і адукацыйным праектам «Arzamas» быў падрыхтаваны падарунак.

Цяпер галасавы памочнік «Аліса» можа навучыцца новаму навыку: «Леў Талстой адказжа», які дазволіць размаўляць цытатамі вялікага класіка.

У рэкламным ролiку да гэтай распрацоўкі галасавому памочніку «Яндэкса» «Алісе» было зададзена пытанне: «У чым сэнс жыцця?». Яна адказала цытатай з аповесці «Смерць Івана Ільіча», над якой Леў Талстой працаваў з 1882 па 1886 год: «Пазбавіць іх і самому пазбавіцца ад гэтых пакут».

Новы навык галасавога памочніка можна актываваць у любым прадукце «Яндэкса», дзе ўбудаваная «Аліса» і дзе даступна ўвядзенне тэкста: у браўзэры, «Алісе» для Windows і т. д. Як піша распрацоўшчык, адукацыйны праект «Arzamas», каб скарыстацца навінкай, трэба агучыць (задаць) «Алісе» адну з каманд: «Запусці чат з Львом Талстым» або «Леў Талстой адказжа».

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

На пытанне пра тое, навошта мне ўсё гэта, я і сам не заўсёды магу адказаць. Асабліва ў камеры, у якой мазгі твае прабіла крызам, і ты ляжыш нерухома, а па табе поўзаюць турэмныя вошы. Але калі ўсё ж падымаешся, вяртаецца разуменне, дзеля чаго. Ну хоць бы дзеля гэтага: «Другие по живому следу Пройдут твой путь за пядью пядь...»

Шлях змагання за Беларусь калі і пройдзены намі, дык хіба да сярэдзіны. Наперадзе вялікія выпрабаванні. Значна большыя за тыя, якія напаткалі нас на пераломе XX і XXI стагоддзяў. Распадаецца імперыя, і камяні, якія выпадаюць з яе сцен, проста не могуць не падаць на нашу зямлю. Каб гэтага не палохацца, каб са шляху не звярнуць, трэба, каб увесь час нехта на ім быў.

Мяне на ім, можа быць, і не было б, калі б не папярэднікі. І не толькі тыя, хто быў знішчаны на беларускім шляху ў Курапатах, у ГУЛАГу, але і тыя, каму даўся гэты шлях меншым коштам. Мае старэйшыя сучаснікі і старэйшыя сябры Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін... Для мяне яны дасюль жывыя, дасюль ідуць гэтым шляхам, крочаць наўпрост — і, азіраючыся на іх, я не магу збочыць. Не кажучы ўжо пра тое, што гэтага не дазваляюць зрабіць Багушэвіч, Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны...

***— Калі ўжо вы згадалі папярэднікаў, дык што з вашым раманам пра Янку Купалу? Ведаю, што вы аддавалі яго ў друк, а пасля перадумалі публікаваць. Чаму?***

— Так, я аддаў раман у рэдакцыю часопіса «Дзеяслоў», дзе тэкст падрыхтавалі да друку, але...

Ведаеш, такое бывае. Гэтак змучае нейкі твор, што не ведаеш, як ад яго пазбавіцца. А як пазбавіцца? Надрукаваць. Перарэзаць, каб сокі не цягнуў, пупавіну. Вось я і разануў па-жывому...

Толькі нічога не выйшла, раман мяне не адпусціў. Тады я даслаў яго ў рэдакцыю яшчэ раз, змяніўшы кампазіцыю. І з рэдакцыі адказалі, што гатовыя перанесці публікацыю, бо такі варыянт рамана на іх думку лепшы.

На маю таксама. Але змена кампазіцыі — гэта разрыў шмат якіх сюжэтных ліній, перавязванне вузлоў. Кампазіцыя — не толькі форма, яна яшчэ і змест. І ўсё ў рамане пачало трашчаць, як расійскія духоўныя скрэпы. Вось падганяю адну да адной. Спадзяюся справіцца.

З Купалам у мяне, дарэчы, праз усё жыццё складаныя адносіны. Думаў: напішу раман — прасцей стануць. Не. Наадварот.

***— А якія ў вас адносіны з сучаснымі нашымі літаратарамі? У якой ступені вас цікавіць тое, што адбываецца ў беларускім літаратурным, а правільней было б сказаць — калялітаратурным свеце? Калі прыгадаць апошнія падзеі, дык прэмія імя Наталлі Арсенневай Разанаву, «Гедройць» Арлова і другое месца ў гэтым жа «спаборніцтве» Бахарэвіча, чарга ў «Акадэмкнізе» за новым раманам Марціновіча... Вы чытаеце ўсіх, не зважаючы на ўзаемаадносіны?***

— Ва ўсёй беларускай літаратуры, пачынаючы ад старажытнай, ёсць два чалавекі, якіх я не чытаю. Адзін з іх напісаў данос, праз які ўзніклі праблемы не толькі ў мяне — ва ўсім літаратурным асяродку. Развіццём гэтых праблем сталі (калі вынесці за дужкі асабістае, менш істотнае) рэпрэсіі ў адносінах да Саюза беларускіх пісьменнікаў і стварэнне праўладнай пісьменніцкай канторы.

Другі з іх, аднойчы пастукаўшыся ў дзверы майго кабінета, у якім я сядзеў у той час не надта вялікім, але ўсё ж начальнікам, прапанаваў мне свае паслугі сексота. Мауляў, вам жа трэба ведаць, хто і што пра вас кажа, што і хто супраць вас прыдумляе, дык вось я гатовы даносіць.

Паколькі ў мяне ідыясінкразія да таго, чым пахнуць сексоты, гэтыя двое перасталі быць для мяне літаратарамі, і я не цікаўлюся ні тым, як яны жывуць, ні тым, што яны пішуць.

Што да ўсіх астатніх: я рады, што яны ёсць. Што выраслі ўжо два пакаленні і стала на крыло пакаленне трэцяе маладзейшых за мяне літаратараў. І мяне не раздражняюць іх спробы сцвердзіць сябе найпершымі, мне не замінае ні эгацэнтрызм, ні эпатажнасць некага з іх. Яно ж не сёння пачалося. Скажам, Іван Мележ мог зацікаўлена размаўляць толькі пра сябе, Іван Чыгрынаў — толькі пра «Плач перапёлкі». Але ж і напісаў гэты «Плач», які ў свой час стаў літаратурнай з'явай, не хтосьці іншы, а Чыгрынаў. Як не хтосьці, а Мележ, напісаў «Людзей на балоце». Усё гэта разам узятае, творы і творцы з іх характарамі, крыўдамі, амбіцыямі — жывыя выявы жывога літаратурнага жыцця, і лепей, калі яны ёсць, чым калі іх няма.



Уладзімір Някляеў чытае вершы на стадыёне




З Яўгенам Еўтушэнкам у Політэхнічным музеі. Масква, 2011 г.

***— Хачу спытаць яшчэ ў звязку і з вышэй названымі прэміямі, вакол якіх кожнага разу столькі размоў, і з Барысам Пастарнакам, з ягоным згаданым ужо «Быть знаменитым некрасиво...». Васіль Быкаў, атрымаўшы званне народнага пісьменніка, казаў у часе гутаркі з Віктарам Дашуком, што славы хочацца ў маладосці, а калі яна прыходзіць у сталыя гады, дык навошта яна тады? А як вы адносіцеся да славы? Да прэмій, да ўзнагарод? Наколькі важна для вас быць знакамітым?***

— Некалі было важна. Цяпер не. І не праз узрост. Праз змены ў адносінах з тэкстамі, у разуменні, а дакладней, у адчуванні таго, дзеля чаго стварэннем іх я праз усё жыццё займаюся.

За савецкім часам я ўявіць не мог, што мае вершы не будуць слухаць тысячы людзей, і тысячы людзей не будуць іх чытаць. Ува мне няма настальгіі па СССР, але настальгія па тым часе, калі ўся прастора ад Японскага мора да ракі Заходні Буг была літаратурнымі падмосткамі, ёсць. Такой маштабнай культурнай з'явы, гэтакай эпідэміі паэзіі ніколі не было нідзе ў свеце. Можна спрачацца пра тое, якой якасці была тая паэзія, але яна была, і далучаным да яе давала неверагодныя адчуванні. Гэта нават не адчуванне славы, нешта большае. Адчуванне ўсёмагутнасці. Усёмагутнасці паэзіі. Усёмагутнасці паэта. Таму абвал тых літаратурных падмосткаў здаўся катастрофай.

Прамінулі гады. Настальгія слабела, наступствы катастрофы не ўяўляліся ўжо такімі трагічнымі. І нарэшце я адчуў — гэта было ў Варшаве, калі пісалася паэма «Паланэз», — што мне зусім, ну абсалютна ўсё адно, ці надрукуецца паэма, ці будуць яе чытаць. Я пісаў яе для самога сябе — больш ні для каго. Хіба яшчэ... як бы гэта дакладней сказаць... дзеля самой яе. Ну, каб яна проста з'явілася ў Божым свеце. І з'яўленне яе было ўзнагародай, якой не вартыя ніякія іншыя.

Як зараз кажуць: неяк вось так. Ці як сказаў Гётэ (калі верыць Экерману): «Няма такога мінулага, пра якое варта было б сумаваць».

***— Пра гэта ў вас у «Знаках прыпынку» іначай: «Вяртаючыся ў мінулае, шкадуеш пра няздзейсненае. Больш там няма чаго рабіць. Пасля ўсім расказваеш, нібы ні пра што ў мінулым не шкадуеш».***

***А між іншым, чыя ўсё ж кніга з чатырох вышэй прыгаданых літаратараў вам найбольш спадабалася: Уладзіміра Арлова, Альгерда Бахарэвіча, Віктара Марціновіча ці Алеся Разанава?***

— Сяргея Шапрана. Бо чатыры астатнія не пра мяне.



Вершы ў філармоніі



60 гадоў у Крэўскім замку

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЭКС-СССР. Як дачы сталі фазэндамі

Калі сярод вашых знаёмых ёсць кабета з імем Ізаўра — яе ўзрост вызначыць нескладана: смела давайце ёй 30 гадоў. Менавіта 30 гадоў таму, 16 кастрычніка 1988 года, савецкае тэлебачанне пачало паказваць бразільскі серыял «Рабыня Ізаўра», і шматлікія нованароджаныя дзяўчынкі называліся ў гонар галоўнай гераіні. Усё з-за шалёнай папулярнасці мыльнай оперы. Падчас эфіру пусцелі вуліцы і крамы — прадавачкі замест працы з заміраннем сэрца сачылі за перыпетыямі лёсу Ізаўры, а на платах можна было ўбачыць графіці «Свабоду Ізаўры». Нарэшце пасля паказу фільма ў Савецкім Саюзе ва ўжыванне ўвайшло слова «фазэнда» як іранічная назва загарадных дачных участкаў. Зрэшты, венгры і палякі пайшлі яшчэ далей: яны пачалі збіраць грошы, каб выкупіць гераіню з прыгону. На Кубе змяняўся расклад транспарту, каб гледачы маглі пабачыць новую серыю любімага серыялу, а ў Сербіі падчас трансляцыі спыняліся баявыя дзеянні. Каментуючы юбілей «Рабыні Ізаўры», культуролагі пішуць, што яна прышчапіла нашаму гледачу густ да бясконцых гісторый пра каханне, пакуты і сямейныя таямніцы. А па ходзе наступу нестабільных рынкавых рэалій прагляд чарговай серыі любімага серыялу стаў шмат для каго допінгам, які дапамагаў не страціць тонус і сэнс жыцця.

**Паводле расійскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Разбурыць гаўбец Гітлера

Група жыхароў Вены стварыла ініцыятыву за дэканструкцыю гаўбца на будынку гарадской мэрыі. Усё таму, што менавіта з гэтага гаўбца 9 красавіка 1938 года Гітлер зрабіў прамову, у якой абвясціў пра ўваходжанне Аўстрыі ў склад Германіі. Просьбу пра дэмантаж гаўбца ініцыятары аргументуюць перш за ўсё тым, што ён не быў часткай першапачатковага дызайну ратушы. Яго давялося пабудаваць спецыяльна — выключна для выступу Гітлера. Пасля на той выпадак забыліся, і гаўбец застаўся часткай аб'екта. Успомнілі пра яго толькі дзякуючы хуткаму стагоддзю абвяшчэння Аўстрыйскай рэспублікі. Многія важныя падзеі сто гадоў таму адбываліся менавіта ў сталічнай ратушы, якая, як лічаць некаторыя, павінна выглядаць гэтак жа, як у лістападзе 1918-га. Праўда, у ідэі дэмантажу гаўбца тут жа знайшоўся апанент — мясцовая багема. Яна прапануе пераўтварыць «гітлераўскі» гаўбец у нейкую стыхійную артыстычную сцэну. Свабодныя выступы артыстаў на «гітлераўскім» гаўбцы, на думку багемы, будуць лепшым ударам па спадчыне нацысцкай дыктатуры. Не кажучы пра тое, што Вена атрымае новы турыстычны атракцыён.

**Паводле французскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Выключыць краіну з ЕС

Як вядома, у Сярэднявеччы Іспанія вельмі доўга змагалася са сваімі бунтуючымі правінцыямі ў Фландрыі і Галандыі. Зараз гісторыя паўтараецца. Паміж Фландрыяй (пяць паўночных правінцый Бельгіі, дзе гавораць на нідэрландскай мове) і Мадрыдам разгараецца скандал з непрадказальнымі наступствамі. Фландрыя, якая марыць пра незалежнасць, адкрыта падтрымлівае незалежніцкія аспірацыі Каталоніі, што ў выніку прывяло да адкрытага канфлікту з Іспаніяй. Спачатку іспанскае МЗС папрасіла з Мадрыда прадстаўніка Фландрыі. У адказ фламандскі рэгіянальны парламент падтрымаў рэзалюцыю салідарнасці з каталонскімі нацыяналістамі. Аднак самае цікавае — наперадзе. Бельгія — фактычна федэрацыя, дзе цэнтральны ўрад вельмі залежыць ад настрояў у рэгіёнах. Таму фламандцы пачалі атакаваць Брусэль з патрабаваннем абвясціць іспанскага пасла персонай нон-грата. Але, магчыма, і гэтага фламандцам будзе мала. Раней адзін з лідараў Фландрыі заявіў: сваімі дзеяннямі ў Каталоніі Іспанія прадэманстравала, што не адпавядае крытэрам краіны — сябра Еўрасаюза.

**Паводле бельгійскай прэсы**

### РАСІЯ. Невядомая аўтакефалія

Пакуль частка ўкраінскіх праваслаўных марыць атрымаць аўтакефалію, нечакана ўсплыў цікавы гістарычны факт. Высвятляецца, што ў 1920-я гады правінцыйная Чувашыя здолела дамагчыся статусу аўтакефаліі ад Масквы. Чувашская аўтакефальная нацыянальная праваслаўная царква, створаная на аснове чувашскіх нацыянальных парафій, была зарэгістравана ў дзяржаўных органах 7 жніўня 1924 года. Ініцыятарам і арганізатарам гэтага працэсу стаў протаіерэй Васіль Красноў, які скарыстаўся спрэчкамі ў асяроддзі расійскага праваслаўя. У барацьбе з царкоўнымі апанентамі бальшавікі дазволілі Красному стварыць цалкам незалежную ад Масквы царкву. Праўда, эксперымент працягваўся нядоўга. Прыкладна ў 1930 годзе Чувашская аўтакефальная царква спыніла сваё існаванне, а яе структуры зноў сталі падпарадкоўвацца Маскве. Застаецца дадаць, што прадстаўніцтва РПЦ у Чувашыі было павышанае ў статусе да мітраполіі ў кастрычніку 2012 года.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.nash-dvor.livejournal.com

# Размаўляйце з чалавечым акцэнтам!

Алег НОВІКАЎ

**Партыя французскага прэзідэнта патрабуе замацаваць у заканадаўстве права грамадзян размаўляць на мясцовых дыялектах і, адпаведна, з моцным акцэнтам.**

Роўна дзесяць гадоў таму, у 2008-м, уся Францыя літаральна смяялася дзякуючы камедыі «Bienvenue chez les Ch'tis» (у рускамоўным перакладзе яе паказвалі пад назвай «Бобро поржаловать!»). Стужка распавядае пра прыгоды кіраўніка паштовай службы, якога адпраўляюць працаваць з лагоднага поўдня краіны на самую французскую яе поўнач, у Пікардыю. На новым месцы яму даводзіцца пераадолець шмат стэрэатыпаў наконт поўначы, у тым ліку наконт гаворкі мясцовых жыхароў. Намагаючыся зразумець дыялект тутэйшых, герой трапляе ў шмат камедыйных сітуацый.

Тады тэма мясцовых акцэнтаў выклікала ў грамадстве выключна смех. Праз дзесяць гадоў яна стала тэмай бескампраміснай палітычнай барацьбы.

Усё пачалося пасля скандальнай прэс-канферэнцыі Жана-Люка Меланшона, лідара левага руху France insoumise («Мяцежная Францыя»). У час мерапрыемства, якое адбылося 17 кастрычніка, палітык, на думку шмат каго, выйшаў за межы палітэсу: пажартаваў з тулузскай журналісткі, якая задала пытанне з вельмі выразным паўднёвым акцэнтам. «Вы кажаце невядома што. Нехта тут можа паставіць мне пытанне па-французску?» — цытуе прэса словы лідара France insoumise, якія адразу разляцеліся па сацыяльных сетках і выклікалі гарачую палеміку.

Тое, што французы так актыўна рэагуюць на згаданую тэму, можна патлумачыць велізарнай колькасцю дыялектаў і, адпаведна, акцэнтаў у Францыі. Французскую мову па адзіным стандарце пачалі выкладаць толькі напрыканцы XIX стагоддзя. Аднак і дасюль татальнай асіміляцыі мясцовых гаворак няма. Цяпер спецыялісты налічваюць у краіне чатыры моцныя акцэнты — паўночны, парыжскі, ліёнскі і паўднёвы. Аднак кожны з іх мае свае варыяцыі. Напрыклад, гукавыя асаблівасці мовы звычайнага парыжаніна фармуюцца за кошт яго прафесіі, сацыяльнага статусу і геаграфіі пражывання.

Некаторыя лічаць праблему дыялектаў і акцэнтаў цалкам штучнай. Вялікая колькасць правінцыйных артыстаў або палітыкаў з моцным акцэнтам спакойна рабілі сабе кар'еры ў Парыжы. У якасці прыкладу можна ўзгадаць славутага артыста Фернандэля, якому была ўласцівая моцная марсельская гаворка. Акрамя таго, анархія ў гэтай сферы, мяўляў, знішчыць канон французскай мовы, на якім размаўляюць у Парыжы і сталічным рэгіёне.

Алею ў агонь, між тым, падлілі палітычныя праціўнікі Меланшона. Лаетыта Авія, дэпутатка ад прапрэзідэнцкай партыі «Рэспубліка на маршы» (LREM), абвясціла пра намер ініцыяваць закон супраць лінгвістычнай дыскрымінацыі, якая на мове спецыялістаў называецца «glottophobie». «Ці гаворым мы горш па-французску, калі гаворым з акцэнтам? Ці абавязаныя мы пры гэтым трываць зняважлівасць, калі не валодаем стандартнай інтанацыяй? Нашы акцэнты — частка нашай ідэнтычнасці», — растлумачыла дэпутатка ідэю ў сваім Твітары.

Прапанову сустрэлі па-рознаму. Некаторыя лічаць, што партыя ўлады з тэмай акцэнтаў трапіла ў пастку. Меланшон, мяўляў, свядома жартаваў з тулузскай журналісткі. Ён, нібыта, спрабуе працаваць у жанры левага папулізму. І ў тым ліку таму свядома або несвядома спрабуе капіяваць стыль Трампа, які, дзякуючы скандалам, увесь час прысутнічаў у медыяполі, павялічваючы свой палітычны капітал. Сапраўды, папулярнасць Меланшона дастаткова высокая.

Некаторыя інтэлектуалы лічаць, што ініцыятыва дэпутаткі, хутчэй, дыскрэдытуе партыю Макрона. Тэма мясцовых гаворак і акцэнтаў вельмі часта звязаная з жартамі і анекдотамі. Усур'ёз казаць пра праблему дыялектаў і акцэнтаў азначае прызнацца ў адсутнасці пачуцця гумару. Дарэчы, некаторыя праўладныя медыя ўжо заявілі, што Лаетыта Авія пажартавала наконт законапраекту пра «glottophobie».

А вось шматлікія аматары французскай мовы кажуць, што галоўныя ахвяры «glottophobie» — не правінцыялы, а ўсе французы разам. Справа ў тым, што яны ў любым выпадку размаўляюць па-англійску з выразным акцэнтам. Праз такую арыгінальную англійскую французам заблакаваныя кар'ерныя ліфты ў міжнародных органах і карпарацыях, дзе пануе мова Шэкспіра. Франкафоны заклікаюць уладу абвясціць крыжовы паход супраць дамінавання англійскай мовы ў свеце.

Нарэшце, не абышлося без арыгінальных трактовак апошніх падзей. Адзін з актывістаў France insoumise заявіў, што тулузская журналістка намагалася наўмысна справакаваць Меланшона. Калі яму верыць, журналістка на той прэс-канферэнцыі казала не з тулузскім акцэнтам, а з выразным марсельскім. Пры гэтым яна вельмі моцна крыўлялася, каб выклікаць адмоўную рэакцыю ў Меланшона.

Дэбаты наконт акцэнтаў працягваюцца і, напэўна, будуць перманентна ўзмацняцца або слабець — у залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры. Аднак нейкае прамежкавае рэзюмэ ўжо можна зрабіць: матэрыялу для здымкаў фільма «Bienvenue chez les Ch'tis –2» — больш чым трэба.

# Такую дзяржаву разбурылі!

Алег НОВІКАЎ

**Роўна сто гадоў таму пачалася агонія Аўстра-Венгрыі, якая літаральна за пару тыдняў знікла з мапы свету. Між тым, сёння ў Еўропе робіцца ўсё больш тых, хто сумуе па дунайскай манархіі.**

«Няхай жыве імператар Франц-Іосіф Другі!» — заявіў бравы салдат Швейк». Напэўна, гэтая цытата з кнігі Яраслава Гашэка — адзінае, што прыходзіць на памяць, калі ўздымаецца тэма Аўстра-Венгерскай імперыі. Тая дзяржава перастала існаваць напачатку лістапада 1918-га. На яе рэштках імкліва паўсталі такія краіны, як Венгрыя, Чэхаславакія, Аўстрыя, Заходняя Украінская Народная Рэспубліка... Частка аўстра-венгерскіх тэрыторый адышла да Польшчы, Румыніі і будучай Югаславіі.

Падавалася, гісторыя вынесла Аўстра-Венгрыі свой канчатковы вердыкт. Між тым, сёння ў Еўропе ўсё часцей сумуюць па часах Габсбургаў. І гэта не настальгія па часе, калі арыстакраты давалі шыкоўныя балі, а кабеты насілі элегантныя капялюшыкі.

На думку шмат каго, сто гадоў таму была разбураная ўнікальная мадэль міжнацыянальнага сумеснага пражывання. Нагадаем, як выглядаў нацыянальны склад насельніцтва Аўстра-Венгрыі напярэдадні Першай сусветнай вайны: немцы — 23,5%, венгры — 19,1%, чэхі і славакі — 16,5%, сербы і харваты — 10,5%, палякі — 10%, русіны (украінцы) — 8%, румыны — 6,5%, славенцы — 2,5%, іншыя (італьянцы, яўрэі, цыгане) — 3,4%.

Пры тым, хаця краіна Габсбургаў і называлася імперыяй, на самай справе гэта была хутчэй федэрацыя Аўстрыі і Венгрыі. Прадстаўнікам нетытульных нацый дазвалялася вольна выкарыстоўваць сваю мову і развіваць нацыянальную культуру, ствараць нацыянальныя партыі.

Натуральна, абсалютнай гармоніі паміж народамі ў краіне не было. Можна ўзгадаць, як немцы блакавалі спробы чэхаў атрымаць нацыянальную аўтаномію. Тым не менш, факт застаецца фактам — нацыянальны чыннік не стаў асноўнай прычынай дзяржаўнага паралюшу Аўстра-Венгрыі ўвосень 1918-га. Прынамсі, так гаворыць аўтарытэтны амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр. Вядучым дэструктыўным фактарам стала стомленасць насельніцтва і жахнераў ад вайны і выкліканыя той жа вайной эканамічная стагнацыя і праблемы з прадуктамі харчавання.

У сувязі з гэтым некаторыя гісторыкі нават кажуць, што па сутнасці Аўстра-Венгрыя была нейкай лабараторыяй будучай еўрапейскай інтэграцыі. Калі б у 1918 годзе шматнацыянальная імперыя захавалася, сёння працэс будаўніцтва агульнаеўрапейскага дому адбываўся б значна хутчэй. Што тычацца самой Аўстра-Венгрыі, то яна б цяпер выглядала падобнай на Вялікабрытанію — квазіўнітарная канстытуцыйная манархія, якая складаецца з аўтаномных суб'ектаў. Прынамсі такі малюнак прапануе Петр Наэл, старшыня чэшскай манархісцкай арганізацыі Koruna Česká.

У тым, што Аўстра-Венгрыя не стала новай Брытаніяй, вінаватыя, на думку таго ж Наэля, тагачасныя нацыянальныя лідары, што захапіліся ідэямі будаўніцтва асобных дзяржаў. Аднак іх мары заставаліся марамі, пакуль на дапамогу не прыйшла Антанта, якая вуснамі амерыканскага прэзідэнта Вудра Вільсана агучыла канцэпцыю права народаў на самавызначэнне.

Аднак гэта, мяркуюць, яшчэ не самая галоўная памылка Антанты. Канцэпцыя Вільсана надала сакральны характар ідэі незалежнасці ў палітычнай дыскусіі еўрапейскіх народаў. Галоўны адмоўны рэцыдыў гэтай з'явы — упартае нежаданне нацыянальных элітаў пагаджацца на сур'ёзныя інтэграцыйныя праекты ў межах таго ж Еўрасаюзу.

Акрамя таго, джын, якога выпусціў Вільсан, дасюль гуляе на свабодзе. Каталонія, Фландрыя, Шатландыя, Корсіка — няпоўны спіс рэгіёнаў, што патрабуюць суверэнітэту са спасылкай на тэзісы Вільсана ад 1918 года, якія былі датычныя галоўным чынам Аўстра-Венгрыі. Як піша бельгійскае выданне «Standart», фактычна сто гадоў таму пачаўся працэс балканізацыі Еўропы, фіналу якога пакуль нават не бачна.

Праўда, заявы пра тое, што Аўстра-Венгрыя магла стаць правобразам ЕС, падзяляюць далёка не ўсе. Некаторыя гісторыкі лічаць, што працяг існавання Аўстра-Венгрыі хутчэй бы адбіў у еўрапейцаў усе памкненні да інтэграцыі. У Аўстра-Венгрыі назіралася жудасная эканамічная дыспрапорцыя паміж аграрным Поўднем і індустрыяльнай Поўначчу. Маючы перад вачыма аўстра-венгерскі прыклад, у Парыжы або Берліне ніколі б не пайшлі на ўключэнне ў ЕС у свой час беднай Польшчы або Іспаніі.

Самае цікавае, што сёння, праз сто гадоў пасля краху дому Габсбургаў, з'явіліся канкрэтныя падставы казаць пра асцярожнае адраджэнне адзінства народаў былой дунайскай імперыі. Справа ў тым, што ў Будапешце, Празе, Варшаве і ў Вене ва ўладзе зараз правапапулісцкія ўрады, які стала канфліктуюць з Брусэлем. Ідэалагічная блізкасць і разборкі з кіраўніцтвам ЕС штурхаюць іх да кааперацыі, ідэалагічнай платформай якой служыць таксама і імперская спадчына. Праўда, у той жа Вене ў рэабілітацыю Аўстра-Венгрыі не надта вераць. Паводле словаў аднаго з супрацоўнікаў МЗС, гаворка ідзе выключна пра «пераарыентацыю курсу краінаў Сярэдняй Еўропы».



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мзвандзіле Масіна



Мэр акругі Екурхулені, што ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, сябра ўрадавай партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC), анансаваў у сваёй акрузе эксперымент, які выклікаў інтарэс ва ўсім свеце.

На тэрыторыі Екурхулені ў белых грамадзян без кампенсацый будуць канфіскаваныя прыватныя ўчасткі зямлі памерам у 650 гектараў. Паводле словаў Масіны, якога патрымаў гарадскі савет, акцыя дапаможа выправіць гістарычныя памылкі часоў апартэіду і каланіялізму. Увогуле, гарадскі савет прагаласаваў за адмену так званага зямельнага акту ад 1913 года, паводле якога землі абарыгенаў былі аўтаматычна абвешчаныя зямлёй белых каланізатараў. Таму новы дакумент на валоданне зямлёй чыноўнікі сімвалічна перадалі нашчадку караля, у якога сто гадоў таму тую зямлю адабралі.

На самай справе, зямлю плануюць выкарыстаць для вырашэння пытання жылля. Больш за мільён жыхароў Екурхулені жывуць у бараках. Калі «тэст» у Екурхулені будзе паспяховым, вопыт паспрабуюць пашырыць на ўсю краіну. Менавіта гэта абяцаў не так даўно прэзідэнт краіны. Праўда, не выключана, што рашэнне мэрыі — тонкая гульня з электаратам. У кіраўніцтве ANC разумеюць усе патэнцыйныя рызыкі канфіскацыі земляў у белых і намагаюцца прытармазіць працэс. Аднак дзеля рэйтынгаў інтрыгу трэба падтрымліваць.

### Наталля Паклонская



Нейкі час таму на асобе эксцэнтрычнай дэпутаткі расійскай Дзяржлумы з Крыму, сяброўкі фракцыі «Адзіная Расія» амаль усе паставілі крыж.

Яе намеры забараніць прысвечаны Мікалаю II фільм «Матыльда» ўжо не спрыялі іміджу праўладнай партыі. Яшчэ больш, падавалася, маргіналізавала ў вачах Крамля Паклонскую яе крытыка пенсійнай рэформы. Паклонская была адзіным парламентарам ад «мядзведзяў», што галасавала супраць законапраекту. Аднак нечакана яна зноў апынулася ў фаворы. Пайшлі чуткі, нібы Паклонскай могуць прапанаваць ролю лідара адной з партый, якая паўстане на рэштках «Адзінай Расіі».

Лічыцца, што спыніць падзенне папулярнасці АР — следства той самай непапулярнай пенсійнай рэформы, — практычна немагчыма. Пры гэтым закладнікам крызісу АР можа быць Пуцін. Таму, быццам, існуе сцэнар падзелу партыі на дзве групоўкі: ліберальную і кансерватыўную, якую ўзначаліць Паклонская. Некаторыя эксперты нават кажуць, што новая партыя будзе называцца «Партыяй манархістаў».

Іншыя нагадваюць, што плёткі пра падзел АР на дзве і нават на чатыры партыі цыркулююць яшчэ з 2012 года. Аднак нават скептыкі пагаджаюцца з думкай, што «Адзіная Расія» сябе ўжо зжыла.

### Рафал Тшаскоўскі



Кандыдат на пасаду мэра Варшавы ад апазіцыйнай ліберальнай кааліцыі сенсацыйна перамог 20 кастрычніка на выбарах, атрымаўшы ўжо ў першым туры, паводле апытанняў, больш за 50 працэнтаў.

Пры гэтым асноўны праціўнік Рафала, які ішоў на выбары пад сцягам урадавай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS), атрымаў катастрафічна мала — каля 30 працэнтаў.

Перамога Тшаскоўскага, які з'яўляецца прафесарам гуманітарных навук, безумоўна, добры знак для лібералаў. Іх прадстаўнік і раней быў мэрам сталіцы, аднак у першым туры на выбарах ніхто ніколі не перамагаў. Не кажучы пра тое, што з 2015-га такога маштабу поспеху апазіцыя не ведала.

З іншага боку, на агульнанацыянальным узроўні PiS працягвае заставацца найбольш папулярнай партыяй за Бугам. За партыю Яраслава Качыньскага ў сярэднім па краіне 20 кастрычніка прагаласавалі каля 33 працэнтаў, у той час як за лібералаў — каля 24 працэнтаў. Такая мінорная для апазіцыі калькуляцыя тлумачыцца пасіўнасцю моладзі, якая ў прынцыпе супраць ураду, аднак галасаваць не любіць.

# Туркі ў Беларусі

## Як ваяры Султана будавалі Брэсцкую чыгунку, а Гасан-паша ледзь не стаў магілёўскім памешчыкам

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Руска-турэцкая вайна (1877–1878) скончылася 140 гадоў таму. Балгарыя і некаторыя іншыя вобласці былі вызваленыя ад Асманскага прыгнёту. А на тэрыторыі Расійскай імперыі, у тым ліку і ў Беларусі, з'явіліся ўзятыя ў палон туркі.**


Нерэгулярныя турэцкія вайсковыя часткі — башыбузукі

### Паганскі палон

Усяго ў палоне ў «белага цара» апынулася каля 100 тысяч атаманскіх салдат і афіцэраў. Як ставіліся да пераможанага ворага ў рускім войску? Асабліва з улікам таго, што самі туркі з палоннымі зусім не цырымоніліся. Так, пад Целішам непадалёк ад Плеўны туркі па-зверску дабілі сотні пакінутых на полі бою параненых салдат з лейб-гвардыі егерскага палка, адразаючы ім рукі, насы і галовы. Асабліва праславіліся лютасцю ірэгулярныя атрады башыбузукаў, набраныя ў Албаніі і горных абласцях Малой Азіі.

Але трэба адзначыць, што рускія салдаты з туркамі таксама не міндальнічалі. Напрыклад, як піша Сяргей Чэннык, падчас Крымскай вайны ў кастрычніку 1854 года ў бітве пад Балаклавай турэцкія гарнізоны палявых рэдутаў былі пераколатыя штыкамі амаль да апошняга чалавека. Затым Расійская імперыя падпісала Жэнеўскую канвенцыю 1864 года і прыняла шэраг унутраных актаў, якія рэгламентуюць гуманнае стаўленне да ваеннапалонных. Аднак выпадкі распраў і нежаданне браць асманаў у палон мелі месца і падчас вайны ў Балгарыі.

Першую буйную паразу з масавай здачай у палон асманы пацярпелі пад Плеўнай у лістападзе-снежні 1877 года. Праўда, паклаўшы, дзякуючы бяздарнаму царскаму камандаванню, вялікую колькасць рускіх салдат, якія загінулі падчас трох безвыніковых штурмаў. Але ў Плеўне здача ў палон 40-тысячнага войска мушыра (маршала) Асман-пашы адбывалася ў строгім парадку і, у асноўным, без эксцэсаў. Больш за тое, даследчык Віталь Пазнахіраў паведамляе, што рускія салдаты часам не давалі турэцкім унтэр-афіцэрам (чаўшам) біць палкамі сваіх аскераў, як гэта было прынята ў асманскай арміі. Аднак асноўнай масе турэцкіх палонных давялося некалькі сутак правесці пад адкрытым небам, амаль без ежы і пітва, пры снежных буранах і марозе ў мінус 21 градус па Цэльсію. Пры этапаванні туркаў за Дунай змёрзлыя трупы палонных высцілалі дарогу. Балгары ненавідзелі асманаў і не жадалі пускаць іх на начлег. Канвою часам даводзілася браць дамы амаль штурмам, каб размясціць там палонных.


Паранены балгарскі апалчэнец

Толькі з раёна Бухарэста частку брудных, хворых і галодных туркаў сталі везці ў бітком набітых таварных вагонах. А вось параненага Асман-пашу эвакуявалі ў асобным вагоне са спецыяльна замоўленым турэцкім інтэр'ерам. Саслоўнае грамадства — іерархічнае ва ўсім...

Многія з атаманскіх палонных апынуліся на Беларусі.

### Юзбашы на прагулцы

З XVIII стагоддзя існавала абмежаванне на размяшчэнне туркаў у Сібіры, дзе клімат быў цяжка пераносным для жыхароў паўднёвых шыротаў. Не сталі ў 1877 годзе размяшчаць туркаў у Польшчы, у мусульманскай частцы Паволжа і на Каўказе, заўсёды гатовых паўстаць супраць расійскага цара. Турэцкіх палонных чакалі ў дзвюх уласна расійскіх, у дзвюх украінскіх і ў адной беларуска-прыбалтыйскай ваенных акругах.

У Віленскай ваеннай акрузе турак размясцілі ў Магілёве, Гомелі, Рагачове, Быхаве, Чэрыкаве, Клімавічах, Вільні, Дзісне, Лідзе, Віцебску, Дынабургу, Крэслаўцы, Гродна, Брэсце, Беластоку, Ваўкавыску, Кобрыне, Пружанах, Гродна, у Саколцы, Мінску, Свіслачы, Бабруйску, Навагрудку і Пінску. Больш за ўсё ваеннапалонных было ў Гродзенскай губерні — 2597 чалавек, менш за ўсё ў Віленскай — 923. Усяго ў беларускіх губернях было размешчана 8548 палонных туркаў. Больш Віленскай прыняла толькі Маскоўская ваенная акруга.

Самая буйная партыя палонных туркаў трапіла ў Мінск — 1171. На другім месцы быў Віцебск — 691 асман. У Гродна прыбылі 545 ваеннапалонных, у Бабруйск — 422, у Навагрудак — 407. У Гомелі былі расквартаваныя 347 пададзеных султана, у Кобрыне — 320, у Брэсце — 187, у Быхаве — 184. Менш за ўсё туркаў размясцілася ў Клімавічах — усяго 66 чалавек.

Як паведамляе Віталь Пазнахіраў, некаторыя туркі пабывалі ў рускім палоне яшчэ ў Крымскую вайну 1853–1856 гадоў, а адзін 70-гадовы аскер умудрыўся быць паланёным тройчы: першы раз яшчэ ў вайну 1828–1829 гадоў.

З'яўленне асманаў у беларускіх гарадах і мястэчках выклікала сапраўдную сенсацыю сярод мясцовых абывацеляў. Людзі натоўпамі збягаліся глядзець на экзатычных «гасцей» з Усходу. Трэба сказаць, што сярод палонных былі не толькі этнічныя туркі, але і арабы, албанцы, курды, татары, чаркесы, армяне і нават афрыканцы. У атаманскім войску служылі таксама рускія казакі — «някрасаўцы», балгары, грэкі, венгры і палякі. Былі і добраахвотнікі з Англіі, Германіі і Швейцарыі.

Умовы знаходжання палонных былі розныя — у залежнасці ад воінскіх званняў. Асманскія пашы і афіцэры атрымлівалі ў палоне грашовыя аклады ад царскай казны практычна як рускія генералы і афіцэры. Атаманскім афіцэрам была прадстаўлена поўная свабода перамяшчэння ў межах пунктаў знаходжання. Асманскія бінбашы і юзбашы здымалі асобныя кватэры, шылі сабе мундзіры і модныя касцюмы ў мясцовых яўрэйскіх краўцоў і фарсілі па вечарах на вуліцах беларускіх гарадоў. Турэцкія афіцэры, як правіла, былі абаяльныя і камунікабельныя, вучылі рускую мову і хутка сталі сваімі ў мясцовым «вышэйшым свеце».

У Беларусі жылі тры турэцкія генералы: Хаджы Рашыд-паша і Гасан Кязім-паша ў Віцебску і Мустафа Гасан-паша ў Магілёве. Два першыя трапілі ў палон у кастрычніку 1877 года пад Авліярам на Каўказскім тэатры ваенных дзеянняў. У Авліяр-Аладжынскай бітве ўдзельнічалі і 159-ы Гурыйскі і 160-ы Абхазскі пяхотныя палкі, расквартаваныя пасля ў Рагачове і Гомелі. Ферык (дывізійны генерал) Мустафа Гасан-паша быў узяты ў палон у балгарскім Нікапалі ў ліпені 1877 года. Першапачаткова месцам знаходжання яму быў вызначаны Арол. Там двум турэцкім генералам і іх прыслузе адвялі тры нумары ў асобным калідоры гасцініцы на цэнтральнай вуліцы горада. Але Гасан-паша ўсё роўна праявіў непадпарадкаванне, заклікаючы аскераў адмаўляцца ад працы на рускіх. І ўпартага ферыка па прадстаўленні ваеннага міністра Дзмітрыя Мілюціна тэрмінова перавялі ў Магілёў. У палоне турэцкі генерал-лейтэнант атрымліваў 213 рублёў штомесяц, пры сярэднім заробку рускага рабочага прыкладна ў 7–10 рублёў.

### Беларускі плоў для турэцкіх аскераў

Значна горшым было становішча асманскіх салдат. Яны ўтрымліваліся пад аховай, для іх размяшчэння вылучаліся казармы, розныя гаспадарчыя памяшканні альбо здымаліся прыватныя дамы. Часцяком гэтыя памяшканні знаходзіліся ў кепскім стане альбо не былі прыстасаваныя для жылля. Прыватнікі неахвотна здавалі



Зверствы асманаў на Балканах. Аўстрыйская літаграфія, 1870-я гады

**Першую буйную паразу з масавай здачай у палон асманы пацярпелі пад Плеўнай у лістападзе-снежні 1877 года. Праўда, паклаўшы вялікую колькасць рускіх салдат, якія загінулі падчас трох безвыніковых штурмаў**

«Захоп Грывіцкага рэдута пад Плеўнай» (1885). Мікалай Дзмітрыеў-Арэнбургскі



www.wikipedia.org

дамы для туркаў, баючыся заразы або з нелюбові да «басурманаў». Хоць у той час і не было інтэрнэту, але тагачасная руская прэса надзейна зляпіла з туркаў вобраз ворага: крыважэрныя, дзікія гвалтаўнікі, што бязлітасна рэзалі праваслаўных славян на Балканах. Хаця такія факты, як ужо казалася, сапраўды здараліся, большасць турэцкіх салдат былі звычайнымі сялянамі, мабілізаванымі Портай на вайну.

Кармілі туркаў па нормах забеспячэння для ніжніх чыноў рускай арміі. У дзень шарагоўцу-аскеру належала кіло дзвесце жытняга хлеба і 130 грамаў круп. Усё астатняе, уключаючы 200 грамаў мяса, ён павінен быў купіць сам на «прыварачныя» грошы. Атрыманне часткі забеспячэння грашыма мела для туркаў перавагу — на іх яны маглі купляць прадукты звыклай ім нацыянальнай кухні. Але бяда была ў адным: напрыклад, рыс для іх упадабанага «пілава» каштаваў у нас вельмі дарага. Ад нязвыклага жытняга хлеба туркі пакутавалі, а белы хлеб тут каштаваў у два разы даражэй. Яшчэ асманам даводзілася выменьваць частку прадуктаў на гарбату і тытунь, паколькі гэтых відаў забеспячэння для ніжніх чыноў у Расіі не было. Адпаведна, турэцкія ваеннапалонныя часта недаядалі.

Да месца паланення туркі прыбывалі, як правіла, у зношаным і драным адзенні. Нягледзячы на ўсе захады па пашыву новай вопраткі і абутку, многія з іх працягвалі хадзіць у лахманах і сандалях. Захворванні зімой 1877–1878 гадоў сярод палонных былі страшныя. Чыннікаў таму было шмат: дрэнна ацепленыя памяшканні, недахоп цёплай вопраткі, цісканіна і антысанітарыя. Крыніцы таго часу схільныя былі вінаваціць у неахайнасці саміх турак. Але добра вядома, напрыклад, што палявыя лагеры корпуса янычараў яшчэ ў Сярэднявеччы адрозніваліся лепшым уладкаваннем адыходжых месцаў, чым аналагічныя размяшчэнні еўрапейскіх рыцараў. Яшчэ «патрыятычная» прэса пісала, што туркі, маўляў, не мыюцца і не ведаюць, што такое лазня. У той жа час данясенні расійскай адміністрацыі паведамляюць, што асманскія палонныя ў любое надвор'е здзяйснялі на вуліцы рытуальныя амыванні, з-за чаго часта хварэлі.

Як бы там ні было, але тыф, дызентэрыя іншыя інфекцыйныя захворванні касілі асманаў. У Віцебску тыфам захварэлі 152 туркі, 43 з іх памерлі. Усё гэта выклікала страх у мясцовых жыхароў. Як паведамляла беларуская даследчыца Аксана Яшчанка, жыхары Гомеля, у прыватнасці, абвінавачвалі турак у «распаўсюдзе заразы». На самай справе, пры тагачасным узроўні медыцыны ў царскай Расіі і адсутнасці многіх санітарных ведаў сярод насельніцтва эпідэміі тыфу, халеры, адзёру і іншага і без усялякіх туркаў былі частымі гасцямі ў беларускіх гарадах і мястэчках. У Крэйцбургу Віцебскай губерні насельніцтва амаль блакавала мясцовую лазню, не жадаючы дапускаць туды асманаў. Але ўладальнікі лазняў хутка павярнулі сітуацыю на сваю карысць і сталі ў 3–5 разоў завышаць кошты для туркаў на памыўку.

Трэба сказаць, што калі ўзровень смяротнасці палонных у некаторых ваенных акругах быў пад 50 працэнтаў, то ў Віленскім, дзякуючы прынятым камандаваннем захадам, ён быў адным з самых нізкіх — 12,7 працэнта.



Зверствы асманаў на Балканах. Аўстрыйская літаграфія, 1870-я гады

### Алі і Маруська

У цэлым стаўленне насельніцтва да туркаў было спакойнае. Нягледзячы на асобныя ўспышкі варожасці (галоўным чынам з боку рабочых, якія лічыліся тады самай буйной групай насельніцтва), беларусы і рускія ў цэлым да зрынутага ворага ставіліся паблажліва. Галодным і абарваным туркам ахвотна падавалі. Жыхар Свіслачы Шмарыя Левін успамінаў, як ён і іншыя падлеткі «набівалі кішэні кавалачкамі белага хлеба і жменямі рысу і адносілі ўсё гэта туркам». Паліцыі таксама было загадана спыняць праявы непрыязнасці да палонных.

Што тычыцца слабага полу, то мясцовыя прыгажуні дэманстравалі да паўднёвых брунетаў павышаную цікавасць, пра што любіла пісаць тагачасная прэса. Усіх мясцовых жанчын туркі называлі «Маруська». Амаль як на сучасных курортах Анталіі і Кемера, дзе мясцовыя лавеласы любяць называць усіх рускамоўных турыстак «Наташамі». Зрэшты, тады пра паездкі на курорты маглі думаць толькі прадстаўнікі вышэйшых арыстакратычных колаў, дый тое — у Крым ці Ніцу. А вось трафік славянскіх дзяўчат для занятку прастытуцыяй у Стамбул існаваў ужо тады.

Згодна з данясеннямі паліцыі, знакі ўвагі турэцкападданым аказвалі як прыстойныя паненкі з купчых і мяшчанак, так і прастытуткі. Туркі часцяком паводзілі сябе ў адносінах да жанчын вельмі назойліва, але ніводнага выпадку згвалтавання альбо замаху на яго не было.

Асманы прыцягваліся да працы — у прыватнасці, да пракладкі і рамонту Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыгунак. У раёне Кобрына, напрыклад, палонныя салдаты султана будавалі другую лінію шляху. Плацілі ім, як і рускім рабочым, па 40–50 капеек на дзень. Праўда, сур'ёзнай праблемай было няведанне туркамі

**Мясцовыя прыгажуні дэманстравалі да паўднёвых брунетаў павышаную цікавасць, пра што любіла пісаць тагачасная прэса. Мясцовых жанчын туркі называлі «Маруська». Амаль як зараз на курортах Анталіі мясцовыя лавеласы называюць усіх рускамоўных турыстак «Наташамі»**

мовы пры адсутнасці перакладчыкаў. Ці не адтуль пайшла ў нас характарыстыка чалавека, які нешта дрэнна разумее: «Ну ты турак!» Яшчэ асманы ахвотна наймаліся да прыватных гаспадароў — секчы дровы, чысціць прыбіральні, прыбіраць у дамах або працаваць на палях і гародах. У тым жа Кобрыне туркі або стаялі на «Лобным месцы», альбо расхаджвалі па вуліцах з сякерамі і рыдлёўкамі ў руках, прапаноўваючы свае паслугі. Адмысловае ўменне аскеры праявілі ў барацьбе з пажарамі — сапраўдным бічом тагачасных драўляных гарадоў. Магчыма, яны набылі яго ў сябе на радзіме, дзе ў гарыстай мясцовасці, ва ўмовах яшчэ большай шчыльнасці ўсходніх кварталаў і частых стыхійных бедстваў аж да землятрусаў, навыкі барацьбы з агнём навострываліся стагоддзямі?

Расійскі МЗС дазволіў міжвольным «гастарбайтэрам» не толькі весці паштовую і тэлеграфную перапіску з радзімай, але і адпраўляць у Турцыю грашовыя пераводы.

Таму асаблівых праблем турэцкія ваеннапалонныя мясцоваму насельніцтву не прыносілі. І, нягледзячы на паўсвабодны рэжым утрымання, паводзілі сябе спакойна, сціпла і ветліва. «Мінскія губернскія ведамасці» пісалі ў сакавіку 1878 года: «Палонныя туркі, верагодна, хутка пакінуць Мінск, дзе, трэба сказаць праўду, жылі ціха-ціха, бездакорна».

Эксцэсы, вядома, усё ж здараліся. Так, летам 1878 года шараговец Мустафа Гасан збег з палону і праз месяц быў знойдзены ў лесе пад Мінскам забітым. Зашытыя ў вопратку залатыя турэцкія манеты былі некранутыя.

Сто сорак гадоў таму, да восені 1878 года, пачалося вяртанне палонных на радзіму. Дывізійны генерал Гасан-паша напярэдадні свайго ад'езду з Магілёва даў баль, на якім прысутнічалі прадстаўнікі адміністрацыі, дамы з вышэйшага свету і некалькі афіцэраў, якія прыбылі ў Магілёў пасля фронту для лячэння. З'язджаючы дадому, турэцкія салдаты куплялі беларускім дзеткам прысмакі і садавіну. Трэба сказаць, туркі заўсёды адрозніваліся асаблівай любоўю і клопатам пра дзяцей.

Але некаторыя турэцкія вайскоўцы сталі «невяртанцамі». Прычыны маглі быць рознымі: каханне, хрысціянскае паходжанне, пераход у праваслаўе альбо іншае. Той жа Гасан-паша любіў у сваіх інтэрв'ю распавядаць журналістам, што абавязкова купіць пад Магілёвам пару маёнткаў і зажыве як сапраўдны расійскі пан. Як бы там ні было, але двое асманскіх палонных з Гомеля, як мяркуецца, афіцэры, адмовіліся вяртацца ў Турцыю. Згодна з «геаграфічна-статыстычным нарысам» Гомеля, у 1910 годзе туркі ў Гомелі складалі пятую па велічыні этнічную групу. Тут нават працавала турэцкая кандытарская. Магчыма, ёй валодалі тыя асманскія афіцэры, што вырашылі змяніць шаблю на рамяство булачніка, або іх нашчадкі. Салодкія піражныя з турэцкай кандытарскай славіліся па ўсім Гомелі.

Што ж, абмен прадукцыяй, навыкамі і ўменнямі — заўсёды лепш самай добрай сваркі. А калі справа і дайшла да ваеннага канфлікту, гуманнае стаўленне да палонных, якія, па сутнасці, ужо з'яўляюцца не ўдзельнікамі, а ахвярамі вайны, павінна быць непарушным законам.

# Навошта айцішніку дуда?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Ужо два гады фатаграфую гэтых дзіўных маладзёнаў, што ў сучасным горадзе чамусьці граюць на, падавалася б, зусім несучасным музычным інструменце — дудзе (калі хто не ведае, гэта беларускі адпаведнік валынкі). Чаму яны гэта робяць? Для каго? Навошта?**



Гурт «Trollwald» выступае на фестывалі «Купальскае кола» 23 чэрвеня 2018 года



Мікола Столяр выступае ў складзе гурта «Хмельны вір» на Свяце Сонца ў Дудутках, 16 чэрвеня 2018 года

Сённяшнія музыкі не заспелі сельскіх беларускіх дудароў. Быццам бы жывая традыцыя спынілася ў 1970-х гадах, а рух аднаўлення грання на дудзе распачаўся толькі ў 1980-я. Хаця ёсць гарадскія легенды, што да сярэдзіны 2000-х стары дудар жыў недзе ў Баранавічах у родных, але сучасныя музыкі так да яго і не даехалі.

Першае пакаленне гарадскіх дудароў, што распачыналі рух у 1980-х, — гэта нястачы і рамантыкі, вядомыя і за межамі пост-фольк асяродку: Алесь Лось, Тодар Кашкурэвіч, Алесь Жура. Цяпер яны граюць, але, падобна, што музыка — не асноўны іх занятак. Другое пакаленне кінулася ў музыку з галавой, стварала шматлікія гурты, некаторыя з іх сёння вельмі вядомыя: «Стары Ольса» (дудар Зміцер Сасноўскі), «Znich» (дудар Канстанцін Трамбіцкі), «Ветах» (дудар Вячаслаў Калацэй), «Pawa» (дудар Юрась Панкевіч), «Sakramant» (дудар Васіль Верабейчыкаў). Трэцяе пакаленне, што зайграла ўжо ў канцы 2000-х ці ў 2010-х гадах — гэта, па маіх назіраннях, ці людзі, звязаныя з новымі тэхналогіямі (айцішнікі, інтэрнэт-дызайнеры), ці, наадварот, хлопцы (пра дзяўчат пакуль не кажу) рабочых прафесій. Яны граюць на танцавальных вечарынах, невялікіх імпрэзах, але некаторыя паступова выходзяць і на «сапраўдную» сцэну.

**Дагэтуль шмат людзей не ведаюць пра беларускую дуду. Вельмі часта, рэпетуючы на вольным паветры, я адказваю на пытанні мінакоў, што гэта за інструмент. Гранне на дудзе вельмі прываблівае людзей. Таму я не здзіўлюся, калі ў нас у рэгіёнах пачнуцца новыя фестывалі, звязаныя з дудой**

Прадстаўнік апошняга пакалення дудароў **Мікола Столяр** адказаў на некалькі пытанняў.

***— Скажы, калі ласка, кім ты працуеш?***

— У сферы IT, я тэставальнік-мідл. Гэта значыць, маю вельмі добры досвед, але ў маім падпарадкаванні нікога няма.

***— Як ты захапіўся граннем на дудзе?***

— Гэта здарылася выпадкова. Гуляў з сябрамі па горадзе, калі яшчэ быў студэнтам. І мы натыкнуліся на афішку «2 Каляднага фэсту 2009» (ён праходзіў акурат у той жа дзень). Тады для мяне пачаліся медыеваль і фольк-метал. Выступ, як гаворыцца, зайшоў. І патрошку мяне зацягнула. Потым трапіў на Корч, там бліжэй пазнаёміўся з дудой, сярэднявечнымі і народнымі танцамі.

***— Чаму дуда? Што яна табе дае?***

— Я атрымліваю задавальненне ад грання на дудзе. Мне падабаецца яе гук. Калі набыў інструмент, мае жыццё стала цікавейшым. Разам з ёю я атрымаў і атрымліваю шэраг цікавых падзей і знаёмстваў.

***— Як мяркуеш, якія перспектывы ў дударскага руху?***

— Руху ёсць куды развівацца. Дагэтуль шмат людзей не ведаюць пра беларускую дуду. Вельмі часта, рэпетуючы на вольным паветры, я адказваю на пытанні мінакоў, што гэта за інструмент. Гранне на дудзе вельмі прываблівае людзей. Таму я не здзіўлюся, калі ў нас у рэгіёнах пачнуцца новыя фестывалі, звязаныя з дудой. Праз год ці два ўжо можа з'явіцца новае пакаленне дудароў. А дудары майго пакалення выйдуць на вышэйшую якасць выканання.

Тым часам сам Мікола акрамя грання на танцах выступае ў складзе гуртоў «Хмельны вір» і «Trollwald». Апошні нядаўна граў канцэрт з нагоды дня народзінаў свайго лідара і вакаліста Андруся Апановіча. Той, дарэчы, таксама дудар, экс-удзельнік гуртоў «Стары Ольса» ды «Litvintroll», і сцвярджае, што вакал у яго дуду не перамог. Але гэта — зусім іншая гісторыя.

**Фота аўтара**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1005

Падпісана да друку 26.10.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.